# БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай
мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2014

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
Б43

А ў т а р ы:

**В. П. Красней** («Фанетыка і арфаэпія. Графіка і арфаграфія», «Лексіка. Фразеалогія»);

**Я. М. Лаўрэль** («Мова — найважнейшы сродак зносін», «Паўтарэнне вывучанага ў I—IV класах», «Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 10, 11), «Падагульненне і сістэматызацыя вывучанага за год»);

**В. І. Несцяровіч** («Сінтаксіс і пунктуацыя» (§ 12—25));

**Л. С. Васюковіч** («Склад слова. Словаўтварэнне і арфаграфія»)

Р э ц э н з е н т ы:

кафедра беларускага мовазнаўства ўстановы адукацыі «Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка» (канд. пед. навук дац. *У. П. Саўко*);

настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 10 г. Мінска» *Л. М. Міхлюк*

**Умоўныя абазначэнні:**

|| — правіла;

| — для азнаямлення;

! — звярніце ўвагу;

⊙ — заданні павышанай цяжкасці;

● — дадатковыя заданні;

* — лексічнае значэнне слова тлумачыцца ў слоўніку;

ф — правесці фанетычны разбор слова;

сн — зрабіць сінтаксічны разбор словазлучэння, сказа;

с — разабраць слова па саставе;

сл — правесці словаўтваральны разбор слова;

л — правесці лексічны разбор слова

**ISBN 978-985-559-326-4 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-559-324-0**

# ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ

## § 1. Глухія, звонкія і санорныя зычныя. Іх вымаўленне і правапіс

**1.** Прачытайце. Вымавіце гучна і выразна гукі, якімі адрозніваюцца словы кожнай пары.

| | | |
|---|---|---|
| бас — пас | будка — дудка | май — чай |
| дом — том | пазік — тазік | вада — хада |

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Пры вымаўленні якіх гукаў выдыхаемае паветра сустракае перашкоду ў поласці рота?

2. Пры вымаўленні якіх гукаў чуецца голас і шум, а пры вымаўленні якіх — толькі шум?

Паводле ўдзелу голасу і шуму зычныя гукі падзяляюцца на глухія, звонкія і санорныя.

Зычныя гукі, якія ўтвараюцца толькі з шуму без удзелу голасу, называюцца **глухімі**. Да іх адносяцца гукі [к], [к’], [п], [п’], [с], [с’], [т], [ф], [ф’], [х], [х’], [ц], [ц’], [ч], [ш].

Зычныя гукі, якія ўтвараюцца з шуму пры ўдзеле голасу, называюцца **звонкімі**. Гэта гукі: [б], [б’], [г], [г’], [д], [д͡з], [д͡з’], [д͡ж], [ж], [з], [з’].

**Санорныя** зычныя гукі складаюцца з голасу і шуму, пры гэтым голас выразна пераважае над шумам. Да санорных адносяцца гукі [в], [в’], [л], [л’], [м], [м’], [н], [н’], [р], [й’], [ў].

⊙ **2.** З прыведзеных літар складзіце словы, а са слоў — прыказку. Запішыце прыказку і растлумачце яе сэнс.

е, з, д, і; е, н; о, т, й; с, п, а, е, ц, а, ц, т, ы, к, а; е, н; т, о, х

**3.** У прыведзеных словах выдзелены зычны гук замяніце іншым гукам, каб атрымалася другое слова. Запішыце пары слоў і растлумачце іх значэнне.

[ж]ыць — … [г]олад — … [з]ала — …
[б]от — … [т]ом — … [п’]ітон — …

● Дакажыце, што зычныя гукі дапамагаюць:
1) утвараць іншыя па значэнні словы;
2) адрозніваць розныя па значэнні словы.

Большасць звонкіх і глухіх зычных гукаў утвараюць пары па звонкасці/глухасці. Некаторыя зычныя гукі не маюць парных глухіх гукаў, а глухія — парных звонкіх.

| Парныя зычныя гукі па звонкасці/глухасці | | Не маюць парных зычных гукаў па звонкасці/глухасці | |
|---|---|---|---|
| звонкія | глухія | санорныя | глухія |
| [б], [б’] | [п], [п’] | [в], [в’] | [к], [к’] |
| [г], [г’] | [х], [х’] | [л], [л’] | [ф], [ф’] |
| [д] | [т] | [м], [м’] | |
| [ж] | [ш] | [н], [н’] | |
| [з], [з’] | [с], [с’] | [р] | |
| [д͡ж] | [ч] | [й’] | |
| [д͡з], [д͡з’] | [ц], [ц’] | [ў] | |

Звонкія і глухія зычныя гукі вымаўляюцца выразна і на пісьме абазначаюцца «сваімі» літарамі:

1) перад усімі галоснымі гукамі: **[дарога]**, **[н’эба]**, **[сады]**;

2) перад санорнымі зычнымі: **[слова]**, **[с’л’іва]**, **[размова]**, **[крок]**, **[абй’ава]**.

**4.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Назавіце звонкія і глухія зычныя ў выдзеленых словах і адпаведныя ім парныя гукі (калі ёсць).

Узор: *Гук* [д] *— звонкі, парны глухі — гук* [т]; *гук* [л] *— санорны, парнага глухога гука не мае.*

**Айчына. Бацькаўшчына. Радзіма.** Словы высокія, быццам неба над роднаю зямлёю. Як ні називай, яна застаецца тваёй сутнасцю, без яе ты нішто. І няма ў жыцці больш глыбокага і **святога** пачуцця, чым любоў да роднага кутка, да мілай Бацькаўшчыны, да любай нашай Радзімы. Ад веку ў век з гэтым пачуццём паўставалі людзі на яе абарону, мацавалі яе сілу і магутнасць, множылі **доблесць** і славу.

● Спішыце. У апошнім сказе падкрэсліце галоўныя члены сказа і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**5.** Прачытайце і рашыце прапорцыі. Для кожнай прапорцыі падбярыце з адпаведнымі парнымі зычнымі слова, якое павінна быць на месцы пытальніка.

том : ? = порт : борт
казка : каска = Глеб : ?
жар : шар = джын : ?

**6.** Прачытайце. Якія словы атрымаюцца, калі ў прыведзеных словах першы зычны гук замяніць адпаведным парным па звонкасці/глухасці гукам?

Цень, твор, сайка.

● Складзіце з утворанымі словамі розныя па мэце выказвання сказы і падкрэсліце ў іх літары, якія абазначаюць звонкія зычныя гукі.

**7.** Прачытайце і вызначце асноўную думку верша. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць глухія зычныя гукі.

Мне Богам дадзена Радзіма.
І я заручаны душой
З яе азёрнымі вачыма,
З яе жытнёвай цішынёй.

Мне Богам дадзена Радзіма...
Зноў, як замову паўтару:
«Мне без яе жыць немагчыма,
Без Беларусі я памру».

*З. Марозаў.*

● Да якіх глухіх зычных можна падабраць са слоў верша парны звонкі зычны? Запішыце пары гэтых гукаў.

**8.** Прачытайце выразна словы і скажыце, якія гукі абазначаны выдзеленымі літарамі.

| | |
|---|---|
| гры**б**ы — гры**б**кі — гры**б** | б — [б — п — п] |
| бя**г**у — бе**г**чы — бе**г** | г — [г — х — х] |
| са**д**ок — у са**д**ку — са**д** | д — [д — т — т] |
| пра**с**іць — про**с**ьба | с — [с’ — з’] |
| мала**ц**іць — мала**ц**ьба | ц — [ц’ — дз’] |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якіх словах выдзеленыя літары абазначаюць «свае» гукі? У якой пазіцыі знаходзяцца гэтыя гукі?

2. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары ў астатніх словах? Чым гэта тлумачыцца?

У вымаўленні парныя звонкія і глухія зычныя гукі могуць замяняць адзін аднаго:

1) звонкія зычныя вымаўляюцца глуха (аглушаюцца) перад глухімі зычнымі і на канцы слова: *дубкі* — ду[п]кі, *дуб* — ду[п];

2) глухія зычныя вымаўляюцца звонка (азванчаюцца) перад звонкімі зычнымі: *просьба* — про[з']ба.

**9.** Запішыце пары слоў. Прачытайце і скажыце, ці ёсць розніца ў вымаўленні слоў кожнай пары. Абгрунтуйце сваю думку.

Везці — весці, грыб — грып, мох — мог, ножка — ношка, плот — плод.

**10.** Уважліва прачытайце тэкст. Чаму ён вучыць?

У беларускай мове нямала слоў з парнымі звонкімі і глухімі зычнымі, напісанне якіх патрабуе асаблівай увагі. У такіх выпадках на дапамогу заўсёды гатовы прыйсці праверачныя словы з галоснымі ці санорнымі зычнымі, перад якімі любы невыразны гук вымаўляецца выразна, і адразу становіцца зразумелым, якой літарай патрэбна перадаць яго на пісьме: *кні..ка* (*ж* ці *ш*?) — *кніжачка, кніжны* — *кніжка*; *про..ьба* (*з* ці *с*?) — *прасіць* — *просьба*.

● Сфармулюйце правіла аб правапісе звонкіх і глухіх зычных гукаў.

**11.** Да выдзеленых слоў падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем. Спішыце пары словазлучэнняў, дапісваючы падабраныя словы.

*Лёгкая* сумка — ... сумка, *высокая* елка — ... елка, *густое* жыта — ... жыта, *шырокі* праход — ... праход.

● Падкрэсліце ў прыметніках літару, якая абазначае зычны гук, што вымаўляецца невыразна. Як праверыць правільнасць напісання такіх слоў?

⊙ **12.** Прачытайце словы. Ці можна да кожнага з іх падабраць праверачныя словы?

Аўтамат, вакзал, дарожка, касьба, пасадка, падказка, разведчык, трамвай, трактар, футбол, экскурсія.

Правапіс слоў, у якіх напісанне звонкіх і глухіх зычных гукаў нельга праверыць, вызначаецца па арфаграфічным слоўніку: *ай**с**берг, баске**т**бол, ва**к**зал, фу**т**бол, экзамен, А**ф**ганістан*.

**13.** Прачытайце словы. У кожным радзе знайдзіце пятае «лішняе» паводле напісання слова.

1. Павя*(з/с)*ка, despite ука*(з/с)*ка, праде*(з/с)*ка, бяро*(з/с)*ка, зама*(з/с)*ка.
2. Зага*(д/т)*ка, яга*(д/т)*ка, кве*(д/т)*ка, зара*(д/т)*ка, сусе*(д/т)*ка.
3. Сце*(ш/ж)*ка, карму*(ш/ж)*ка, сырае*(ш/ж)*ка, ця*(ш/ж)*ка, сне*(ш/ж)*ка.

● З «лішнімі» словамі складзіце і запішыце развітыя сказы. Дададзеныя члены сказа падкрэсліце.

**14.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

1. А хле.. здабываецца ця..ка, яму самы ні..кі паклон *(П. Панчанка)*. 2. Лё..ка і мякка ступаюць мае босыя ногі па асеннім ворыве *(І. Грамовіч)*. 3. Я стаў уяўляць чаро..кі ластавак там, на сваёй радзіме *(А. Кулакоўскі)*. 4. Маладой бяро..цы павязала восень жоўтую хусцінку з белай павуцінкай *(Я. Пушча)*. 5. Лес то густы, непрала..ны, то рэ..кі, я праз яго, як праз ка..ку, іду *(М. Шахавец)*.

## § 2. Свісцячыя і шыпячыя зычныя. Іх вымаўленне і правапіс

**15.** Прачытайце. Вызначце, якія гукі ў першым тэксце дапамагаюць уявіць карціну мяцеліцы, а ў другім — перадаюць шум колаў машыны.

1. Пуржыць, мяце мяцеліца,
Пялёнкай цёплай сцелецца.
Мяцеліцай раз’юшанай
Свет белы зацярушаны. *К. Буйло.*

2. Шуршыць ізноўку на шашы
Пятровіча машына.
Нідзе нікога, ні душы,
Адно гамоняць шыны. *П. Броўка.*

● Вымавіце гукі [з], [с] і [ш], [ч]. Чым адрозніваецца вымаўленне гукаў [з], [с] ад вымаўлення гукаў [ш], [ч]?

Зычныя гукі [з], [з’], [с], [с’], [д͡з], [д͡з’], [ц], [ц’] называюцца **свісцячымі**, а гукі [ж], [ш], [д͡ж], [ч] — **шыпячымі.**

**16.** Спішыце і падкрэсліце літары, якія абазначаюць свісцячыя гукі, адной рыскай, а шыпячыя — дзвюма. Чаму паэт падабраў словы з такімі гукамі?

Вецер рэзкі і пявучы
Часта свішча пад акном,
Снегам жорсткім тне балюча
І скуголіць за акном.

Рэкі ўсё яшчэ, азёры
Закаваны моцна ў лёд.
Ды ўжо сніцца ціха зорам
Крыгаход і веснаход.

*М. Машара.*

**17.** Прачытайце. Вызначце, напісанне якіх слоў не адпавядае вымаўленню. Спішыце і падкрэсліце гэтыя словы.

1. У хаце былі расчынены і вокны, і дзверы *(А. Савіцкі)*. 2. Бярозы белымі ствааламі адбіваліся ў чорнай рэчцы *(В. Карамазаў)*. 3. У грубцы ясна запалалі дровы, паплыў да неба хмарнага дымок *(С. Басуматрава)*.

● Зрабіце гукавы запіс падкрэсленых слоў.

Зрабіце вывад, як вымаўляюцца свісцячыя гукі перад шыпячымі, а шыпячыя — перад свісцячымі.

У словах свісцячыя гукі перад шыпячымі вымаўляюцца як шыпячыя, а шыпячыя гукі перад свісцячымі — як свісцячыя: *перапісчык* — *перапі*[ш]*чык, на кладачцы* — *на клада*[ц]*цы.*

**18.** Прачытайце словы ў адпаведнасці з правіламі вымаўлення. Як даказаць, што словы напісаны правільна?

Разносчык, на рэчцы, вучышся, перавозчык, па сцежцы, пясчаны, сшытак.

**19.** Спішыце, выбіраючы патрэбную літару. Растлумачце яе напісанне.

1. Сце*(ж/ш)*ку абступілі вялікія чырвона-белыя вяргіні *(В. Адамчык)*. 2. На ўзбярэжжы, пад белай таполяй, залатыя пя*(с/ш)*чынкі, як зоркі *(М. Шахавец)*. 3. Косы слупок сонца свяціў у ву*(с/з)*кі калідор, у ра*(с/ш)*чыненыя дзверы Чэсінай хаты *(В. Адамчык)*. 4. Іду на заданне я сёння: разве*(т/д)*ка даручана мне *(А. Астрэйка)*. 5. Надышлі замара*(с/з)*кі, і зямля адзывалася пад нагамі лё*(г/х)*кім звонам *(М. Лынькоў)*. 6. Міхась расцягнуў у лагоднай усме*(ш/с)*цы шырокі рот *(А. Капусцін)*. 7. Стройная жанчына ў чорнай жаке*(т/ц)*цы і ў квяцістай хус*(т/ц)*цы горача даводзіла нешта чарняваму му*(ж/ш)*чыну *(Т. Хадкевіч)*.

**20.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Без цябе, Радзіма, я — пя..чынка, а з табой — гранітная скала *(П. Глебка)*. 2. Я зямлі сваёй абшары пазнаю па квета..цы адной, па кусціку адзіным *(С. Басуматрава)*. 3. Зямля ж тут, бра..цы, залатая *(Я. Колас)*. 4. Весела на рэ..цы і траве і кве..цы *(Я. Колас)*. 5. Блудзіць сце..кай ласінай маладзенькі маро.. *(Г. Пашкоў)*. 6. Вецер гнаў па небе рэ..кія белыя воблакі *(І. Шамякін)*. 7. З-за саду выглянуў прамень і скача па паду..цы. Ах, прыйдзе, прыйдзе ясны дзень на радасць весялу..цы *(Р. Баравікова)*.

# § 3. Цвёрдыя і мяккія зычныя, іх вымаўленне і правапіс

**21.** Разгледзьце малюнкі і выразна вымавіце словы, якія абазначаюць намаляваныя прадметы.



**АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ**

1. Чым адрозніваюцца гукі, якія вымаўляюцца ў пачатку першага і другога слоў?

2. Якія зычныя гукі чуюцца на канцы другога і трэцяга слоў? Якая розніца паміж гэтымі гукамі?

У беларускай мове адрозніваюцца **цвёрдыя** і **мяккія** зычныя гукі. Большасць цвёрдых і мяккіх зычных утвараюць пары:

| | |
|---|---|
| [б] — [б'], | [м] — [м'], |
| [в] — [в'], | [н] — [н'], |
| [г] — [г'], | [п] — [п'], |
| [д] — [дз͡'], | [с] — [с'], |
| [з] — [з'], | [т] — [ц'], |
| [к] — [к'], | [ф] — [ф'], |
| [л] — [л'], | [х] — [х']. |

Не маюць парных гукаў зацвярдзелыя зычныя [ж], [дж͡], [ч], [ш], [р], [ц], цвёрды гук [ў] і мяккі зычны [й'].

**22.** Прачытайце пары слоў. Якімі гукамі яны адрозніваюцца? Запішыце словы і гукі паводле ўзору.

У з о р: *нагода* — *нягода:* [н] — [н’].

Воз — вёз, лук — люк, пэўны — пеўні, напісаны — няпісаны, рыс — рысь, вугал — вугаль.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці ёсць у алфавіце асобныя літары для абазначэння парных цвёрдых і мяккіх зычных гукаў?

2. Якія літары дапамагаюць абазначаць цвёрдасць, а якія — мяккасць зычных гукаў на пісьме?



Мяккасць зычных на пісьме абазначаецца двума спосабамі:
1) з дапамогай мяккага знака;
2) з дапамогай літар ***е, ё, ю, я, і***.

**23.** Прачытайце словы, выразна і працяжна вымаўляючы першы склад. Ці можна на прыкладзе гэтых слоў сказаць, што цвёрдыя і мяккія зычныя гукі дапамагаюць адрозніваць словы?

Баліць — бяліць, выток — віток, васковы — вясковы, ласун — лясун, мішка — мышка, плітка — плытка, сіпкі — сыпкі, сядок — садок.

● Як абазначаецца мяккасць зычных на пісьме?

**24.** Выразна прачытайце словы, змешчаныя справа.

Скажыце, перад якімі зычнымі гукамі (цвёрдымі ці мяккімі) гукі [з], [с] вымаўляюцца мякка.

Складзіце з гэтымі словамі пяць словазлучэнняў і запішыце іх. Абазначце галоўнае слова ў кожным словазлучэнні.

*збіраць* [з’]
*свята* [с’]

А л е перад [г’], [к’], [х’]:

*згінуць* [з]
*скінуць* [с]
*схіліць* [с]

Зычныя гукі [з], [с] перад наступнымі мяккімі зычнымі, акрамя [г’], [к’], [х’], вымаўляюцца мякка.

**25.** Спішыце. Падкрэсліце літары, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі. Назавіце гук, які не мае парнага цвёрдага.

Сцяжынка лясная, за рэчкаю хата,
Уранні над лугам плывуць туманы...
Ніколі, радзіма, чужой не была ты,
Ніколі журбой* не прыходзіла ў сны.

І што б ні было там — чужыны не трэба,
З маленства навекі душой палюбіў
Зялёнае поле, блакітнае неба,
Світанні над лесам і золата ніў.

*А. Бачыла.*

● Вызначце асноўную думку верша.



Адрознівайце гук [дж] ад спалучэння гукаў [д] + [ж] і гукі [дз], [дз’] ад спалучэння гукаў [д] + [з], [д] + [з’]: [хаджу], [паджылкі], [дзынкаць], [дз’энь], [падз’эмны].

**26.** Спішыце сказы са словамі, у якіх спалучэнні літар ***дж, дз*** абазначаюць спалучэнні гукаў [д] + [ж] і [д] + [з]. Абазначце ў гэтых словах прыстаўку і корань.

1. У дубах салаўі адсвісталі, адзвінеў над палямі жаўрук *(А. Пысін)*. 2. А ўжо нават сам дрыготкі адзімак* вяшчуе звонка: «Ідзе вясна!» *(К. Кірэенка)*. 3. Даўно за лесам — ціхім борам — адзвінела песня ў жытніх хвалях *(В. Вітка)*. 4. Пчо-

лы наджалілі так, што Мальвіна не пазнала хлопца *(І. Дуброўскі)*. 5. Чакаю, што вось-вось пакажацца чорная ці паджарая* шапка грыба *(Б. Сачанка)*. 6. Па ўсіх адзнаках ураджай павінен быць добры *(І. Гурскі)*. 7. Пакуль паджалі гэты палетак, то жыта паспела і на лагчыне *(Р. Мурашка)*. 8. Растрэслі адзенне лясы, даўно адцвілі верасы *(Я. Колас)*. 9. Добрая рэч — каса́, а ўсё ж аджыла яна сваё *(І. Кірэйчык)*.

## § 4. Зацвярдзелыя зычныя, іх вымаўленне і правапіс

**27.** Прачытайце словы. Скажыце, як вымаўляюцца зычныя гукі, абазначаныя выдзеленымі літарамі. Ці маюць яны ў беларускай мове парныя мяккія гукі?

| | | |
|---|---|---|
| **ж**ывы | **ж**алеза | **ж**оўты |
| агаро**дж**а | дож**дж**ык | ура**дж**ай |
| **р**ака | ста**р**ы | за**р**эчны |
| **ц**ана | авія**ц**ыя | а**ц**энка |
| **ч**ысты | па**ч**эсны | **ч**арніцы |
| **ш**осты | вяр**ш**ыня | пара**ш**ут |

У беларускай мове зычныя гукі [ж], [д͡ж], [р], [ц], [ч], [ш] вымаўляюцца заўсёды цвёрда. Яны называюцца **зацвярдзелымі.**

Пасля зацвярдзелых зычных пішуцца літары ***а, о, у, ы, э***: *р**а**ка, ж**о**луд, паж**у**р**ы**ць, ц**ы**ркуль, ш**э**лест*.

З а ў в а г а. У беларускай мове ёсць мяккі гук [ц’], але ён утварае пару з цвёрдым гукам [т]: *хата* — *у ха**це**, палёт — у палё**це***.

**28.** Прачытайце пары слоў, напісаных па-руску і па-беларуску. Скажыце, у якіх словах, запісаных па-беларуску, зацвярдзелы гук [ц], а ў якіх — мяккі гук [ц’].

| | |
|---|---|
| циркуль — цыркуль | тишина — цішыня |
| солнце — сонца | тень — цень |
| оценка — ацэнка | тёмный — цёмны |

● З трыма словамі складзіце развітыя сказы.

**29.** Выразна прачытайце словы, змешчаныя справа, і растлумачце іх значэнне. Складзіце і запішыце з гэтымі словамі словазлучэнні.

***брашу́ра***
***журы́***
***парашу́т***

**30.** Прачытайце тэкст і вызначце яго асноўную думку. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

Родная мова дапамагае глыбока зразумець сваю Айч..ну. Яе словы — як зярняткі для мукі, як зоркі для неба, як нектар для кветак. Слова беларускае — ж..вое, гаваркое, музычнае, напеўнае, непаўторнае. Вуч..ныя даказваюць, што беларуская мова найбліж..й стаіць да стараж..тнай славянскай гаворкі. Знач..ць, яна да таго ж і духоўны помнік даўніны. Мы ўсе павінны берагч.. гэты спадч..нны скарб наш..х продкаў.

Яе трэба запусціць у душ.., ёю трэба дасканала валодаць, і тады ж..вая, напеўная мова раскаж.. ўсяму свету і пра наш.. Беларусь *(У. Ліпскі)*.

**31.** Прачытайце тэкст і дайце яму загаловак. Якімі вы ўяўляеце Лёніка, дзеда Змітрука і дзядзьку Сцяпана? Дакажыце гэта, карыстаючыся тэкстам.

Лёнік добра перакусіў і шпурнуў акраец хлеба ўздоўж дарогі.

— Ай-яй, нядобра! — кажа дзед Змітрук. — Навошта ж так: хлеб жа!

Дзядзька Сцяпан коратка кідае хлопцу:

— Ану падбяры!

— Хэ, падумаеш, скарынка! Мала вам хлеба, ці што?! — абыякава адгаворваецца Лёнік.

— Падбяры хлеб, лайдак! — сурова ўжо выкрыквае дзядзька Сцяпан і не зводзіць позірку з Лёніка...

Лёнік неахвотна падыходзіць да акрайчыка ў каляіне, азіраецца, супраць сваёй волі нахіляецца і паднімае хлеб з дарогі.

— Нягожа, нягожа так хлеб шпурляць, — нязлосна кажа дзед Змітрук. — Ад хлеба, брат, жыццё на зямлі... Маладота — дурнота, хіба яна цяміць...

Дзядзька Сцяпан на тое злосна паварочваецца да дзеда і кідае коратка і сурова, як прысуд:

— Разумець трэба! Не маленькі! *(Паводле В. Быкава).*

● Складзіце план і напішыце пераказ.

**32.** Спішыце. Падкрэсліце галосныя літары, якія пішуцца пасля зацвярдзелых зычных.

Даўным-даўно, аж больш за 500 гадоў таму, у старажытным Полацку ў сям'і мясцовага купца Лукі нарадзіўся сын. Ён вырас і сваім духоўным подзвігам на стагоддзі праславіў нашу Бацькаўшчыну. Яго імя — Францыск Скарына. Сёння ім справядліва ганарыцца беларускі народ.

● Скажыце, чаму пасля літар ***ж, дж, р, ч, ш*** у беларускай мове не пішуцца літары ***е, ё, ю, я, і***.

● Якія кнігі, выдадзеныя Францыскам Скарынам, вы ведаеце?

## § 5. Змякчальны мяккі знак

**33.** Прачытайце выразна сказы.

1. І колькі ёсць сілы,
   Ары, барануй, засявай.
   *Я. Купала.*

2. Ударыў колкі і густы,
   Нібы іголкі, дождж.
   *П. Броўка.*

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якімі гукамі адрозніваюцца паміж сабой словы *колькі* і *колкі*?

2. Чаму ў першым слове пасля літары ***л*** пішацца мяккі знак, а ў другім не пішацца?

Змякчальны мяккі знак пішацца для абазначэння мяккасці зычных [з'], [с'], [$\widehat{дз}$'], [ц'], [л'], [н']:

- у канцы слова: *бол**ь**, ален**ь**, княз**ь**, лос**ь**, мядзведз**ь**, шэсц**ь**, кін**ь***;
- у сярэдзіне слова перад цвёрдымі, а пасля [л'], [н'] і перад мяккімі зычнымі: *Куз**ь**ма, кас**ь**ба, дзядз**ь**ка, бац**ь**ка, вол**ь**ны, аган**ь**кі, пал**ь**цы, Мал**ь**віна.*

В ы к л ю ч э н н е: словы з падоўжанымі зычнымі ***л, н, з, с***: *вясе**лл**е, ра**нн**е, пало**зз**е, памя**цц**ю.*



Каб не памыліцца пры напісанні мяккага знака ў сярэдзіне слова паміж зычнымі, трэба кіравацца наступным:

● калі пры змене формы слова ці ў аднакаранёвых словах наступны мяккі змяняецца на цвёрды зычны, а папярэдні застаецца мяккім, трэба пісаць мяккі знак: *вазьмі (вазь**му**), вас**ь**мёрка (вос**ь**мы), дзядз**ь**кі (дзядз**ь**ка), бац**ь**кі (бац**ь**ка)*;

● калі ж пры змене формы слова ці пры падборы аднакаранёвага слова наступны мяккі не змяняецца на цвёрды, то тады мяккі знак не пішацца: *песня — песні, пясняр; чацвер — чацвяргом; дзверы — дзвярэй.*

**34.** Прачытайце і скажыце, чаму ў адных словах мяккі знак пішацца, а ў другіх не пішацца. Выпішыце словы, у якіх зычны змякчаецца перад наступным мяккім зычным.

Просьба, **песня,** дзверы, **змена,** вазьму, зборы, позні, выказнік, лісце, спазніцца, сядзьце, сустрэць, сустрэньце, **радасць,** дзьме, цьма, Дзмітрый.

***дзве***
***ле́дзьве***
***но́сьбіт****

● З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы, падкрэсліце граматычную аснову.

Мяккі знак не пішацца ў с я р э д з і н е і н а к а н ц ы слоў пасля літар, якія абазначаюць зацвярдзелыя зычныя гукі [ж], [д͡ж], [ч], [ш], [р], [ц], цвёрдыя [д], [т], [б], [в], [м], [п], [ф]: *залеж, дождж, мыш, мышшу, печ, печчу, цар, Сібір, жолуд, голуб, вераб'і, В'етнам, інтэрв'ю, сем, восем, стэп, цэп, п'едэстал*, верф.*

**35.** Прачытайце пары слоў. Вымавіце гукі, якімі адрозніваюцца словы кожнай пары. Якую ролю выконвае ***ь*** і літары ***е, ё, ю, я, і***?

Быў — біў, бэз — без, ваду — вяду, сын — сінь, вугал — вугаль, лук — люк, рыс — рысь, сок — сёк.

● Запішыце словы з мяккімі зычнымі ў два слупкі ў адпаведнасці са спосабамі абазначэння мяккасці.

**36.** Разгледзьце малюнак і паводле яго складзіце невялікі тэкст тыпу апавядання. Выкарыстайце, па магчымасці, словы з мяккім знакам.



Словы для выкарыстання: *Алесь, вельмі, бацька, маленькі, студзень, штодзень, прылятаюць.*

**37.** Прачытайце і дайце загаловак тэксту. Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, мяккі знак.

Харошы ў Дабрасел..цах лес. Калі с..нег ідзе ледз.. не кожны дзен.., ён падобны на казку. Праплыве па верхавінах хвойніку невялікі ветрык, і да вашага слыху даляціц.. лёген..кае дзын..кан..не. Гэта ліс..це маладога дубка звоніц.. пры кожным дотыку ветру.

На ніжніх лапках ялінак стол..кі с..негу, што атрымаліся с..нежныя хаткі. Там суха, утул..-на, дол высланы жоўтымі шыпул..камі *(Паводле А. Кулакоўскага)*.

## § 6. Раздзяляльны мяккі знак і апостраф

**38.** Выразна прачытайце наступныя пары слоў.

поле — палье
канём — шампіньён
палю — палью
міля — мільянер
маліна — ільінка*

рыба — бязрыб'е
бабёр — аб'ём
сямю — сям'ю
абяцаць — аб'яднаць
сямі — сям'і

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якіх словах літары ***е, ё, ю, я, і*** абазначаюць адзін гук?

2. У якіх словах тыя ж літары абазначаюць два гукі? Назавіце гэтыя гукі.

3. Пасля якіх зычных у словах перад літарамі ***е, ё, ю, я, і***, калі яны абазначаюць два гукі, пішацца мяккі знак, а пасля якіх — апостраф?

Раздзяляльны мяккі знак пішацца пасля мяккіх зычных перад літарамі ***е, ё, ю, я, і***, калі яны абазначаюць гукі [й'э], [й'о], [й'у], [й'а], [й'і]: *Марэ**сье**й, пашта**льё**н, са**лью**, мі**лья**рд, І**льі**нскі*.

Апостраф пішацца пасля прыставак і ў сярэдзіне слоў пасля цвёрдых зычных перад ***е, ё, ю, я, і***: *ра**з'е**зд, па**д'ё**м, ра**з'ю**шаны, а**б'я**ва, а**б'і**нец, надво**р'е**, ку**п'ё**, вера**б'ю**, ся**м'я**, Ма**р'і***.

З а ў в а г а. Пасля ***ў*** (у нескладовага) апостраф не пішацца: *здаро**ўе**, сала**ўё**м, аба**ўю**ць*.

**39.** Выпішыце ў адзін слупок словы са змякчальным мяккім знакам, а ў другі — словы з раздзяляльным мяккім знакам. У чым асаблівасць вымаўлення слоў другога слупка?

Аркадзьеў, Арсеньеў, вольны, дзядзька, **канферансье***, **павільён***, палью, **парцьера***, песенька, пісьменнік, цьмяны, кампаньён, пальма.

● Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Складзіце з імі простыя сказы. Запішыце іх і падкрэсліце галоўныя і даданыя члены сказа.

***пяць*** ***мя́та*** ***мя́са***

**40.** Прачытайце. Растлумачце напісанне мяккага знака і апострафа.

1. Чыя тут песня ў душу льецца? *(Я. Колас)*. 2. Зноў ты будзеш, Беларусь, квітнець з сям'ёй народаў вольных *(М. Танк)*. 3. Пры дарозе б'е нізкі паклон кучаравы лянок валакністы *(М. Хведаровіч)*. 4. Лістоту жоўтую з двара віхор раз'юшаны змятае *(У. Папковіч)*. 5. І хата ў бярозах на самым узгор'і *(А. Пісьмянкоў)*. 6. Серабрыцца снег, мігаюць мільёны брыльянцістых іголак *(М. Лынькоў)*.

● Ахарактарызуйце зычныя гукі ў словах *жоўтую, узгор'і*.

**41.** Запішыце пад дыктоўку. Растлумачце напісанне раздзяляльнага мяккага знака і апострафа ў словах.

Аб'ехаць на машыне, **з'есці мятную цукерку,** з'явіліся **вераб'і,** дзядзька Дзям'ян, Кандрацьева Дар'я Ільінічна, льецца песня над прасторам, працавітая **сям'я,** птушынае пер'е, салаўіная песня,

рака Амудар'я, рака Сырдар'я, мільярды прамянёў, куп'істае балота, моцнае здароўе.

● Зрабіце гукавы запіс выдзеленых слоў у адпаведнасці з тым, як яны вымаўляюцца ў літаратурнай мове і ў гаворцы вашай мясцовасці. Чым адрозніваецца мясцовае вымаўленне гэтых слоў ад літаратурнага?

**42.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, мяккі знак ці апостраф. Растлумачце іх напісанне.

1. Над рачулкай гаманлівай заводзяц.. пес..ню салаў..і *(Я. Колас)*. 2. Дзядз..ка Куз..ма змоўк, і мы доўга ішлі і маўчалі *(У. Аляхновіч)*. 3. Сіняватая вада б..е ў берагі, хвалі як бы гамоняц.. адна з адной *(Р. Сабаленка)*. 4. Цін..кае ў стылым гал..лі птаха *(Г. Пашкоў)*. 5. Заплакала зіма пад капяжамі міл..ёнамі слёз *(Я. Колас)*. 6. Першы жоўты лісток на бярозе з..яўляецца вел..мі рана *(К. Чорны)*. 7. Міл..ярды аген..чыкаў адс..вечваліся ў с..няжынках белага покрыва зямлі *(Я. Колас)*. 8. Сям..я вераб..ёў чутна ў шыбіны б..е *(М. Танк)*.

## § 7. Зычныя [д] — [$\widehat{\text{дз}}$'], [т] — [ц'], іх вымаўленне і правапіс

**43.** Выразна прачытайце пары слоў і назавіце парныя зычныя гукі, якія чаргуюцца. Спішыце словы і падкрэсліце літары ***дз, ц*** і ***д, т*** разам з наступнымі галоснымі.

| | |
|---|---|
| згода — у згодзе | хата — у хаце |
| іду — ідзём | студзень — сцюжа |
| вада — вадзяны | табе — у цябе |
| малады — маладзік | мост — мосцік |

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Перад якімі літарамі цвёрдыя гукі [д], [т] чаргуюцца з мяккімі гукамі [дз'], [ц']?

2. Як адлюстроўваецца на пісьме гэта чаргаванне?

Гукі [д], [т] пры змякчэнні пераходзяць у [дз'], [ц'], якія на пісьме перадаюцца праз ***дз*** і ***ц***.

***Дз*** і ***ц*** пішуцца:

- перад літарамі ***е, ё, ю, я, і***: *у гора**дз**е, вя**дз**ём, **ц**юльпан, **ц**ясляр, **ц**ікавы*;
- перад літарай ***в***, калі яна абазначае мяккі гук [в']: ***дз**ве, ба**ц**вінне, Ма**ц**вей*; а л е: *бітва — у бі**т**ве, клятва — кля**т**ве, Літва — у Лі**т**ве*;
- перад суфіксамі ***-ін, -ір, -ік, -ёр, -еец, -ейск-*** у запазычаных словах: *блан**дз**ін, брыга**дз**ір, жаке**ц**ік, ак**ц**ёр, ін**дз**еец* (а л е: *Індыя, індыец*), *гвар**дз**ейскі*.

Гук [д] у канцы прыстаўкі і гук [т] у складзе суфікса вымаўляюцца цвёрда і перад мяккім [в'], таму на пісьме захоўваюцца літары ***д*** і ***т***: *па**д**везці, у таварыс**т**ве*.

**44.** Прачытайце і вызначце асноўную думку верша. Дайце яму загаловак. Растлумачце правапіс ***дз, ц*** у выдзеленых словах.

Знайдзі з усіх
адно сваё прызванне,
**Знайдзі** сваю сярод другіх дарог.
І **шчасце будзе,**
нібы хлеб **надзённы,**
Заўсёдным **госцем** за тваім сталом.
Павагай да **людзей**
і ў **дзень будзённы,**
І ў святы хай напоўніцца твой дом.

Тады парог неераступяць беды,
Сяброўскіх рук адчуеш ты **цяпло;**
Жыві, твары і мудрасць продкаў ведай:
Пасей дабро — тады пажнеш дабро. *А. Руцкая.*

● Ахарактарызуйце першы сказ па мэце выказвання і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў ім.

● Назавіце гукі і літары ў слове *заўсёдным*.

**45.** Змяніце форму слоў ці падбярыце аднакаранёвыя, каб у іх [д], [т] чаргаваліся з [д͡з’], [ц’]. Запішыце пары слоў і растлумачце, пры якой умове адбываецца чаргаванне гэтых гукаў.

Горад — ..., свет — ..., палёт — ..., брыгада — ..., жыта — ..., вятры — ..., сады — ..., жоўты — ..., агарод — ..., ракета — ... .

**46.** Прачытайце запазычаныя словы і скажыце, якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары ***д, т*** у рускай і беларускай мовах.

**д**евиз — **д**эвіз　　　**т**еатр — **т**эатр
**д**испут — **д**ыспут　　　ар**т**ист — ар**т**ыст

У беларускай мове ў запазычаных словах гукі [д] і [т] звычайна вымаўляюцца цвёрда і перадаюцца на пісьме літарамі ***д, т***: ***д**ыялог, **д**эталь, ан**т**эна, **т**эрмін*.

Толькі ў асобных словах [д], [т] змякчаюцца і пераходзяць у [д͡з’], [ц’]: ***дз**юна**, ***ц**юль, увер**ц**юра**, ар**ц**ель**, на**ц**юрморт, **ц**юльпан*. Напісанне такіх слоў вызначаецца па слоўніку.

Ва ўласных імёнах і назвах ***д, т*** ці ***дз, ц*** пішуцца ў адпаведнасці з літаратурным вымаўленнем: ***Д**этройт, А**т**эла, Гарыбаль**дз**і, **Ц**юмень*. Іх напісанне таксама вызначаецца слоўнікам.

**47.** Спішыце, выбіраючы з дужак тыя літары, якія адпавядаюць правілам вымаўлення і напісання слоў. Растлумачце свой выбар.

Ар*(ты/ці)*кул, аб кля*(т/ц)*ве, гвар*(дэ/дзе)*ец, ба*(т/ц)*вінне, *(ды/дзі)*яметр, *(ды/дзі)*сцыпліна, *(дэ/дзе)*легат, каран*(ты/ці)*н, *(ды/дзі)*станцыя, *(дэ/дзе)*кабрыст, каман*(ды/дзі)*р, уль*(ты/ці)*-матум, *(тэ/це)*рмас, у Лі*(т/ц)*ве, лі*(т/ц)*він.

**48.** Падрыхтуйцеся запісаць сказы пад дыктоўку. Вызначце і растлумачце ўмовы напісання літар ***дз, ц*** ці ***д, т*** у словах.

1. Лабановіч стаў гарачым прапагандыстам свайго роднага слова *(Я. Колас)*. 2. Мясціны, дзе працякае абноўленая Свіслач, ледзь не самыя прыгожыя ў горадзе *(В. Вольскі)*. 3. Давайце ўспомнім дні дзіцячых прыгод, і казак, і надзей *(К. Кірэенка)*. 4. Над ракой плыла мелодыя нейкай вельмі знаёмай песні *(А. Асіпенка)*. 5. Зіна падабрала матыў, і дзяўчаты пачалі спяваць песню *(Х. Жычка)*. 6. Зацененыя бакі дзюнаў былі ліловыя *(У. Караткевіч)*.

⊙ **49.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары ***дз, д, ц, т*** і адпаведныя галосныя.

Калісьці славу Міхаілу Савіцкаму прынесла кар..на «Пар..занская мадонна». І вось выпала мастаку напісаць пра Чарнобыль.

Палатно «Відушчы*». Ідуць лю.., прыкрыўшы галовы ад ра..яцыйнага дажджу з аблокаў. Яны сляпыя. Ра..яцыя не мае паху і колеру. Відушчы толькі пава..р — у спе..яльным камбінезоне, з дазіметрам* у руках.

Кар..на заклікае памятаць Чарнобыль. Заклікае абыхо..цца з прыродай ас..рожна, з розумам, цярпеннем і любоўю *(Паводле П. Васілеўскага)*.

● Вам выпала магчымасць наведаць выстаўку карцін ці фатаграфій. Што вы наведаеце?

## § 8. Правапіс *у, ў*

**50.** Параўнайце прыведзеныя пары слоў.

**у**-ва-га — ня**ў**-ва-га
**у**-ме-лы — ня**ў**-ме-лы
сла-**ва** — сла**ў**-ны
ву-чы-**ла**-ся — ву-чы**ў**-ся
ве-да-**ла** — ве-да**ў**
са-до-**вы** — са-до**ў**-нік

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму гук [у] называецца складовым, а гук [ў] — нескладовым?
2. На месцы якіх гукаў з'яўляецца гук [ў]?

Гук [у] — галосны. Ён утварае склад і называецца **складовым,** а зычны гук [ў] складу не ўтварае і называецца **нескладовым.**

Нескладовы гук [ў] перадаецца на пісьме літарай ***ў***, якая пішацца пасля галосных:

- у пачатку слоў: *свята **ў**раджаю, вельмі **ў**далы, каля **ў**ніверсітэта*;
- у сярэдзіне слоў: *во**ў**к, фа**ў**на, па**ў**за, а**ў**дыторыя, шо**ў**к, Ка**ў**каз*; а л е: *по**л**к, по**л**ка, памы**л**ка, Во**л**га, сея**л**ка*;
- у канцы слоў: *брата**ў**, кро**ў**, веда**ў***;
- пасля двукосся і злучка, калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны: *кінатэатр «Радзіма» **ў**жо пачаў паказ конкурсных фільмаў; паўночна-**ў**сходні*.

**51.** Змяніце словы ці падбярыце аднакаранёвыя з гукам [ў]. Запішыце пары слоў, падзяляючы іх для пераносу, і растлумачце напісанне літары ***ў***.

аловак — ...
арэхі — ...
боты — ...
вучылі — ...
хваляваліся — ...
салавей — ...
сады — ...
вожыкі — ...
чытала — ...

**52.** Прачытайце словы, змешчаныя справа. Растлумачце іх значэнне. Складзіце і запішыце з імі сказы.

***клоўн***
***раўнд***
***накаўт***
***скаўт***
***ноўтбук***

Складовы гук [у] перадаецца на пісьме літарай ***у***:

- у пачатку і ў сярэдзіне слоў, калі на ***у*** падае націск: *каля **у́**рны, даносіцца **у́**ханне, а**у́**л, а**у́**каць, сакса**у́**л**, *тры**у́**мф, **у**х*;
- на канцы запазычаных слоў, у тым ліку тых, якія заканчваюцца на ***-ум, -ус***: *фра**у**, ток-шо**у**, Ланда**у**, аквары**ум**, прэзіды**ум**, рады**ус**, со**ус***;
- у пачатку ўласных імён: *да **У**ладзі, ва **У**руччы, на **У**краіне*;
- пасля знакаў прыпынку.

**53.** Спішыце, устаўляючы літару ***у*** ці ***ў***. Растлумачце іх напісанне.

Аквары..м, а..тобус, Даха.., баво..на, буда..нік, Ганна ..ладзіміраўна, ла..рэат, па..днёва-..сходні, Брэсцкая ..нія, па..за, по..дзень, рака ..са, ба..л, рэперт..ар, ..здо..ж, шлагба..м.

**54.** Падрыхтуйцеся запісаць сказы пад дыктоўку. Растлумачце напісанне ***ў***.



Студзеньскі дзянёк як на заказ. Цёплы, сонечны, сапраўды святочна-ўрачысты. У полі, у лесе — усюды снег. Доўга мы блукалі ў маўклівым бялюткім царстве.

Дамоў вярталіся няспешна. За два крокі на камлі елкі я ўбачыў шэранькую птушачку з белымі крапінкамі на спіне. Прызнаюся: упершыню мне пашанцавала сустрэць пішчуху. Мы асцярожна ступілі да яліны. Птушка пераляцела на суседняе дрэва. А мы, каб не перашкаджаць лясной санітарцы, пайшлі далей *(Паводле У. Ягоўдзіка)*.

● Назавіце птушак, якія не адлятаюць у вырай.

● Складзіце некалькі сказаў паводле малюнка, каб атрымаўся тэкст тыпу апісання.

**55.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

1. Знаёмцеся з помнікамі культуры, архіт..ктуры, з творчасцю нашых м..сцовых майстроў-..мельцаў *(«Звязда»)*. 2. У вырай сабраліся гусі, і жора.. азва..ся пад небам *(Я. Купала)*. 3. Новыя празрыстыя ..рны прывезлі на выбарчыя ..часткі *(«Звязда»)*. 4. Дзе сажалка, дзе гай, дзе аз..рцо — ..сё лагодзіць вока *(П. Броўка)*. 5. Скарынава Біблія была крыніцай веда.., яе чыталі на Беларусі і ..краіне *(У. Караткевіч)*. 6. Я змалк.. веда.., як г..моняць р..кі, як ціха плач..ць вербы над вадой *(П. Прыходзька)*. 7. Запаведнік Кара-

кумы аберагае флору і фа..ну пустыні *(Я. Сіпакоў)*. 8. Групавыя выступленні гімнастак — гэта сапраўднае шо.. *(«Звязда»)*.

● Растлумачце пастаноўку коскі ў 2-м сказе.

## § 9. Падоўжаныя зычныя, іх вымаўленне і правапіс

**56.** Прачытайце выразна пары слоў і скажыце, ці ёсць розніца ў вымаўленні гукаў, абазначаных выдзеленымі літарамі.

бера**ж**ок — узбярэ**жж**а
пала**з**ы — пало**зз**е
су**дз**іць — су**ддз**я

кры**л**о — кры**лл**е
камя**н**і — каме**нн**е
кала**с**ы — кало**сс**е

жы**ц**ь — жы**цц**ё
су**ч**ок — су**чч**а
заці**ш**ак — заці**шш**а

***юнна́ты***

***раса́да***

***ро́стань***

### АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія гукі абазначаюць выдзеленыя літары?
2. У якіх словах гэтыя гукі вымаўляюцца з большай працягласцю (падоўжана) і як такое вымаўленне перадаецца на пісьме?

Зычныя гукі [ж], [ч], [ш], [з’], [с’], [$\widehat{дз}$’], [ц’], [л’], [н’] у становішчы паміж галоснымі могуць вымаўляцца падоўжана.

Фанетычнае падаўжэнне гукаў на пісьме перадаецца **дзвюма літарамі:** *падаро**жж**а, раздо**лл**е, узвы**шш**а, Ната**лл**я, Та**цц**яна, Усі**нн**я* і інш.;

а л е: *Ілья, Касьян, Ульяна, Юльян* і вытворныя ад іх: *Ільін, Касьянаў, Емяльянаў, Ульянаў* і інш.

Падоўжаны гук [$\widehat{дз}$’] на пісьме перадаецца спалучэннем літар ***ддз***: *ме**ддз**ю, разво**ддз**е, стаго**ддз**е*.

У запазычаных словах зычныя гукі не падаўжаюцца: *алея, калона, каса, Эла, Эма*.

В ы к л ю ч э н н е: ***ванна, мадонна, манна, панна, саванна, Жанна, Ганна, Сюзанна.***

**57.** Прачытайце і скажыце, чаму ў адных словах гук [ц’] падаўжаецца, а ў другіх — не падаўжаецца.

Багацце, шчасце, вільгаццю, адлегласцю, жыццё, трысцё*, сенажаццю, радасцю.

● З першымі двума словамі складзіце і запішыце клічныя сказы.

**58.** Прачытайце і скажыце, чаму так названы тэкст. Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Назавіце словы з падаўжэннем зычных.

### СУАЎТАР ФАНТАЗІЯ

Дзеці вельмі любяць паходы ў лес. І не дзіўна: тут для іх столькі адкрыц..яў! Сярод сухога суч..а замаскіраваліся розныя ч..лавечкі-л..савікі. А якой дзі..най формы бывае карэн..е!

Пасля з в..лікім задавальнен..ем бачыш, як у дзі..ячых руках кавалачкі др..ва, кары, шышак, жалудо.. ператвараюцца ў цікавыя скульптуры, казачныя вобразы (*«Раніца»*).



Неабходна адрозніваць фанетычнае падаўжэнне зычных ад іх марфалагічнага падваення, якое таксама перадаецца на пісьме дзвюма літарамі. Падваенне адбываецца:

- на стыку прыстаўкі і кораня: ***аддаляцца*** (адзін гук [д] адносіцца да прыстаўкі ***ад-***, а другі — да кораня ***-дал-***);
- на стыку кораня і суфікса: ***асенні*** (адзін гук [н’] адносіцца да кораня ***асен-***, а другі з’яўляецца суфіксам).

**59.** Спішыце. Вызначце, у якіх з выдзеленых слоў адбылося фанетычнае падаўжэнне зычных гукаў, а ў якіх — марфалагічнае падваенне.

Ледзь не з-пад самых ног Людвіка ўзняўся жаўранак і заліўся **трэллю.** У вышыні, пад самымі воблакамі, ён **аддаліўся.** І ўжо задорная песня даносілася з **паднябесся.** Але Шэўчык усё сачыў за **вясенняй** птушкай *(В. Быкаў).*

**60.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Растлумачце напісанне адной ці дзвюх літар.

1. Трымаючы над Белай Ру*(с/сс)*ю неба, паўстаў перада мной былі*(н/нн)*ы дуб *(М. Башлакоў).* 2. Сустрэну ў полі вес*(н/нн)*яе світа*(н/нн)*е — запахне хлебам свежая ра*(л/лл)*я *(М. Шахавец).* 3. Хлапчукі разышліся гру*(п/пп)*амі і рабілі ўсё а*(к/кк)*уратна і старанна *(П. Кавалёў).* 4. Працуюць лоўка, дружна ад золку да зары з Павол*(ж/жж)*а і Прыбу*(ж/жж)*а, з Наднёма*(н/нн)*я сябры *(В. Шымук).* 5. Над заснежанай рэчкай трубіць ме*(дз/ддз)*ю ліс*(ц/цц)*ё *(Г. Пашкоў).*

**61.** Прачытайце і ў кожным радзе знайдзіце пятае «лішняе» слова.

1. Калоссе, жаданне, аддана, збожжа, зацішша.
2. Адданы, развітанне, раззбраенне, расслаенне, бяссілле.
3. Ламачча, выццё, паддубовік, бягуння, світанне.

● Зрабіце гукавы запіс «лішніх» слоў.

**62.** Прачытайце. Вызначце асноўную думку гэтых вершаваных радкоў. Растлумачце напісанне слоў з падвоенымі літарамі.

У нас заўжды па працы шанаванне, —
На покуці жытнёвы каласок.
Знайдзі з усіх
адно сваё прызванне,
Знайдзі сваю сярод другіх дарог.
І шчасце будзе,
нібы хлеб надзённы,
Заўсёдным госцем за тваім сталом;
Павагай да людзей
і ў дзень будзённы,
І ў святы хай напоўніцца твой дом.
Тады парог не пераступяць беды,
Сяброўскіх рук адчуеш ты цяпло;
Жыві,
твары і мудрасць продкаў ведай:
Пасей дабро — тады пажнеш дабро.

*А. Руцкая.*

# § 10. Прыстаўныя зычныя і галосныя, іх правапіс

**63.** Прачытайце словы па-руску і па-беларуску.

озеро — возера
остров — востраў
ученик — вучань
угол — вугал
этот — гэты

***о́кацьь***  ***нао́гул***
***о́дум***  ***уво́гуле***

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якімі пачатковымі гукамі адрозніваюцца словы ў беларускай мове ў параўнанні з рускай мовай? Чаму такія гукі называюцца прыстаўнымі?

2. Перад якімі націскнымі галоснымі гукамі вымаўляецца прыстаўны зычны гук [в] і пішацца літара ***в***?

Прыстаўны гук [в] вымаўляецца і перадаецца на пісьме літарай ***в***:

- у пачатку слова перад націскнымі галоснымі [о], [у]: ***во́****блака*, ***во́****дпуск*, ***во́****цат*, ***ву́****ліца*, ***ву́****праж*, ***ву́****стрыца*. Калі пры змяненні месца націску [о] пераходзіць у [а], то прыстаўная літара ***в*** не пішацца: ***во́****блака* — *аблачы́нка*, ***во́****зера* — *азёрны*, ***во́****сень* — *асе́нні*;
- пасля прыставак перад каранёвымі галоснымі [о], [у]: *за****во****блачны*, *на****ву****чыцца*;
- у сярэдзіне некаторых слоў перад [о], [у]: *на****во****бмацак*, *на****во****ддаль*, *па****во****дле*, *кара****ву****л*, *еса****ву****л*, *ці****ву****н*, *На****ву****м*, *па****ву****к*, *Ля****во****н* і вытворных ад іх незалежна ад націску: *На****ву****мовіч*, *па****ву****цінне*;
- у словах ***вока***, ***востры***, ***вакол*** і вытворных ад іх незалежна ад націску: ***вачэ́й***, ***вачаня́ты***,

*заво́чны, увачаві́дкі;* ***в****астры́ць,* ***в****астрэ́йшы, на****в****о́страны;* ***в****ако́ліца, на****в****ако́лле.*

Прыстаўны гук [г] вымаўляецца і перадаецца на пісьме ў словах ***г****эты,* ***г****этак,* ***г****этулькі,* ***г****эй,* ***г****о,* ***г****а, ад****г****этуль, да****г****этуль, па****г****этуль,* ***Г****анна.*

**64.** Прачытайце. Назавіце словы з літарай ***в***, якая абазначае прыстаўны гук [в]. Растлумачце яе напісанне.

Высока-высока заружавела лёгенькае воблачка. Вузкая хмарка ўсё больш ды больш налівалася чырванню. Вогненны круг прарэзаўся з хмаркі-смугі. Возера заззяла радасцю! А над усёй такой прыгажосцю, у чыстым небе, трохі воддаль ад воблачка, стаіць поўны месяц *(Паводле Я. Брыля)*.

Прыстаўны гук [в] не вымаўляецца, і літара ***в*** не пішацца ў пачатку імён, прозвішчаў, геаграфічных назваў і іншамоўных слоў перад галоснымі [о], [у]: *Осіп, Осіпаў, Орша, Ульяна, Узда, ордэн, опера, урна*; а л е: ***В****ольга,* ***В****огненная Зямля.*

**65.** Прачытайце сказы і вызначце, у якіх словах на месцы пытальніка неабходна вымаўляць прыстаўны гук [в] ці [г]. Выпішыце гэтыя словы і растлумачце наяўнасць у іх прыстаўных гукаў.

1. Душой я вольны чалавек і *(?)*эткім буду цэлы век! *(Я. Купала)*. 2. Тры баявыя *(?)*ордэны ўпрыгожвалі грудзі Ваўчка *(Т. Хадкевіч)*. 3. *(?)*осень прала кужаль тонкі — па*(?)*уціння белы лён *(Я. Колас)*. 4. *(?)*асеннія сады як *(?)*огнішчы палаюць *(П. Панчанка)*. 5. *(?)*остры боль прайшоў ужо, чалавек расплюшчыў *(?)*очы *(В. Бы-*

*каў)*. 6. *(?)*эта быў ён — *(?)*Озераў, разведчык *(І. Мележ)*. 7. Пад яркім сонцам радасна іскрыцца *(?)*озера *(В. Вольскі)*.

У беларускай мове ў пачатку слоў перад збегам зычных гукаў, дзе першымі з'яўляюцца [л], [м], [р], узнікаюць прыстаўныя галосныя [і], [а], якія на пісьме перадаюцца літарамі ***і, а***:

1) перад [л], [р], калі словы са збегам зычных:

- пачынаюць сказ: ***І****ржуць коні.* ***А****ржаное поле бяскрайняе*;
- стаяць пасля слова, якое заканчваецца на зычны: *мінуў* ***а****ржанішча, білет* ***і****льготны*;
- стаяць пасля знака прыпынку: *кашулі з шоўку,* ***і****льну; хлеб пшанічны,* ***а****ржаны*;

2) перад [м] у любым становішчы: ***а****мшэлы,* ***і****мжа, шпарка* ***і****мчаў*.

З а ў в а г і.

1. Калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны, то ў наступным слове перад збегам зычных, дзе першымі з'яўляюцца [л], [р], літары ***і, а*** не пішуцца: *на льнішчы, поле ржаное*.

2. Пасля прыставак і першай часткі складаных слоў, якія заканчваюцца на галосную, прыстаўныя ***і, а*** не пішуцца: *заржавець, зардзецца, замшэлы, прымчацца, вокамгненн-ы* (імгненны для вока).

**66.** Спішыце сказы. Растлумачце, чаму выдзеленыя словы напісаны з прыстаўной літарай ці без яе.

1. **Ірдзелі** ружы, радуючы вока *(В. Сахарчук)*. 2. Зялёныя галоўкі **льну** пяшчотна ружавелі ў праменнях сонца *(М. Ракітны)*. 3. Там **ільны** сінеюць ясна ўранні *(С. Каробкіна)*. 4. Малады

конь узняўся на заднія ногі і прарэзліва **заржаў**. Яго залівістае **ржанне** далёка разносілася ў паветры. А потым конь **памчаў** штосілы ў поле *(В. Вольскі)*. 5. Скрыпка і цымбалы «Вальс асенні» **граюць** *(П. Броўка)*. 6. Над адзінокім ціхім стогам дыміцца сіняя **імгла** *(М. Танк)*. 7. Халоднай **імжакай** мыецца даль палявая *(К. Шавель)*.

⊙ **67.** Выпішыце спалучэнні, у якіх ёсць словы з прыстаўнымі гукамі.

Іскрыцца возера, добры інструмент, вольны вецер, цвік іржавы, перад оперным тэатрам, восеньская імгла, неверагодная гісторыя, на вуснах іграла ўсмешка, рассеецца імжа, вісіць ільдзінка, мігцела вуголле, навастрыць пілу, цёмныя валасы, у ваколіцах горада, сястра Ганны, запарушыць вока, дагэтуль не вярнуўся, гасцінны прытулак.

**68.** Спішыце, устаўляючы патрэбныя літары. Растлумачце іх напісанне. Падкрэсліце словы з прыстаўнымі гукамі.

Чалавецтва не выпа..кова выдумала ..эты цуд — кнігу. Спачатку чалавек пісаў на кам..нях, на гліняных чарапках, на папірусе, на б..розавай кары. Вельмі трэба было перадаць будуч..м пакале..ям свой жы..ёвы ..опыт, свой р..зум. Кніга в..дзе нас па таемных сце..ках мінулага, на ..мклівым зоркал..це ..мчыць у будуч..ню. ..учыць аддана служыць Радзіме, любіць р..дную з..млю, сваіх бацькоў, ..учыць працаваць і сябраваць.

Любіце ж кнігу — ..эты неац..нны скарб. Сябруйце з ёй. Яна робіць усіх нас лепш..мі *(Паводле Л. Дайнекі)*.

## § 11. Гутарковы стыль, яго выкарыстанне, моўныя асаблівасці, жанры (гутарка)

**69.** Прачытайце. Адносна чаго ўдзельнікі гутаркі абменьваюцца думкамі?

— Ну і мяцеліца разгулялася. Жудасць. Свету не відаць, хоць вока выкалі. Вецер з ног збівае.
— І то праўда. Такой ку́дасы даўно не было.

У штодзённым жыцці людзі звычайна абменьваюцца думкамі, паведамляюць ці пытаюцца пра што-небудзь. Адбываецца гэта ў непасрэднай, жывой гутарцы.

Такая разнавіднасць маўлення, што мае звычайна форму дыялогу і выкарыстоўваецца ў непасрэднай, жывой гутарцы з мэтай абмену думкамі, адносіцца да **гутарковага стылю.**

Асноўныя жанры — гутарка, сяброўскія лісты, запіскі.

**70.** Прачытайце тэкст. Які прадмет і як характарызуюць словы *душагубка*, *чэрап*, *калода*? Перакажыце змест размовы Мірона і Віктара. Прачытайце гэту размову без слоў аўтара з адпаведнай інтанацыяй.

— Ды не хістай! Бачыш, што...

Віктар, які стаяў і кіраваў чоўнам, не паспеў скончыць і паваліўся на дно. Душагубка* яшчэ больш захісталася, зачарпнула вады.

— Ну вось, бачыш, што ты зрабіў! — сказаў Віктар.

— Ды ты ж сам вінаваты, — агрызнуўся Мірон. — Перад кім было фанабэрыцца, што спрытна спраўляешся з гэтай душагубкай.

— Ну і справіўся б, каб ты сядзеў ціха.

— Я ж і сядзеў, а вось ты забыўся, у якім чэрапе едзеш. Навошта стаяў на ўвесь рост? Давай лепш вычарпаем ваду.

— А чым будзеш вычэрпваць? Чарпак узяў?

— А ты ўзяў?

— Ды хто ж ведаў, што гэта калода будзе цячы *(Паводле Я. Маўра)*.

● Ці можна аднесці гэты тэкст да гутарковага стылю?

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якую ацэнку (станоўчую ці адмоўную) даюць адпаведным дзеянням словы *агрызнуўся* і *фанабэрыцца*?

2. Ці паўтараюцца ў размове Віктара і Мірона адны і тыя ж словы?

3. Зачытайце сказы з простай мовай і растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў іх.

4. Назавіце пытальныя, пабуджальныя і клічныя сказы.

Асноўнымі тыповымі моўнымі сродкамі гутарковага стылю з'яўляюцца:

а) словы, што выражаюць пачуцці, даюць ацэнку тым ці іншым з'явам і падзеям *(агрызнуцца, фанабэрыцца, душагубка)*;

б) словы з пераносным значэннем і адпаведнай эмацыянальнай ацэнкай *(чэрап, калода)*;

в) розныя па мэце выказвання сказы;

г) сказы са звароткамі і простай мовай.

**71.** Скажыце, што такое дыялог і чаму ён характэрны для гутарковага стылю маўлення. З улікам прыведзеных адказаў сфармулюйце пытанні і запішыце дыялог (па варыянтах; пажадана з працягам). Ці можна аднесці дыялог да жанру гутаркі?

***ура́нні***

***што́сілы***

1. — ...?

— Не, яшчэ не чытаў.

— ...?

— Гэты часопіс мы не выпісалі, а ў бібліятэцы на яго чарга.

2. — ...?

— На жаль, сёння не магу.

— ...?

— Іду да бабулі. Дроў накалоць трэба.

**72.** Прачытайце. Скажыце, якія з прыведзеных слоў звычайна выкарыстоўваюцца ў гутарковым стылі.

Нарваць, налаташыць *(яблыкаў)*; легчы, заваліцца *(спаць)*; прачытаць, праглынуць *(кнігу)*; прагледзець, празяваць *(аўтобус)*.

**73.** Прачытайце. Дакажыце, што гэта тэкст гутарковага стылю.

— Валя, памажы мне рашыць задачу.

— Яшчэ што?! Я з Сашам хачу пагаварыць. Мы на дыскатэку збіраемся.

— Марынка, можа, ты дапаможаш? Задача не атрымліваецца ў мяне.

— Ды не мітусіся ты! Вазьмі мой сшытак і спішы.

— Даша, не спісвай. Я зараз табе патлумачу, і ты сама рэшыш.

— Дзякуй, Валодзька!

● Колькі вучняў удзельнічае ў размове?

● Ці можна лічыць гэты тэкст гутаркай? Якое яго прызначэнне?

● Напішыце, хто з вучняў паступіў правільна, і абгрунтуйце сваю думку.

Пачаць можна так: *«Я думаю, што правільна паступіў Валодзька. І вось чаму...»*.

**74.** Прачытайце расказ вучня пра ўрокі працоўнага навучання.

Хлопчыкі нашага класа ўжо другі год займаюцца ў школьнай сталярні. Сталярнай справе іх вучыць Генадзь Анісімавіч. Вучні ўжо ўмеюць працаваць з інструментамі, рабіць з дрэва розныя рэчы. Зараз яны робяць шпакоўні. Вясной развесяць іх каля школы, на вуліцы і ў садах. Прыляцяць шпакі і паселяцца ў новых доміках.

● На аснове гэтага тэксту складзіце гутарку двух вучняў.

**75.** Прачытайце смяшынку.

— Вось каб мне такія доўгія вушы, як у зайца, — марыць Пеця. — Я вельмі лоўка лавіў бы падказкі.

— Ой не згодны, — пярэчыць Коля. — Доўгія ж вушы патрэбна і доўга мыць...

● Ці можна аднесці гэты тэкст да гутарковага стылю?

**76.** Складзіце дыялог паміж мамай і сынам (дачкой) пра пакупку новага касцюма (школьнай формы).

**77.** Складзіце і запішыце дыялог па сітуацыі: вы прыйшлі ў магазін «Мелодыя» набыць альбом беларускага эстраднага спевака або ансамбля «Песняры». Што вы будзеце гаварыць? Якія пытанні можа задаць вам прадавец, што прапанаваць? Як вы будзеце адказваць?

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**1.** Прачытайце і адгадайце загадку.

Звярок я рыжанькі лясны,
У казках, байках я бываю.
Адну мне літару змяні —
Я ўвосень з дрэва ападаю.
*В. Паўлоўская.*

- Якія галосныя гукі ёсць у словах гэтай загадкі?
- Якімі літарамі галосныя гукі перадаюцца на пісьме?
- На якія дзве групы падзяляюцца галосныя ў залежнасці ад той ролі, якую яны выконваюць у мове?

**2.** Побач з якімі гукамі гукі [ж] і [з] губляюць сваё асноўнае гукавое значэнне? Якія гукі ў выніку гэтага атрымліваюцца? Прывядзіце прыклады.

**3.** Спішыце сказ і падкрэсліце літары, якія абазначаюць звонкія зычныя гукі.

Так жыць на свеце трэба, каб да апошніх сіл любіць людзей, зямлю і неба *(А. Грачанікаў)*.

- Запішыце звонкія зычныя, якія маюць у беларускай мове парныя глухія, і складзіце прапорцыю.

[ж] : [ш] = [ ] : [ ] = [ ] : [ ] = [ ] : [ ] =
= [ ] : [ ] = [ ] : [ ]

**4.** Прачытайце словы. Дадайце да кожнага з іх мяккі знак і запішыце словы, якія атрымаліся.

Вугал, рыс, вяз, мел, мол, стол, тол.

- Як мог ***ь***, які не абазначае ніякага гука, утварыць іншыя словы?

**5.** Якія галосныя гукі, «згубіўшы» націск, змяняюць сваю якасць, а на іх месцы вымаўляюцца іншыя гукі? Раскажыце арфаграфічныя правілы, якія заснаваны на гэтай асаблівасці галосных гукаў.

**6.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

### Варыянт І

1. Сухім смутным ш..лестам у дв..рах ш..пацелі бяр..зіны *(В. Адамчык)*. 2. Ірына засцілала стол б..люткім абрусам, даставала з с..рванта прыгожы с..рвіз *(М. Герчык)*. 3. Насц..рожаны выгляд пр..ціхлай в..сковай ..уліцы ўзмацняў тр..вогу *(А. Савіцкі)*. 4. Даро..ка да самага ганка высыпана ж..ўтым п..ском і выкладзена б..тоннымі плітамі *(П. Місько)*. 5. Лі..ны, нібы в..роўкі, пераблыталі ўвесь лес *(Я. Маўр)*.

### Варыянт ІІ

1. Шч..дра лье сонца на з..млю сваю ц..плыню і св..тло *(І. Навуменка)*. 2. Пас..лішчы, як і людзі, без бі..графіі не маюць свайго абліч..а *(Я. Сіпакоў)*. 3. Бацька с..дзеў за сталом і гартаў кал..ндар *(Л. Левановіч)*. 4. У ц..мры раптам успыхвае м..лодыя самай пр..гожай і любімай песні *(Я. Брыль)*. 5. Трымалася вавёрка в..лічна, грац..ёзна *(У. Мяжэвіч)*.

**7.** Спішыце словы, выкарыстоўваючы тую літару з дужак, якая адпавядае арфаграфічнаму правілу. Растлумачце яе напісанне.

### Варыянт І

Сырае*(ж/ш)*ка, гра*(т/д)*ка, на ўзле*(з/с)*ку, у кні*(ж/ш)*цы, на бера*(ж/ш)*ку, ні*(с/з)*кі, зару*(б/п)*ка, пераплё*(ч/т)*чык.

Варыянт II

Кве*(т/д)*ка, перапі*(с/ш)*чык, на ўзме*(ж/ш)*ку, па рэ*(ц/ч)*цы, рэ*(д/т)*кі, чу*(б/п)*кі, лё*(г/х)*кі, па кла*(д/т)*цы.

**8.** Выпішыце словы, якія неабходна пісаць: 1) з мяккім знакам (варыянт I); 2) з апострафам (варыянт II).

Вяс..нянка, барац..ба, бар..ер, дз..веры, лаз..-няк, ледз..ве, ліс..це, Куз..ма, павіл..ён, піс..мо, подз..віг, поз..ні, ц..вісці, спаз..ніцца, ц..мяны, чыс..ціня.

**9.** Запішыце словы па-беларуску. Растлумачце іх напісанне.

Варыянт I

Дверь, аллея, Наталья, подвезти, эпизодик, ванна, в Литве, ультиматум, дискотека, оптика, околица.

Варыянт II

Двина, развитие, судья, Витебск, костёр, аккордеон, эскадрилья, черстветь, гвардеец, заострить, окрик.

**10.** Вызначце, у якіх спалучэннях слоў (сказах) дапушчаны памылкі. Запішыце іх правільна.

I. Узлёты і падзенні — ўсё адносна; траулер «Ульянаўск»; аберагаць фаўну; абрус ільняны; вазёрныя хвалі; адчуваць вастрэй; вуду ірвануў; надвор’е мглістае.

II. У кінатэатры «Хроніка» ужо ідуць фільмы; невысокія саксаульнікі; калючае іржышча; сцяг ірдзее; заіржавелы цвік; навастрыць пілу; хлопцы-умельцы, дождж імжыў.

# ЛЕКСІКА. ФРАЗЕАЛОГІЯ

## § 12. Словы як назвы рэчаў, з'яў, паняццяў

**78.** Прачытайце.

Каб карыстацца мовай — гэта значыць гаварыць і пісаць, перш за ўсё неабходна ведаць словы. **Слова — асноўная адзінка мовы.** З дапамогай слоў мы расказваем пра розныя прадметы, рэчы, з'явы, апісваем іх. Словамі мы выказваем свае думкі і выражаем пачуцці, праз словы ўспрымаем думкі і пачуцці іншых людзей.

Словы — гэта будаўнічы матэрыял мовы, таму нельга ведаць мову, не ведаючы слоў.

**Усе словы беларускай мовы складаюць яе слоўнікавае багацце, яе лексіку.**

АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Для чаго служаць словы?
2. Што такое лексіка?
3. Ці можна ведаць мову без ведання слоў і разумення іх значэння? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

**79.** Спішыце прыказкі і прымаўкі пра слова і скажыце, як вы разумееце іх сэнс.

1. Слова — не верабей, выпусціш — не зловіш. 2. Рынуў слаўцом як пярцом. 3. Калі слова прыроднае, то яно і добрае. 4. Куляй пацэліш у аднаго, у двух, а трапным словам — у тысячу.

**80.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту.

Успомніце дзіцячую гульню ў кубікі. Уявіце, што вам далі тры кубікі з літарамі ***о, м, с.*** З гэтых літар можна скласці шэсць гукаспалучэнняў: [омс], [мсо], [мос], [смо], [осм], [сом]. Але толькі адно з іх — [сом] — з'яўляецца словам, бо толькі яно мае сэнс, абазначае вялікую прэснаводную рыбу з вусамі і целам без лускі. Значыць, слова ўяўляе сабой набор гукаў, якія размешчаны ў пэўнай паслядоўнасці. Такім чынам, **слова — гэта гук ці спалучэнне гукаў, што мае пэўнае значэнне.** З незапамятных часоў гукі мовы складваліся ў пэўным парадку, набывалі сэнс і станавіліся словамі.

● Якое спалучэнне гукаў з'яўляецца словам? Дакажыце сваю думку.

**81.** Прачытайце. Вызначце тэму тэксту.

Словы спатрэбіліся чалавеку для таго, каб даць імёны (назвы) усяму таму, што ёсць у свеце. І мы пазнаём свет па яго імёнах і распавядаем пра ўсё, карыстаючыся гэтымі імёнамі, гэта значыць словамі, якія называюць прадметы, з'явы, паняцці, прыметы прадметаў, дзеянні. Словы непарыўна звязаны з ведамі, думкамі, пачуццямі. Толькі з дапамогай слоў мы можам гаварыць пра самыя будзённыя справы, якія нам добра вядомыя, і пра далёкія краіны, у якіх мы не былі...

Словы — самы тонкі інструмент выражэння думкі і самы дасканалы сродак зносін.

● Запішыце сказ, які выражае асноўную думку тэксту. Колькі ў ім слоў?

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якое прызначэнне слоў у мове? Прывядзіце прыклады слоў — назваў прадметаў, з'яў, паняццяў, прымет, дзеянняў.

2. Як вы разумееце, што такое *слова*?

**82.** Прачытайце.

Бацька і сын, бацька ці сын; занесці журнал (у настаўніцкую), занесці ў журнал (прозвішча вучня); ішоў дзед з унукам, ішоў дзед да ўнука.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці аднолькавы сэнс прыведзеных спалучэнняў слоў і ад чаго гэта залежыць?

2. Ці доказваюць гэтыя спалучэнні, што слова можа складацца з аднаго гука?

**83.** Вызначце, якія словы можна скласці з наступных літар. Запішыце гэтыя словы і з трыма (на выбар) складзіце сказы.

ы, л, т, ю; а, к, н, і, с; п, к, а, р; д, з, а, р, і, м, а

**84.** Прачытайце. Як вы думаеце, чаму людзі даюць назвы ўсяму, што ёсць у наваколлі?

Людзі даюць імёны не толькі сваім дзецям, а ўсяму жывому наваколлю. Імёнамі называюць зямлю, на якой жывуць, дарогі, па якіх ходзяць і ездзяць, кожную ваколіцу, дзялянку, лес, рэчку, луг, палетак, выпас *(В. Вітка)*.

● Складзіце спіс назваў вашай мясцовасці.

**85.** Прачытайце. Якая асноўная думка тэксту?

21 лютага — Міжнародны дзень роднай мовы. Прапанавала абвясціць гэта свята невялікая азіяцкая краіна Бангладэш: там 21 лютага 1957 года, адстойваючы сваё права вучыцца на роднай мове, загінулі пяць студэнтаў.

У нашым рознагалосым све..е больш за шэсць тыс..ч моў. Палова з іх пад пагрозай знікнення. Іменна для іх захавання ЮНЕСКА* і абв..сціла д..ень роднай мовы. Але для но..ьбітаў любой мовы гэта нагода яшчэ раз задумацца аб лёсе роднай мовы, на якой вымавілі першае слова.

21 лютага — нагода задумацца і ж..харам Беларусі аб лёсе роднай мовы. Яна шмат не патрабуе, але павінен быць у ч..лавека абавязак любіць і зберагаць родную мову, абараня..ь яе *(«Родны край»)*.

● Спішыце другі і трэці абзацы, устаўляючы прапушчаныя літары.

## § 13. Лексічнае значэнне слова

**86.** Прачытайце чатырохрадкоўе, якое склаў В. Сахарчук. Ці зразумелы вам сэнс загалоўка і слоў вершаваных радкоў?

КАВЁС

Трасёлы вяктар
Дарчыць на бурозе.
Чырвір сняговы
Пяе бя нарозе.

● Перастаўце месцамі склады ці асобныя літары ў самім слове або ў суседніх словах, каб яны набылі сэнс, і запішыце. Назавіце назоўнікі і растлумачце іх сэнс.

Тое, што абазначае слова, яго сэнс, з'яўляецца **лексічным значэннем.** Напрыклад: слова *акно* абазначае *зашклёную раму ў сцяне будынка для святла і паветра*. Гэта і ёсць лексічнае значэнне слова *акно*.

**87.** Прачытайце верш Т. Мельчанка.

Вяду ўрок я роднай мовы...
Няспешныя ліюцца гукі:
— Скажыце, што такое *гай*?
І цягнуцца, як крылы, рукі:
— То светлы ад бярозак край!
— А *Бацькаўшчына* што такое?
... У вочках свецяць васількі.
... Як жытні колас, спеюць словы:
— Зямля, што нам далі бацькі.

● Як бы вы адказалі на пытанні з верша?

● Параўнайце вашы адказы і адказы вучняў з тлумачэннем лексічнага значэння слоў *гай* і *Бацькаўшчына* ў тлумачальным слоўніку. Чые адказы больш дакладныя?

!

Лексічныя значэнні слоў раскрываюцца (тлумачацца) у тлумачальным слоўніку рознымі спосабамі:

а) падборам блізкіх па значэнні слоў;
б) спасылкай на слова з тым жа значэннем;
в) пералікам прымет прадмета ці з'явы;
г) тлумачэннем праз значымыя часткі, з якіх слова складаецца.

**88.** Запішыце значэнні слоў паводле прыведзеных узораў.

1. Барвовы — густа-чырвоны, пурпуровы;
адважны — ... .

2. Краска — тое, што і кветка;
васілёк — ... .

3. Бабка — грыб з цёмна-бурай шапкай на высокай ножцы;
абаранак — ... .

4. Дабрадзей — той, хто робіць (дзее) дабро;
сталявар — ... .

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Краска.*** Слова старажытнае. *Краска* — аднаго кораня са словам *краса.* Краса — гэта бессмяротная, заўсёды ўваскрасальная прырода цвіцення. Адсюль становіцца зразумелай і беларуская назва кветак — *краскі,* і назва месяца — *красавік,* і выраз *жыта красуе.*

⊙ **89.** Прачытайце. Вызначце лексічныя значэнні слоў, што ў дужках. Спішыце сказы, выкарыстоўваючы адно з гэтых слоў.

1. Над вадою *(калыша, трасе)* траву ве**ц**ярок, з неба ў **в**озера *(ляцяць, падаюць)* зоркі. 2. Над хатай Біруковых *(шумела, гудзела)* р**а**біна, бо вецер *(пабольшаў, павялічыўся)*, і **в**осеньская **і**мгла пачала пераходзіць у *(дробны, малы)* дождж. 3. *(Глiністая, гліняная)* **в**уліца паволі спа**ў**зала да р**а**кі, дзе абрывалася *(высокім, вялікім) (камяністым, каменным)* берагам.

● Растлумачце правапіс выдзеленых літар.

**90.** Спішыце, выкарыстоўваючы тое слова з дужак, якое адпавядае сэнсу сказа.

Хто не ведае гэтага помніка на плошчы народнага *(песняра, спевака)*! Стомлены, здарожаны

Якуб Колас *(прысеў, прыхінуўся)* на камені. А *(побач, поплеч)* з ім — героі твораў: дзед Талаш з сынам і Сымон-музыка з Ганнай.

Ах, як грае Сымонка! Чыстыя, гожыя *(гукі, галасы)* запаланілі ўсё наваколле. Нават бярозкі *(сцішыліся, змоўклі)*, зачараваныя харастовм мелодыі. І не дзіва, што гэты *(утульны, зацішны)* куточак беларускай сталіцы — любімае месца адпачынку мінчан. Ён як бы паўтарае *(маляўнічыя, маляваныя)* мясціны Наднямоння, дзе нарадзіўся Якуб Колас *(«Раніца»)*.

● Якія памятныя мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю Якуба Коласа, вы ведаеце?

## § 14. Адназначныя і мнагазначныя словы

**91.** Разгледзьце малюнкі і дайце ім назвы.



**АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ**

1. Якое слова абазначае адзін прадмет, а якое — тры?
2. Колькі лексічных значэнняў мае адно і другое слова?

Словы, якія маюць адно лексічнае значэнне, называюцца **адназначнымі**: *авадзень, адвага, дзяцел, ноўтбук, комін.*

Словы, якія маюць некалькі лексічных значэнняў, называюцца **мнагазначнымі**: ***брыдкае*** (г. зн. непрыгожае) *качаня*, ***брыдкі*** (г. зн. дрэнны) *учынак*; ***крыло*** *птушкі*, ***крыло*** *самалёта.*

**92.** Прачытайце сказы. Звярніце ўвагу на выдзеленыя словы і вызначце, ужыты яны ў адным і тым жа значэнні ці ў розных.

1. **Ідуць** дажджы, і нават пасеянае на пясках жыта добра **ідзе** ў рост *(І. Навуменка)*. 2. Чалавека **сляды** ў стагоддзях не гінуць... Гэта помні заўжды, перш чым **след** свой пакінуць *(Е. Лось)*. 3. Я падаў бы таполі **руку**, ды ў яе перабітыя **рукі** *(І. Арабейка)*. 4. **Ядро** арэха смачнае, лясное, ды смерць не дрэмле ў атамным **ядры** *(Р. Баравікова)*. 5. Мармыча цёмная **вада, вада** празрыстая спявае *(А. Разанаў)*.

● Спішыце сказы, у якіх выдзеленыя словы маюць рознае значэнне.

**93.** Прачытайце верш і вызначце яго асноўную думку. Спішыце і падкрэсліце адназначныя словы-назоўнікі. Растлумачце іх значэнне.

Як крыніцы
З-пад сэрца зямлі,
Як птушкі
Ў блакіт нябесны,
Як вецер
У светлы бор,
Як стрункі травы
Да сонца,—
Адзін да другога
Прабіваюцца
Добрыя людзі.

*Н. Загорская.*

**94.** Прачытайце смяшынку.

М а ц і: «Ала, не садзіся на сырую зямлю».
А л а: «А хіба зямля бывае яшчэ і вараная?»

● У выніку чаго размова набыла гумарыстычны характар?

**95.** Прачытайце тэкст. Ці можна палічыць яго казкай? Назавіце ў першых двух сказах аднназначныя і мнагазначныя словы.

Расла пры дарозе маленькая сцяблінка і радавалася сонцу. Ішоў злы чалавек і прыбіў ботам сцяблінку да зямлі. Пачала вянуць сцяблінка, пакрывацца прыдарожным пылам. Мабыць, быў бы ёй канец. Але па той дарозе ішоў з кійком добры чалавек і заўважыў бедную сцяблінку. Спыніўся, уткнуў свой кіёк, падняў і падвязаў да яго сцяблінку. Зямлю падрыхліў і вадзіцай паліў.

— Дзякуй табе, добры чалавек, век не забуду тваёй дабрыні, — адазвалася сцяблінка.

— Расці вялікая! — адказаў добры чалавек і пайшоў далей.

Прайшлі гады. З той маленькай сцяблінкі вырасла вялікая прыгожая яблыня... *(Паводле І. Сычыка)*.

● Як бы вы прадоўжылі казку? Напішыце яе працяг.

**96.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак і спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце мнагазначныя словы.

Каб сп..чы хлеб, дастаткова адных сутак. А вырас..іць яго — каштуе в..лікай і ц..жкай працы

хлебароба, працы ў ц..лы год. Таму, адразаючы свежы духмяны акраец, заўсёды пам..тай пра тых, хто расціў і песціў для цябе гэта дзіва, не спаў начамі. Шануй і беражы хлеб! Не дай змарнавацца і загінуць ні..однаму к..ласку ў полі. Хлеб — найвялікшае багац..е чалавека *(К. Камейша)*.

## § 15. Прамое і пераноснае значэнне слова

**97.** Прачытайце.

Конь плыве; качка плыве; камень плыве; месяц плыве; туман плыве.

● Скажыце, у якіх выпадках спалучэнне слоў мае сэнс, а ў якіх не мае (не адпавядае сапраўднасці).

Словы ў мове спалучаюцца па сэнсе. Так, словы *конь* і *качка* спалучаюцца са словам *плыве*, таму што яны абазначаюць жывых істот, якія ўмеюць плаваць. Слова *плаваць* ужыта тут у сваім прамым значэнні — ‘перамяшчацца ў вадзе’.

Словы *камень* і *плыве* нельга спалучаць, таму што камень у вадзе адразу апусціцца на дно, а не паплыве.

Месяц і туман таксама не плаваюць у вадзе. Але месяц так плаўна перамяшчаецца ў небе, а туман — у прасторы, што ствараецца ўражанне, нібы яны плывуць. Гэта і дазваляе спалучыць словы *месяц* і *туман* са словам *плыве*. Так з’явілася пераноснае значэнне ў слове *плысці* — ‘плаўна рухацца, перамяшчацца ў прасторы’.

**98.** Прачытайце жарт.

НАВОШТА СПЯШАЦЦА

Ідзе моцны дождж. Па вуліцы, не спяшаючыся, ідзе чалавек. Сустрэчны пытаецца ў яго:

— Чаму вы так павольна ідзяце пад дажджом?

— А які сэнс спяшацца, — адказвае той, — наперадзе ідзе такі ж моцны дождж.

● У якіх сказах слова *ідзе* ўжыта ў прамым значэнні? Абгрунтуйце сваю думку.

**Прамое значэнне** — гэта асноўнае лексічнае значэнне слова: ***бронзавы*** *бюст* (гэта значыць ‘бюст з бронзы’), ***касіць*** *траву* (гэта значыць ‘зразаць касой ці касілкай’).

**Пераноснае значэнне** — гэта такое лексічнае значэнне, якое ўзнікае пры пераносе ўласцівасцей аднаго прадмета на другі: ***бронзавы*** *загар* (гэта значыць ‘які колерам падобны на бронзу’, а не ‘з бронзы’), ***касіць*** *ворага* (гэта значыць ‘нішчыць’, а не ‘зразаць касой ці касілкай’).

**99.** Параўнайце сказы і скажыце, у якіх з іх выдзеленыя словы маюць пераноснае значэнне.

1. Кожную раніцу Паўлік і Рыгорка **беглі** ў лес збіраць суніцы. — **Беглі** дні, і памалу канчалася восень *(У. Крайчанка)*.

2. Першым снегам іскрыцца **абрус** на стале *(П. Броўка)*. — Зіма снягоў **абрусы** сцеле *(А. Бачыла)*.

3. Высокі ордэн **залаты** дзявочыя ўпрыгожыў грудзі *(К. Буйло)*. — Над дарогай клён мой **залаты** — мой адвечны сум па прыгажосці *(М. Арочка)*.

● З выдзеленымі словамі, ужытымі ў прамым значэнні, складзіце і запішыце сказы.

**100.** Спішыце і падкрэсліце словы, якія дапамагаюць больш выразна ўявіць апісаныя з'явы прыроды. Скажыце, у прамым ці ў пераносным значэнні ўжыты гэтыя словы.

1. Ціха шэпча асака, між ракітаў спіць рака *(А. Астрэйка)*. 2. Вяслуюць крыламі буслы, плывуць, плывуць над светам *(Р. Барадулін)*. 3. Заглядзелася астра ў садочку ля ганка і схавала свой тварык за чуб касача *(М. Арочка)*. 4. Мыецца краска расой, уціраецца цёплага сонца святлом *(Я. Колас)*. 5. Гарыць бярозка пад маім акном запозненай асенняю красою *(Т. Мельчанка)*.

Перанос назвы з аднаго прадмета на другі адбываецца:

1) калі гэтыя прадметы чым-небудзь падобныя паміж сабой: ***медны*** *самавар* і ***медны*** *ліст* (падобныя колерам); ***іголка*** *з ніткай* і ***іголка*** *хвойная* (падобныя формай);

2) калі адным і тым жа словам называюць дом, памяшканне і тых, хто ў ім жыве, працуе: ***дом*** *высокі* і ***дом*** *дружны*;

3) калі прыпадабняюцца дзеянні жывых і нежывых прадметаў: ***свішча*** *хлопчык* і ***свішча*** *вецер*;

4) калі адно слова называе цэлае і яго частку: ***вішня*** (дрэва) і ***вішня*** (плод).

**101.** Прачытайце і растлумачце значэнні выдзеленых слоў. Скажыце, чаму адным словам названы розныя прадметы, дзеянні.

1. А па хвалях белы месяц **скача** *(А. Астрэйка)*. — На адталым дзірване* **скача** верабей *(Е. Лось)*.

2. Трэба часцей **вандраваць*** па роднай краіне, трэба больш яе вывучаць *(В. Вольскі)*. — Вунь нават месяц — і той **вандруе** па-над **вёскай:** прыемна і яму пагуляць у такую светлую ноч *(К. Крапіва)*. — У той жа дзень уся наша **вёска** пабегла ў лес *(А. Бялевіч)*.

● Выпішыце сказы, у якіх выдзеленыя словы ўжыты ў пераносным значэнні.

⊙ **102.** Утварыце словазлучэнні або складзіце сказы і запішыце іх. Словы, ужытыя ў прамым значэнні, падкрэсліце прамой лініяй, а ў пераносным — хвалістай.

Залаты (пярсцёнак, месяц), клас (светлы, здольны), гарадь (шчэпкі, кветкі), галоўка (дзіцяці, капусты), кіпіць (вада, работа), светлыя (валасы, успаміны).

**103.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

У тую раніцу мы спускаліся з гор у даліну. У даліне бушавала ябл..невая кве..ень, цвілі краскі, звінелі х..лодныя і празрыстыя ручаі ў траве. Скрозь на з..млі, на стр..хах хат, лапках елак — усюды б..лелі ябл..невыя п..лёсткі.

Там, дзе канча..ся лес, гайдалася паласа сін..-ватага туману. Яшчэ выш..й кіпела сн..жная, сапраўды зімовая завір..ха, а далей — ззяла вечная бель альпійскіх в..ршынь з пухлымі аблокамі над імі *(Паводле В. Хомчанкі)*.

● Падкрэсліце словазлучэнні са словамі, ужытымі ў пераносным значэнні.

**104.** Прачытайце тэкст Я. Пархуты і дайце яму загаловак.

Спакойна клалася на зямлю ноч. Думалася, што пройдзе нейкі час і на небе выскачыць месячык. Навісне над лесам і пачне высвечваць ласіныя сцежкі. Аднак ён не выскакваў.

Недзе апоўначы з’явіўся вецер. Пагойдаўся ў верхавінах дрэў, апусціўся на дол і загуляў у верасе. І якраз у гэты час уздумалі апускацца на зямлю пухкія сняжынкі. Вецер узрадаваўся і пачаў ганяцца за імі ды сукаць* белую кудзелю.

І тады толькі месячык выскачыў. Выгляд у яго быў вінаваты, разгублены. Бег да лесу напрасткі, пераскокваючы з воблака на воблака, і не пераставаў здзіўляцца: «Як жа гэта я спазніўся?» Ён не мог дараваць сабе, што праспаў нараджэнне зімы.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. З дапамогай якіх слоў пра ноч, вецер і месяц гаворыцца, як пра жывых істот? У прамым ці пераносным значэнні ўжыты гэтыя словы?

2. Якія пачуцці аўтара перадаюцца ў гэтым тэксце і з дапамогай якіх слоў?

3. Як вы разумееце выраз *вецер пачаў сукаць белую кудзелю*?

Перад намі тэкст, у якім вобразна і маляўніча апісана наступленне зімы. Вобразнасць і маляўнічасць дасягаюцца дзякуючы выкарыстанню:

а) слоў з пераносным значэннем, калі з’явы прыроды паказваюцца як жывыя істоты *(кла-*

*лася ноч; месячык выскачыў, бег; вецер пагойдаўся, апусціўся, загуляў, узрадаваўся, пачаў сукаць белую кудзелю)*:

б) слоў, якія не толькі называюць прадметы, з'явы, дзеянні і прыметы, але і выражаюць настрой, пачуцці *(месячык, загуляць, здзіўляцца, узрадавацца, вінаваты, разгублены, спакойна)*;

в) розных па структуры і інтанацыі сказаў.

Такая разнавіднасць маўлення, з дапамогай якой ярка, вобразна, маляўніча расказваецца пра якія-небудзь прадметы, з'явы і пры гэтым перадаюцца пачуцці аўтара, адносіцца да **мастацкага стылю.** Гэты стыль характэрны для мастацкіх твораў і твораў вуснай народнай творчасці.

**105.** Прачытайце і вызначце тып і стыль тэксту. На прыкладах з гэтага тэксту ахарактарызуйце сродкі мовы, уласцівыя для мастацкага стылю.

Прайшоў цёплы красавіцкі дожджык. У зямлі заварушыліся незлічоныя карэньчыкі. Праклюнуліся, зацвілі астравы блакітных пралесак. Пацягнулася да сонца сон-трава. Таполі прыбраліся ў зялёныя берэцікі, а бярозы — у касынкі.

У бяздонным блакіце малюсенькімі кропачкамі вісяць жаўрукі. Адтуль срэбным званочкам ліецца на зямлю песня.

Над лугам кружацца буслы. А на ім залаціста-жоўтымі сонейкамі цвітуць адуванчыкі *(Паводле Я. Галубовіча)*.

● Спішыце першы абзац і падкрэсліце словы, ужытыя ў пераносным значэнні.

**106.** Прачытайце і вызначце асноўную думку тэксту. Якія асаблівасці мовы мастацкіх твораў адзначае вядомы рускі вучоны?

Мир слов многообразен, интересен и ещё до конца не разгадан: он так же неисчерпаем, как космос, Вселенная. Возьмём хотя бы литературу: какая бездна глубоких мыслей, идей, образов и эмоций! И всё это из слов, тех обычных и, казалось, ничем не приметных слов, которые выстроились по алфавиту в словаре, ожидая, когда писатель призовёт их и заставит сверкать в своих произведениях всеми цветами смысловой и эмоциональной радуги, вдохнёт в них жизнь. Пока они только слова, они как спокойные клавиши рояля; их жизнь — в творениях писателя, подобно тому, как жизнь звуков — в музыке *(Л. Новиков)*.

● Перакладзіце тэкст на беларускую мову і запішыце.

**107.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, прапушчаныя літары. Дакажыце, што гэта тэкст мастацкага стылю.

Улетку сонца ..стае вельмі рана. Узнімаецца яно, а промні шчодр..я, нават ласкавыя, з..млю будзяць. Будзяць па-свойму. Упаў адзін пр..мень — паблісквае р..сінка. Упаў другі — пач..нае міргаць, упаў тр..ці — пач..нае з..зяць трава. Сыпане іх сонца по..най жменяй — устрапянецца, зас..п..вае сотнямі птуш..ных галасоў пр..рода. Зазірне ч..лавеку ў вочы — і ён узрадуецца незвычайна, адчуўшы яго с..в..тло і ц..пло, ж..ватворную ласку, у шчырым імкнен..і дабра пачне свой працо..ны дзень. Асабліва калі ён летні *(М. Чарняўскі)*.

**108.** Прачытайце. Вызначце стыль і жанр тэксту.

ЯБЛЫНІ МІХАЛА

У кожнай вёсцы ёсць свае дзівакі. З такім чалавекам — Міхалам — я знаёмы.

У маленстве Міхалка атрымаў апёкі. Амаль месяц лячыўся. Рукі і жывот зажылі, але Міхалка пачаў заікацца, часта хварэць.

Калі падрос, панадзіўся хадзіць у грыбы. Прыносіў мала, але затое меў пасля лесу добры выгляд.

Праз некаторы час хлопца нельга было пазнаць. Хвароба знікла.

Мінула зіма. Як толькі ў лесе сышоў снег, Міхал вырашыў прышчапіць некалькі лясных яблынек.

І так рабіў кожную вясну. Праз пяць-сем гадоў першыя дрэўцы пачалі даваць плады.

Людзі, якія збіралі грыбы, часам знаходзілі яблыні Міхала. Яблыкі ім вельмі падабаліся. Ласаваліся імі і лясныя жыхары *(«Родная прырода»)*.

● Складзіце план і напішыце падрабязны пераказ тэксту.

## § 16. Сінонімы

**109.** Разгледзьце малюнкі і скажыце, адзін і той жа ці розныя грыбы называюцца чатырма рознымі словамі.


падбярозавік


абабак


бабка


чашчавік

**110.** Прачытайце. Выпішыце словы, якія абазначаюць адно і тое ж дзеянне ці прымету.

1. І ўсё прыціхла, анямела, што непакоіла раней *(А. Пысін)*. 2. Але раса — аж адчуваецца за спінаю — яшчэ халодная, сцюдзёная *(Г. Далідовіч)*. 3. Яна тады нешта б прыдумала, нешта б змаргеліла, каб павярнуць усё ў лепшы бок *(А. Савіцкі)*.

- Параўнайце словы і адкажыце:
  1. *Прыціхла, анямела.* — Якое слова абазначае поўнае заспакаенне, а якое — частковае?
  2. *Халодная, сцюдзёная.* — Якое слова абазначае больш адчувальны холад?
  3. *Прыдумала б, змаргеліла б.* — Якое слова звычайна ўжываецца ў гутарковым стылі?

Словы адной і той жа часціны мовы, якія па-рознаму вымаўляюцца і пішуцца, але абазначаюць адзін і той жа прадмет, з'яву ці прымету, называюцца **сінонімамі:** *лапата, рыдлёўка; мяцеліца, завіруха; абрывісты, круты (бераг)*.

Сінонімы могуць адрозніваца адзін ад аднаго адценнямі значэння ці ўжываннем у мове.

**111.** Прачытайце рады слоў і ў кожным з іх назавіце словы-сінонімы. Абгрунтуйце свой адказ.

1. Адуванчык, васілёк, дзьмухавец.
2. Загад, каманда, камандаванне, распараджэнне.
3. Загарэцца, закружыцца, успыхнуць.
4. Ліпавы, ліпкі, клейкі.

⊙ **112.** Запішыце прыметнікі і дзеясловы ў такім парадку, каб ступень праяўлення прыметы ці дзеяння ўзрастала.

У з о р: *вялікі, агромністы, гіганцкі.*

Адважны, бясстрашны, смелы; даўні, незапамятны, старажытны; балець, смылець (пячы), шчымець; глядзець, пазіраць, цікаваць, паглядаць.

**113.** Прачытайце. Назавіце сінонімы. Скажыце, як можна пазбегнуць у тэксце паўтарэння слова *завіруха*. Запішыце тэкст, не паўтараючы гэта слова. Устаўце прапушчаныя літары.

У канцы сакавіка раптам д..хнула калюч..м сіверам. Пасыпа..ся густы снег. Усха..ілася завіруха. Нанач яшчэ больш завіла, закруж..ла завіруха. У каламутнай завірусе выморгвалі і хаваліся, гінулі жо..тыя агні в..скі. Заб..лела нанова зямля.

● Назавіце ў запісаным тэксце сродкі сувязі 3—5 сказаў.

Сінонімы даюць магчымасць пазбягаць паўтарэння аднаго і таго ж слова і могуць служыць сродкам сувязі сказаў у тэксце.

**114.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія з выдзеленых слоў маюць блізкае значэнне і з якой мэтай яны выкарыстоўваюцца. Назавіце сродкі сувязі сказаў.

Кожная сустрэча з **творамі** Нінэлі Іванаўны Шчаснай — гэта адкрыццё дзівоснага, непаўторнага свету мастацтва. Хочацца затрымацца каля **палотнаў мастачкі,** каб адчуць хараство быцця. Штосьці няўлоўнае прысутнічае ў кожнай **карціне майстра.** У **пейзажах творцы** быццам гучыць цудоўная музыка, шчырая, хвалюючая і шырокая, якая дорыць чалавеку казачнае хараство і замілаванне жыццём *(П. Карнач)*.

Словы, якія замяняюць адно другое і служаць сродкамі сувязі сказаў у тэксце, называюцца **тэкставымі сінонімамі.**

**115.** Прачытайце тэкст і вызначце, якія словы часта паўтараюцца. Пры спісванні замяніце іх тэкставымі сінонімамі.

У Мінску ў 1972 годзе быў устаноўлены скульптурны помнік Янку Купалу. Робіць крок, абапіраючыся на посах*, Янка Купала. Паводдаль — фантаны. Дзве бронзавыя дзяўчыны ў ноч на Купалле кідаюць вянкі ў ваду. Старадаўнія народныя легенды — крыніцы, што жывяць паэзію, — арганічна спалучаюцца з аблiччам Янкі Купалы. У роздуме аб лёсе народа прыпыніўся Янка Купала *(Л. Ланцэвіч)*.

Словы для даведкі: *паэт, пясняр*.

## § 17. Антонімы

**116.** Уважліва разгледзьце малюнак і скажыце, якія са слоў характарызуюць левы бераг ракі, а якія — правы.



высокі
круты
нізкі
пакаты

Словы адной і той жа часціны мовы, якія маюць супрацьлеглае значэнне, называюцца **антонімамі:** *дзень — ноч, лёгкі — цяжкі, плакаць — смяяцца*.

Антонімы ўжываюцца ў мове пры апісанні ці характарыстыцы прадметаў і з'яў, супрацьлеглых па якіх-небудзь прыметах.

Антонімы надаюць мове выразнасць, служаць сродкам сувязі сказаў у тэксце або частак сказа, напрыкад: *Вада ў рацэ разлілася шырока, заліла ўвесь* ***нізкі левы*** *бераг.* ***Правы*** *бераг* ***высокі****, на ім расце хвойны лес* (К. Чорны). ***Родная*** *зямля — маці,* ***чужая*** *старонка — мачаха* (Прыказка).

**117.** Вызначце пары слоў з супрацьлеглым значэннем, якія абазначаюць час, колер, вагу, дзеянне, стан чалавека.

У з о р: *час: ранні — позні, ...; колер: ...* .

Высокі — нізкі, весяліцца — сумаваць, чорны — белы, вялікі — малы, любіць — ненавідзець, лёгкі — цяжкі, далёка — блізка, ноч — дзень, адкрываць — закрываць, раніцай — вечарам.

**118.** Да слоў з левага слупка падбярыце словы з супрацьлеглым значэннем з правага слупка і запішыце іх парамі. Растлумачце свой выбар.

| | |
|---|---|
| доўгі | кароткі, шырокі |
| зайсці | адкрыць, выйсці |
| горкі | гарачы, салодкі |
| мір | згода, вайна |
| поўдзень | поўнач, раніца |

● Да адной ці да розных часцін мовы адносяцца антонімы?

**119.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце сэнс прыказак і падкрэсліце антонімы.

1. Лепш горкая пра..да, чым сало..кая мана. 2. Ранняя птушка зерне клюе, а позняя вочкі трэ. 3. Дзе шч..рая праца, там густа, а дзе л..нота, там пуста. 4. Новых с..броў набывай, але і стар..х не забывай. 5. Згодаю дом збудуеш, а н..згодаю — зруйнуеш.

● Назавіце правілы, якімі вы карысталіся пры напісанні прапушчаных літар.

**120.** Прачытайце. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў. Падбярыце да іх антонімы і запішыце.

**стары** паляўнічы — ...
**стары** дом — ...
**свежы** вецер — ...
**свежы** хлеб — ...

● Чаму да аднаго і таго ж слова вы падабралі розныя антонімы?

**121.** Спішыце. Падкрэсліце антонімы і вызначце іх ролю. Назавіце сродкі сувязі сказаў у тэксце.

Берагі Дрысы, як стрыечныя браты, чымсьці розняцца. Правы — высокі, камяністы, парослы рэдкалессем, шорсткімі травамі. Левы — спадзісты, на ім ніцыя вербы прыпалі да вады, палошчуць свае галіны *(Паводле С. Лобач)*.

**122.** Прачытайце і вызначце тып тэксту. Назавіце антонімы. Скажыце, чым абумоўлена іх выкарыстанне.

Хлопцы былі аднагодкі і мелі абодва разам гадоў трыццаць пяць. Але выгляд, а таксама і

характары іх былі зусім адметныя. Мірон быў худы, цыбаты* дзяцюк з блакітнымі вачыма, доўгім птушыным носам і доўгімі светлымі валасамі. Віктар, наадварот, — прысадзісты, карчасты, чарнявы, з круглым пляскатым тварам.

Мірон быў больш разважлівы, спакойны хлопец, а Віктар — жвавы, імклівы *(Я. Маўр)*.

**123.** Складзіце некалькі сказаў на тэму «Прыход вясны». Выкарыстайце прыведзеныя словы з супрацьлеглым значэннем.

Словы для выкарыстання: *дзень, ноч, раніцай, увечары, цяплець, халадаць, паўднёвы, паўночны, падмярзаць, падтайваць, лядок, вада, ясны, хмурны.*

## ДА ВЫТОКАЎ СЛОВА

***Вясна.*** Слова вельмі старажытнае. Адны мовазнаўцы лічаць, што ўтворана яно пры дапамозе суфікса ***-н-*** ад кораня ***вес-*** (гэта значыць ‘свяціць, ззяць, зіхацець’). Іншыя паходжанне слова звязваюць са словам **вясёлы** (**весель** — гэта значыць ‘буйны, пышны, паўнакроўны; каляровы, які іграе жывымі, яснымі колерамі, які радуе, вясёлы’).

Спачатку слова **вясна** ўжывалася ў значэннях ‘цёплая пара года’ (у процілегласць зіме) і ‘пачатак цёплага перыяду’. Пазней у першым значэнні стала ўжывацца слова **лета.**

**124.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя словы антонімамі.

**Увосень,** калі ў лесе **жаўцее** лісце, мне рабілася **сумна** ад таго, што сонца як быццам **слабела,** рабілася **нядужым. Надакучае** быць у лесе ў **пахмурны** дзень *(І. Грамовіч)*.

# § 18. Амонімы (знаёмства)

**125.** Прачытайце тэкст і разгледзьце малюнкі. Які малюнак, на ваш погляд, ілюструе тэкст?

— Дзядзечка, глядзіце пад ногі, лісічак не падушыце!

Я не адразу ўцяміў, што пачуў. Асцярожна ступаючы, прайшоў крокаў сем і натрапіў на вялікую сямейку лісічак. Здавалася, што ў траве пахаваліся не лісічкі, а маленькія сонейкі. Доўга стаяў над імі і любаваўся.





**126.** Прачытайце сказы і скажыце, што абазначаюць выдзеленыя словы.

Паабапал **гасцінца** ляжала неаглядная поле залацістага жыта *(Ц. Гартны)*.

Я зусім забыўся, што ў вас дзяўчынка. Я прывёз бы ёй **гасцінец** *(К. Чорны)*.

● Ці аднолькава гучаць і пішуцца выдзеленыя словы ў пачатковай форме?

Словы адной і той жа часціны мовы, якія аднолькава вымаўляюцца і пішуцца, але не маюць нічога агульнага ў лексічным значэнні і абазначаюць розныя прадметы і з'явы, называюцца **амонімамі**: *бабка* (бабуля) і *бабка* (страва з бульбы); *гасцінец* (шлях, дарога) і *гасцінец* (падарунак).

**127.** Спішыце. Падкрэсліце амонімы і растлумачце іх значэнне.

1. Люстра і настольная лямпа гарэлі цьмяна *(І. Шамякін)*. — Ён падыходзіць да шафы і разглядае сябе ў люстра *(В. Гардзей)*. 2. Двор увесь зарос падарожнікам, густым, цёмным *(І. Пташнікаў)*. — І вось нашы падарожнікі апынуліся ў чоўне сярод бязмежнага мора *(Я. Маўр)*.

Амонімы неабходна адрозніваць ад мнагазначных слоў.

Амонімы абазначаюць нічым не падобныя адзін да аднаго прадметы: *аўсянка* (крупа) і *аўсянка* (птушка).

Мнагазначныя словы абазначаюць падобныя чым-небудзь прадметы і з'явы: *крыло* (птушкі) і *крыло* (самалёта) — прадметы падобныя формай і размяшчэннем.

**128.** Прачытайце. Скажыце, якія з выдзеленых слоў мнагазначныя, а якія словы з'яўляюцца амонімамі.

1. На паляне, нібы ў святліцы,
Ружавеюць густа суніцы.
Яны сёлета рана **паспелі.**
Іх дзяўчынкі сабраць не **паспелі.**

2. Дзе **раслі** ў пустэльнях травы,
Слаўся дзікі мох —
Там **расце** ў вялікіх справах
Радасць перамог.

● Вызначце, да якой часціны мовы адносяцца амонімы, растлумачце іх значэнне.

**129.** Прачытайце. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і запішыце. Чаму ён вучыць?

Считается, что омонимы — помеха в языковом общении, в понимании друг друга. В самом деле, когда услышите (или увидите) слово *клуб*, вы можете не понять, идёт ли речь о клубе дыма или об общественной организации, объединении людей для совместного отдыха, развлечений, общения. Однако в естественной речи слова редко употребляются отдельно. Обычно они сочетаются с другими и образуют контекст. А по контексту легко догадаться, какой смысл имеется в виду *(Словарь юного филолога)*.

**130.** Прачытайце. Чаму так склаўся дыялог?

Зазваніў тэлефон. Настаўнік зняў трубку і пачуў:

— Будзеце гаварыць з Лідай.

— А вы не памыліліся? У мяне Ліды, нават проста знаёмай, няма.

— Не-не. З горадам Ліда *(Паводле Ф. Янкоўскага)*.

⊙ **131.** Прачытайце сказы. Як вы разумееце іх сэнс?

1. Дзеці любілі аўсянку. 2. Санька з Колем знайшлі норку. 3. Міхасёў бацька рамантуе кран. 4. Марынка вельмі любіла ласку. 5. Пятрок раз за разам пазіраў на гасцінец. 6. Васілёк, хіба ты не ведаеш, гэта ж малінаўка. 7. Янка ўбачыў славяначку-бяляначку з касой.

Выпраўце сказы так, каб яны не былі двухсэнсоўнымі. Запішыце вашы варыянты сказаў.

**132.** Адкажыце пісьмова на жартоўныя пытанні.

1. Якім ключом нельга адкрыць замок?
2. З якой байкі нельга пашыць коўдру?
3. Які журавель не можа лётаць?
4. Якая кошка ніколі не ловіць мышэй?
5. Які рабіннік не лётае і не спявае?

**133.** Спішыце загадкі Кандрата Крапівы. Разгадайце іх і скажыце, якую ўласцівасць слоў выкарыстаў аўтар пры іх складанні.

1. Розных бабак шмат на свеце.
   Тры з іх добра я прымеціў:
   Біў адну я малатком,
   Еў другую з малаком,
   А трэцяя бабка — карэньчык ды шапка.

2. Вам вядома рэч такая,
   Што бугай раве, рыкае.
   А часамі бугаі
   Растуць ціха ў гаі.
   Здзівіць вас і вестка тая,
   Што бугай яшчэ й лятае.

## § 19. Агульнаўжывальныя словы і словы абмежаванага ўжытку

**134.** Прачытайце дыялог.

— Схадзіў бы ты, унучак, да рэчкі і жульвіцы прынёс.
— Чаго прынесці, бабуля?
— Жульвіцы.
— А што гэта такое?
— Ды ракіта, унучак. А па-нашаму — жульвіца.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму ўнук спачатку не зразумеў бабулю?

2. Якое слова агульнавядомае, а якое ведаюць толькі жыхары той мясцовасці, дзе жыве бабуля?

Словы, якія аднолькава ўжываюць і разумеюць усе, хто карыстаецца беларускай мовай, называюцца **агульнаўжывальнымі**, напрыклад: *мама, рука, хата, журавель, клён, блакітны, ісці, дзесяць* і інш.

Побач з агульнаўжывальнымі ёсць словы абмежаванага ўжытку, якімі карыстаюцца не ўсе беларусы, а толькі жыхары пэўнай мясцовасці.

Словы, якія ўжываюцца толькі ў маўленні жыхароў пэўнай мясцовасці, адносяцца да **дыялектных**, напрыклад: *гален*ь (дзяркач*), *лахачы* (буякі), *вярэнька**, *летка**.

Дыялектныя словы ўжываюцца, як правіла, у вуснай размове. Яны выкарыстоўваюцца і ў творах мастацкай літаратуры з мэтай больш дакладна і праўдзіва апісаць жыццё і побыт людзей пэўнай мясцовасці, а таксама падкрэсліць і перадаць асаблівасці іх маўлення.

**135.** Прачытайце тэкст. Растлумачце сэнс назвы.

МУЗЕЙ СЛОЎ

Жыў некалі на Беларусі Іван Іванавіч Насовіч. Ён нарадзіўся на Магілёўшчыне, пражыў 89 гадоў. Быў педагогам, мысліцелем, вучоным. У сваім жыцці ён здзейсніў подзвіг: сабраў звыш 30 тысяч жывых беларускіх слоў. Гэта духоўнае багац-

це надрукавана ў «Слоўніку беларускай мовы». Зірнем на некаторыя яго старонкі:

Баўкала — жартоўная назва звона.

Вавула — павольны чалавек.

Жыг — імгненны скачок, укус, нечаканы ўдар.

Запісвайце, сябры, цікавыя словы, і ў вас будзе свой музей слоў *(«Вясёлка»)*.

● Прыведзеныя са слоўніка І. І. Насовіча словы агульнаўжывальныя ці дыялектныя?

**136.** Прачытайце. Вызначце дыялектныя назвы прадметаў і паразважайце, чаму яны так названы. Дапоўніце гэтыя рады іншымі вядомымі вам словамі.

верабей — канаплюк, прасянік, ...
дрыгва — дыхавіца, трасіна, ...
дзяркач — галяк, раскол, ...
падасінавік — асавік, краснюк, ...

● З агульнаўжывальнымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**137.** Прачытайце тэкст і растлумачце сэнс загалоўка.

СЛОЎНІК БАБЫ НАСТЫ

Мы з бабай Настай не здаро..каемся, а рукаемся. А на ..уліцы сёння, даруйце, сянні, не г..лалёд, а ледзяніца. І ў рукі баба Наста б..рэ не кій ці кавеньку, а цапок, каб цапаць коў..кую дарогу. Яна вельмі непакоіцца, што на маіх ботах амаль зусім няма падпятак. На дв..рэ не толькі ледзяніца, але яшчэ і дужа ёдка*. І ў свае восемдзесят ш..сць яна не любіць вярзі*. Жыва, з цікавасцю распытвае пра сваіх пра..нукаў і зычлі-

ва кажа, што яны занадта в..лікія малізыннікі* *(А. Пісьмянкоў)*.

● Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце дыялектызмы. Назавіце сінанімічныя ім агульнаўжывальныя словы.

⊙ **138.** Прачытайце. Звярніце ўвагу на дыялектныя формы слоў. Як гэтыя словы вымаўляюцца ў вашай мясцовасці?

Сустрэлі пастухоў. Скардзяцца.

— Лесу шкода. Вуньдзяка ён, за польдэрам*... Сохнэ, бедалага. Альшына, дуб, ясэнь, клён — усё сохнэ. А сохнэ тому, шчо запынь зробілы. Колы вода з Горыні почнэ подпіраты, залівае лес. От того і сохнэ!.. Вот мы і думаемо, шчо ж тоды ждаты, колы так робіцца *(Паводле Я. Пархуты)*.

● Запішыце тэкст, ужываючы словы ў такой форме, якую яны маюць у літаратурнай мове.

⊙ **139.** Складзіце тлумачальны слоўнік з 4—5 дыялектных слоў, вядомых у вашай мясцовасці. Прыклады ўжывання гэтых слоў запішыце з захаваннем асаблівасцей вымаўлення мясцовых жыхароў.

**140.** Спішыце, замяняючы дыялектныя словы агульнаўжывальнымі.

1. Аднакіх дрэў колькі хочаш — крывых ці ў струнку *(А. Русецкі)*. 2. Я збіраў паземкі* і чарніцы *(У. Папковіч)*. 3. Бегла яна на ферму праз свой гарод між гранак *(І. Пташнікаў)*. 4. Базыль узяў у гаспадыні з рук галень і выцягнуў з яго дубец *(Р. Яўсееў)*. 5. «Што ты мяне баш-

ся?» — прысядаючы на корпушкі, пытаў Пятро *(Р. Сабаленка)*. 6. Цяпер увесь лог быў белы — усеяны раманамі *(І. Пташнікаў)*.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *аднолькавы, града, дзяркач, кукішкі, лагчына, суніцы, рамонкі.*

**141.** Прачытайце групы слоў і вызначце, людзі якіх прафесій ці відаў дзейнасці ўжываюць іх у сваім маўленні.

1. Бортмеханік, штурман, штурвал, пасадка, экіпаж.
2. Капітанскі мосцік, кают-кампанія, палуба, мель, маяк.
3. Удар, памост, раўнд, рэферы, накаўт.

Словы, якія выкарыстоўваюцца людзьмі той ці іншай прафесіі ці спецыяльнасці, называюцца **прафесійнымі.**

Да прафесійных слоў як слоў абмежаванага ўжытку прымыкаюць **навуковыя тэрміны**, гэта значыць словы, якія абазначаюць паняцці з розных галін навукі, тэхнікі, мастацтва, напрыклад: *выказнік, назоўнік, суфікс; дзельнік, прапорцыя, перпендыкуляр.*

Прафесійныя словы і навуковыя тэрміны ў творах мастацкай літаратуры выкарыстоўваюцца з мэтай праўдзівага адлюстравання працоўных будняў, стварэння вобразаў людзей пэўнай прафесіі, спецыяльнасці ці сферы дзейнасці.

**142.** Назавіце прафесію свайго бацькі (маці, брата, сястры) і запішыце некалькі прафесійных слоў, якія ён (яна) выкарыстоўвае ў сваім маўленні.

**143.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прафесійныя словы. Вызначце, якой прафесіі ўладальнік працавітых рук будзе навучаць маладых рабочых.

Адчыніліся д..веры, і рупная м..зольная рука паклала ця..кі малаток, падпіхнула фуганкі, паставіла гэблік, бразнула райсшынай, высыпала д..латы, стамескі, пака..іла м..ток суравых нітак, шпурнула ц..ркуль. Увайшоў і сам уладальнік працавітых рук, н..высокі, рухавы, у чыстай рабочай сп..цоўцы. І адразу, без асаблівай цырымоніі, весела выгукнуў: «На..учу вас, таварышы, моцна трымаць у руках гэбель, спраўна працаваць фуганкам, дз..ўбці д..латам, ло..ка забіваць цвікі малатком і ро..ненька, на ..ока, пілаваць дошкі» *(В. Дубіна)*.

● Якіх слоў, агульнаўжывальных ці прафесійных, больш у гэтым тэксце?

**144.** Разгледзьце малюнак. Каго і што вы на ім бачыце? Якія інструменты і матэрыялы патрэбны для таго, каб зрабіць рамку, напісаць карціну? Складзіце некалькі сказаў паводле малюнка.



**145.** Прачытайце тэкст і скажыце, з якой мэтай прафесійныя словы выкарыстоўваюцца ў творах мастацкай літаратуры.

В художественной литературе широко изображается труд людей разных профессий. Писатели используют профессиональные слова, чтобы показать специфику труда людей, а также для речевой характеристики персонажей. Так как профессиональные слова употребляются для создания правдивой жизненной обстановки, значение их, как правило, не раскрывается *(М. Баранов)*.

● Перакладзіце тэкст на беларускую мову і запішыце.

**146.** Прачытайце. Назавіце навуковыя тэрміны і вызначце, спецыялісты якой галіны ведаў ужываюць гэтыя словы ў сваім маўленні.

Разгледзім кветку вішні. У цэнтры добра відаць песцік, ці плоднік, падобны на таўкачык маленькай ступкі. Ён абкружаны шматлікімі тычынкамі. Песцік і тычынкі — галоўныя часткі кветкі. Іх ахоўвае вяночак. Ён складаецца з пяці беласнежных пялёсткаў. Пад пялёсткамі знаходзіцца чашачка з пяці зялёных чашалісцікаў. Вяночак і чашачку называюць калякветнікам. Кветка трымаецца на тонкай сцяблінцы — кветаножцы.



**147.** Спішыце тэкст і падкрэсліце навуковыя тэрміны. У якой галіне ведаў яны выкарыстоўваюцца?

Француз Дамінік вынайшаў ручку, якая робіць вылічэнні ў час пісьма.

Запіс лічбаў і матэматычных знакаў робіць фотаэлемент, і яны трапляюць на ўнутранае вылічальнае прыстасаванне. Дастаткова чалавеку паставіць знак роўнасці — і на экранчыку ручкі з'яўляецца канчатковы вынік.

Ручка выконвае чатыры асноўныя арыфметычныя дзеянні, а таксама знаходзіць квадратны корань *(«Раніца»)*.

● Напішыце, якія чатыры арыфметычныя дзеянні выконвае ручка.

**148.** Прачытайце тэксты. Які з іх адносіцца да мастацкага стылю, а які — да навуковага? Абгрунтуйце сваю думку.

1. Я — вясёлы адуванчык. Калі грэе сонейка, я раскрываю свае зялёныя пялёсткі і ўсім паказваю сваю залатую галоўку. Я малады, лёгкі, прыгожы і падобны на паветраны шар. Але як толькі падзьме вецер, я ператвараюся ў лысага зморшчанага дзядка.

2. Адуванчык — род шматгадовых раслін са сцяблом, якое ўтрымлівае малочны сок. Лісце сабрана ў прыкаранёвай разетцы. Кветкі яркажоўтыя. Суквецце — кошык. Плод — сямянка з чубком.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. У якім тэксце ўжываюцца словы з прамым і пераносным значэннем, а ў якім — толькі з прамым?

2. Які тэкст вызначаецца маляўнічасцю апісання, а які — дакладнасцю і сцісласцю?

3. У якім тэксце пачуцці аўтара выказаны, а ў якім — не выказаны?

Каб паведаміць дакладную інфармацыю пра адпаведны прадмет ці з'яву, карыстаюцца навуковым стылем.

Такая разнавіднасць маўлення, з дапамогай якой у сціслай форме дакладна і доказна паведамляюцца ўсе асноўныя навуковыя звесткі аб прадмеце ці з'яве, адносіцца да навуковага стылю.

Навуковым стылем пішуцца падручнікі, навуковыя і навукова-папулярныя кнігі, энцыклапедыі, даклады, лекцыі на розныя навуковыя тэмы.

Для гэтага стылю характэрны:

а) дакладнасць і доказнасць пры раскрыцці асноўных прымет, уласцівасцей таго, пра што паведамляецца;

б) сцісласць, канкрэтнасць і паслядоўнасць выкладу думак;

в) выкарыстанне навуковых тэрмінаў;

г) адсутнасць слоў з пераносным значэннем.

Адносіны аўтара да таго, пра што паведамляецца, не выражаны.

**149.** Прачытайце. Вызначце, якія з гэтых тэкстаў адносяцца да навуковага стылю. Дакажыце гэта.

I. Зараз вясна. Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, плануюць буслы. Ветразі іхнія раскрылены над дрэвамі, пушысты хвост, як веерам, накрыў выцягнутыя ногі. А мне пад іхні палёт асабліва добра думаецца пра Беларусь, нашу з вамі Радзіму *(У. Караткевіч)*.

II. Белы бусел — птушка атрада галянастых. Даўжыня да 110 см, размах крылаў да 225 см.

Апярэнне белае з чорным на крылах. Прылятаюць у пачатку красавіка. У вырай ляцяць у другой палове жніўня. Гняздуюцца на дахах будынкаў, радзей на высокіх дрэвах *(Беларуская энцыклапедыя)*.

**150.** Прачытайце. Вызначце тып і стыль тэксту. Для каго ён напісаны: для аднаго чалавека ці для ўсіх, хто цікавіцца тэхнікай? Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце тэрміны.

Даследчыкі Нагайскага ..ніверсітэта распрацавалі шар..кавую ручку, якая запамінае ўсё, што ёю пішуць.

У корпус ручкі, акрамя стр..жня, устано..лены аптычны да..чык — звышміні..цюрная камера. Дзес..ць разоў у с..кунду яна здымае тое, што выходзіць «з-пад пяра». Усе даныя накіроўваюцца ў блок пам..ці ёмістасцю адзін мегабайт (прыкладна 500 старонак тэксту). Ручку можна непасрэдна падключыць да камп'ют..ра і перавесці тэксты ў яго пам..ць *(«Родны край»)*.

● Падлічыце, колькі ў тэксце назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў. Слоў якіх часцін мовы больш?

⊙ **151.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Перакладзіце тэкст на беларускую мову і запішыце.

Текст может иметь простую или сложную стилистическую структуру.

Простую стилистическую структуру — одностилевую — имеют научные тексты. Например, тексты по математике, биологии пишутся в строгом научном стиле.

Художественные тексты обычно бывают сложными по стилистической структуре. Например, в рассказе «Бежин луг» И. С. Тургенев передаёт беседу с крестьянскими мальчиками и их разговор между собой. В этих случаях он пользуется разговорным стилем. Для описания красоты летней ночи и утра использует образные средства художественного стиля *(По В. К. Лотареву, Л. П. Федоренко)*.

**152.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары.

Найбольш распаўсюджаная ягадная расліна Палесся — буякі. Рас..е на заб..лочаных, бедных і кіслых глебах. Кусты выш..нёй 30—120 сантыметраў, аднак сустр..каюцца экз..мпляры выш..нёй да 170 сантыметраў. Галінкі ц..ліндрычныя, ш..рыя. Лісце эліптычнае, суц..льнае. Кветкі дробныя, б..лаватыя з ружовым адце..ем. Плады — сін..вата-чорныя яг..ды з шызым налётам, кісла-с..лодкія *(«Родная прырода»)*.

● Дакажыце, што гэта тэкст навуковага стылю.

## § 20. Устарэлыя словы і неалагізмы

**153.** Прачытайце.

Па дарогах Беларусі ідзе на захад вялікае войска. Пыл клубіцца ад дзясяткаў тысяч ног. 91 харугва* выступіла ў паход. І 20 з іх беларускія. Зіхацяць на сонцы бліскучыя шаломы, шчыты, мячы і кальчугі.

І крыжаносцы добра падрыхтаваліся да рашучай бітвы. Яны ўзброены вялікімі мячамі і коп'ямі, а коні закуты ў браню.

Раніцай 15 ліпеня 1410 года затрубілі трубы. І закіпела лютая сеча. Ламаюцца коп'і, грымяць даспехі, людзей падмінаюць і топчуць коні. Бягуць рыцары, ратуюцца ад пагібелі. Тысячы іх забіты, тысячы ўзяты ў палон.

Дарагой цаной далася перамога. У чужой зямлі засталіся і тысячы беларускіх ратнікаў. Але Грунвальдская бітва паклала канец заваёўніцкім планам крыжаносцаў *(Паводле В. Вольскага)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Ці ёсць на ўзбраенні сучасных воінаў *мячы, коп'і, шчыты, кальчугі*?

2. Чаму выйшлі з актыўнага ўжывання і ў сучаснай беларускай мове не выкарыстоўваюцца як назвы зброі словы *кальчуга, кап'ё, меч, шчыт*?

3. Якія яшчэ словы ў тэксце абазначаюць прадметы і паняцці, уласцівыя для мінулых эпох?

Словы, якія выйшлі з актыўнага паўсядзённага ўжывання, лічацца **ўстарэлымі.**

Устарэлыя словы адлюстроўваюць мінулае ў жыцці народа. Таму яны выкарыстоўваюцца пісьменнікамі ў творах на гістарычную тэматыку з мэтай праўдзівага паказу падзей той ці іншай эпохі. Такія словы падаюцца ў тлумачальных слоўніках з паметай *уст.* (гэта значыць устарэлае).

**154.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце ўстарэлыя словы. Скажыце, што яны абазначалі і чаму выйшлі з актыўнага ўжытку.

«Спыні..еся!» — з апошніх сіл кр..чу —
распачынаецца ..сё ро..на сеча.

І радасныя ..се звіняць м..чы,
І, нібы бубны, іх вітаюць латы.
Надры..ны кліч не чуюць ваяры.
*Ю. Голуб.*

**155.** Прачытайце. З якімі новымі словамі вы сустрэліся? Скажыце, у сувязі з чым у мове з'яўляюцца новыя словы.

1. Геноміка — маладая навука, якая вывучае сукупнасць усіх генаў* арганізма *(«Вячэрні Мінск»)*. 2. На змену мапеду, які забруджвае паветра выхлапнымі газамі, хутка прыйдзе электрапед — веласіпед з электрарухавіком *(«Звязда»)*. 3. Марсіянскі сфераход — незвычайны транспартны сродак для перасоўвання па паверхні Марса *(«Звязда»)*.

Новыя словы, якія ўзніклі ў мове нядаўна для абазначэння новых прадметаў і з'яў, адносяцца да **неалагізмаў.**

Новыя словы лічацца неалагізмамі да таго часу, пакуль яны не страцілі адцення навізны, незвычайнасці.

**156.** Прачытайце. Вызначце стыль і жанр тэксту. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце словы, якія з'явіліся ў сувязі з развіццём электроннай тэхнікі. Ці можна лічыць гэтыя словы неалагізмамі?

Найв..лікшым багаццем карале..ства Сусветнае Сеціва былі камп'ют..ры. З дапамогай камп'ют..раў сеціўцы пра свае справы ўс..му свету праз інт..рн..т расказвалі.

Ды панадзіўся ў іхняе карале..ства Вірус Шкодзя. Л..тае, у чуж..я сайты зазірае. Залезе ў самае

нутро эл..ктронных праграм, пажуе ўсё. Паломак не відаць, але адключаюцца міжзорныя экраны, знікае сувязь з інт..рн..там.

Тады сеці..цы ўзялі бліскучы д..ск з надпісам «Антывірус», перадалі яго Прац..сару і загадалі л..чыць камп'ют..ры. Доўга на экране М..нітора нешта насілася, міргала, бегала зверху ўніз і злева направа. Потым Камп'ют..р нешта гучна прамовіў, М..нітор ажыў, экран засв..ціўся сваім звыклым св..тлом *(Паводле А. Бутэвіча)*.

**157.** Прачытайце. Выпішыце сказы, у якіх ёсць неалагізмы. Падкрэсліце іх.

1. Аматары-вынаходнікі стварылі зорб — вялікі шар з празрыстага латэксу, унутры якога знаходзіцца меншы шар, а прамежак між імі запоўнены паветрам. Чалавек забіраецца ў сярэдзіну шара, расстаўляе рукі і ногі і перамяшчаецца па мясцовасці. Зорбінг — захапленне новае, але яго ўжо паспелі апрабаваць многія *(«Переходный возраст»)*. 2. Павел Крук ажыццявіў падарожжа за паўночны Палярны круг на веласнегаходзе *(«Комсомольская правда»)*. 3. Паны ў калясках пад'язджаюць *(Я. Колас)*. 4. Гэты горад пакуль што не мае назвы. Архітэктары і будаўнікі называюць яго Атамградам. Ён знамянуе ўзнікненне ў нас атамнай энергетыкі *(«Звязда»)*. 5. І крыкнуў генерал: «Дзеля Айчыны, браткі, не пашкадуем жывата!» *(С. Басуматрава)*. 6. Лекатэка — бібліятэка цацак *(«Настаўніцкая газета»)*.

# § 21. Запазычаныя словы, іх ужыванне і правапіс

**158.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту.

Прыпамінаю адзін выпадак.

У хаце партызаны. На стале чыгун з гарачай варанай бульбай.

— Мамаша, сделайте пюре. Вот тушёнка, — кажа адзін партызан.

Бабуля таўчэ бульбу. Мама падыходзіць да мяне.

— Мама, я хачу пюрэ, — шапчу я.

Мама прыносіць мне ў місачцы тоўчанай бульбы, запраўленай тушонкай. Я ем. Калі мама падыходзіць забраць пустую місачку, ціхенька шапчу ёй:

— Мама, а дзе пюрэ? *(М. Цілінская)*.

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Чаму дзяўчынка не разумела значэння слова *пюрэ*?
2. Як вы думаеце, якую назву яна ведала?
3. Якая з гэтых назваў беларуская, а якая іншамоўная, запазычаная?

Словы, якія спакон вякоў існуюць у беларускай мове, называюцца **спрадвечна беларускімі,** напрыклад: *пляменнік, сястра, асілак, працаўнік, сасна, гара, вецер, бусел, буйны, гаманіць* і інш.

Словы, якія прыйшлі ў беларускую мову з іншых моў, называюцца **запазычанымі,** напрыклад: *анатомія, тэарэма* (грэчаскія), *дэлегат, інерцыя* (лацінскія), *мітынг, камбайн* (англійскія), *берэт, паліто* (французскія), *аўтобус, бутэрброд* (нямецкія) і інш.

Многія запазычаныя словы захоўваюць у беларускай мове такія ўласцівасці, па якіх вызначаецца іх іншамоўнае паходжанне. Так, запазычаным словам уласцівы спалучэнні ***бю, пю, вю, кю, уа, уэ*** *(бюлетэ́нь, капюшо́н, гравю́ра, кюве́т, вуа́ль, дуэ́т)*, ***кс, пс, ос (ас), іка (ыка), іс, іск*** *(ксе́ракс, псіхало́гія, ко́смас, бата́ніка, кры́зіс, абелі́ск)*, ***ум, ус (юс), ант, ент (энт), ура*** *(аква́рыум, по́люс, авантю́ра, студэ́нт, апарату́ра)*, ***шт, шп, хт*** *(штаб, шпрыц, ша́хта)*, наяўнасць у слове літары ***ф***, націскных ***о, у, э, е, і***, спалучэнняў ***аж, ія (ыя), ій (ый), ізм (ызм), іст (ыст)*** на канцы слоў *(ша́фа, кіно́, рагу́, купэ́, філе́, таксі́, вернiса́ж, авія́цыя, санато́рый, капіталі́зм, арты́ст)*, цвёрдых **[д]**, **[т]** *(дысцыплі́на, тэа́тр)*.

**159.** Прачытайце сінанімічныя рады слоў. Назавіце ў кожным з іх запазычаныя словы. Па якіх прыметах вы іх вызначылі?

Адлегласць, дыстанцыя; інтэрвал, прамежак; пастанова, рашэнне, рэзалюцыя, указ; антракт, перапынак; адзнака, адметнасць, асаблівасць, прыкмета, спецыфіка; аснова, падстава, фундамент; парадак, правіла, рытуал.

● З трыма запазычанымі словамі (на выбар) складзіце сказы.

**160.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце запазычаныя словы.

1. Сасна — і аб..ліск і помнік — шуміць ад подыху в..троў *(П. Панчанка)*. 2. Поле, елкі ды бяро..кі — пракаветны наш п..йзаж *(С. Басумат-*

*рава)*. 3. Шлагба..м падняўся, чалавек перайшоў праз р..йкі і ўвайшоў у за..улак *(К. Чорны)*. 4. Афрыканскі стра..с — самая буйная з сучасных птушак *(«Звязда»)*. 5. У срэбны бубен б'юць сініцы, на флейтах свішчуць сн..гіры *(В. Вітка)*. 6. Фантаст..ка часта апярэджвае на..уку *(І. Навуменка)*. 7. Былі спр..чкі і д..спуты, былі гарачыя выступленні ў д..скусіях, на канф..рэнцыях, сходах *(А. Звонак)*.

● Якімі правіламі вы кіраваліся пры напісанні прапушчаных літар?

**161.** Прачытайце. Назавіце сінонімы. Якія з гэтых слоў спрадвечна беларускія, а якія — запазычаныя?

Тым часам Бародка на ўздыме, з пафасам скончыў свой даклад. Ён, безумоўна, чакаў грому апладысментаў, таму і затрымаўся каля трыбуны, але пачуліся дробныя, нясмелыя воплескі *(І. Шамякін)*.

● Ці можна на прыкладзе названых запазычаных слоў сказаць, што яны ўзбагачаюць лексіку беларускай мовы?

**162.** Прачытайце і скажыце, ці падзяляеце вы думку Кандрата Крапівы ў адносінах да запазычаных слоў.

Мы не прапануем выкідаць з нашай мовы іншамоўную лексіку. Тое, што прыйшло ў нашу мову натуральным шляхам, падпарадкавалася яе законам і стала агульнанародным здабыткам, — гэта наша. Выкідаць гэтыя словы — значыць растрачваць народнае дабро. Мы толькі супраць тых запазычанняў, якіх народ не прымае, бо ў народзе ёсць свае, родныя, даўно абжытыя словы для абазначэння тых жа паняццяў.

⊙ **163.** Прачытайце верш П. Панчанкі і вызначце яго асноўную думку. Выпішыце запазычаныя словы. Якім словам і чаму паэт аддае перавагу?

Усе сыны ўсіх народаў
На памяць помняць родны верш.
І ганарацца песняй роднай,
З якой з калыскі ты жывеш...

Мілей мне «кнігаўка», чым «чыбіс»,
Бо голас кнігаўкі ў душы.
І бульбу смажаную чыпсам
Ты зваць па модзе не спяшы.

І я на «клюкву» «журавіны»
Не прамяняю, не аддам.
І светлы край наш жураўліны
Я дзецям ціха перадам.

**164.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце запазычаныя словы.

Жанглёры тым часам завязалі ..очы ч..рнымі хус..інкамі, сталі жангліраваць усляпую. За жанглёрамі на памост вы..шаў музычны эксцэнтрык*, за ім — эквілібр..ст* на катушках. Потым зноў той жа музычны эксцэнтрык, толькі .. ролі кло..на *(А. Асіпенка)*.

## § 22. Паняцце пра фразеалагізмы, роля фразеалагізмаў у маўленні

**165.** Прачытайце і вызначце стыль тэксту. Скажыце, чаму ўнучка не зразумела бабулю.

Валя (ёй пяць гадоў) не хоча рана класціся спаць.

— Калі я была маленькая, — угаворвае бабуля, — я клалася спаць з курамі.

— Цікава! — здзівілася Валя. — Як гэта ты, бабуля магла спаць на седале?

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Як вы разумееце спалучэнне слоў *класціся спаць з курамі*?

2. Ці можна апусціць якое-небудзь слова або замяніць яго іншым, не змяняючы значэння выразу?

**166.** Прачытайце сказы парамі і вызначце, якія з выдзеленых спалучэнняў слоў з'яўляюцца непадзельнымі па значэнні, а якія падзяляюцца на асобныя словы з самастойным лексічным значэннем.

1. На свеце толькі той шчасце мае, хто сябе **ў руках трымае** *(Прыказка)*. — Дзяўчынка **трымае ў руках** невялікі збаночак *(П. Пястрак)*.

2. Заданне тваё, Васілёк, не лёгкае. Але ці варта нам **апускаць рукі?** *(А. Якімовіч)*. — Мама прысела на край ложка, стомлена **апусціла рукі** на прыпол *(А. Кудравец)*.

● Спішыце сказы з непадзельнымі спалучэннямі слоў.

У мове, акрамя асобных слоў, існуюць устойлівыя спалучэнні слоў, якім уласціва пэўнае значэнне.

Устойлівыя непадзельныя спалучэнні слоў, якія існуюць у мове як адно сэнсавае цэлае, называюцца **фразеалагізмамі.**

**167.** Прачытайце. Растлумачце значэнне фразеалагізмаў з дапамогай сінанімічных слоў з правага слупка.

| | |
|---|---|
| абуць у лапці | ашукаць, падмануць, падвесці |
| лёгкі на язык | балаваць, песціць |
| мазоліць вочы | балбатлівы, гаваркі |
| насіць на руках | блізка, недалёка, побач |
| рукой падаць | дакучаць, назаляць |

Фразеалагізм, як і слова, можа называць прадмет (*бярозавая каша* — ‘розгі’), прымету (*стрэляны верабей* — ‘бывалы’; *у свіныя галасы* — ‘позна’), дзеянне (*збіцца з панталыку* — ‘зблытацца’, ‘памыліцца’).

Паколькі фразеалагізмы маюць адзінае, цэласнае значэнне, выражаюць адно паняцце, то і ў сказе яны з’яўляюцца адным членам сказа.

Значэнні фразеалагізмаў раскрываюцца ў фразеалагічным слоўніку.

**168.** Прачытайце сказы і разгледзьце малюнкі. Чаму хлопчык намаляваў такія ілюстрацыі?

1. Рытвінскага вельмі злавала думка, што нейкі хлапчук колькі часу вадзіў яго за нос *(С. Баранавых)*. 2. Са мною было так: дзе служыў, там і кінуў якар, дадому не паехаў *(М. Кусянкоў)*.





● На аснове аднаго з малюнкаў складзіце жартоўны дыялог.

**169.** Растлумачце значэнне фразеалагізмаў. Складзіце і запішыце з імі сказы.

Аршын з шапкаю, блытацца пад нагамі, кот наплакаў, на кожным кроку, хоць вока выкалі.

**170.** Прачытайце тэкст і вызначце яго стыль. Перакладзіце на беларускую мову і запішыце. Назавіце фразеалагізмы, адкажыце на пытанні тэксту.

Поссорились на перемене ребята. Один кричит:

— Я тебе покажу, где раки зимуют!

А второй ему:

— Ишь, разошёлся, прямо из кожи вон лезет!

Тут подбежал к ребятам дежурный и давай их расталкивать. А они на него напустились:

— Всё следишь! Наверное, и спишь с открытыми глазами!

А дежурный вдруг как крикнет:

— Стойте, ребята! Разгадайте-ка свои загадки!

— Какие такие загадки? — удивились ребята и разжали кулаки.

— А вот какие, слушайте! Первая: где раки зимуют? Вторая: кто из своей кожи вылезает? Третья: кто спит с открытыми глазами? *(Н. Сладков)*.

Фразеалагізмы часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў гутарковым і мастацкім стылях маўлення. Яны ажыўляюць мову, надаюць ёй асаблівую выразнасць, дапамагаюць ствараць непаўторныя малюнкі з жыцця людзей і яркія вобразы.

**171.** Запішыце як мага больш вядомых вам фразеалагізмаў, якія ў сваім складзе маюць словы: а) нос, язык; б) даць, рука.

**172.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя словы фразеалагізмамі. Падкрэсліце фразеалагізмы як члены сказа.

1. Гадзіны са тры хлопчык трымаўся, а потым пачаў **драмаць.** 2. Усю ноч Віктар не **заснуў**, чакаў прыезду брата. 3. Юрась зноў забраўся на печ, **прыслухаўся.** 4. Работы **многа**, а дзень кароткі. 5. Але наш народ нельга было **скарыць** і прымусіць пакорліва **працаваць** у прыгонніцкім ярме.

Словы для даведкі: *гнуць спіну, звесці вочы, кляваць носам, навастрыць вушы, непачаты край, паставіць на калені.*

**173.** Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Як вы разумееце іх сэнс?

1. Горкая часам праца, ды хлеб ад яе салодкі. 2. Чужым розумам не пражывеш. 3. Перш папрацуй, а потым і патанцуй. 4. Усякі пастух сваёй пугай хваліцца. 5. Для ўсякай птушкі сваё гняздо міла.

● У якіх прыказках ужыты словы-антонімы? Назавіце іх.

**174.** Прывядзіце вядомыя вам прыказкі і прымаўкі: а) пра дружбу і сяброўства; б) у складзе якіх ёсць слова *язык*.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**1.** Прачытайце вершаваныя радкі А. Грачанікава. Як вы разумееце сэнс апошняга сказа?

Мова...
Родная мова
У марах, у песнях, снах.

Мае ў ёй кожнае слова
Свой колер, і смак, і пах.

● Якую ролю выконваюць словы ў мове?

**2.** Што называецца лексічным значэннем слова? Назавіце лексічныя значэнні выдзеленых слоў.

Варыянт I

З **крыніцы**
Ля старой **бярозы**
Між хмызнякоў
Бяжыць **ручэй.**
*М. Пазнякоў.*

Варыянт II

Наша **жыта** —
З **васількамі,**
Неба наша —
З **жаўрукамі.**
*В. Жуковіч.*

● З аднназначнымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**3.** Да кожнага назоўніка падбярыце і запішыце дзеяслоў, які абазначае дзеянне ў пераносным значэнні.

1. Сцежка, вочы, неба, надвор'е, дом.
2. Бяроза, сакавік, дзень, школа, голас.

Узор: *вада бяжыць, возера хвалюецца.*

● Якое лексічнае значэнне слоў называецца прамым, а якое — пераносным?

**4.** Спішыце, устаўляючы замест кропак сінонімы да выдзеленых слоў.

Варыянт I

1. **Звіняць,** ... ручайкі ў вячэрняй цішыні. 2. **Халодны,** ... вецер лютуе ў полі. 3. Светлая хмарка **ціха** і ... плыла ў небе. 4. Сонца, узышоўшы ўранні, не хавалася цалюткі дзень — **смаліла,** ... неміласэрна.

Варыянт II

1. Зводдаль **вуркатаў,** ... ручай ды **шумелі,** ... верхавіны елак. 2. Мікола коратка **зыркнуў** на Петрака адным вокам, скоса ... на Яна. 3. Неўзабаве над хмаркай затрапятала **ясная,** ... зорка. 4. **Бесклапотна,** ... цвыркаюць птушкі.

**5.** Падбярыце антонімы да прыметнікаў у наступных словазлучэннях і запішыце паводле ўзору.

Узор: *цёмны пакой — светлы пакой, цёмны чалавек — адукаваны чалавек.*

Варыянт I

Свежы хлеб, свежая газета, свежыя агуркі, свежыя кветкі.

Варыянт II

Ціхі голас, ціхая вуліца, блізкі край, блізкі чалавек.

● Чаму адно і тое ж слова можа мець некалькі антонімаў?

**6.** Колькі слоў маюць такое напісанне? Складзіце з імі сказы.

Варыянт I

Гасцінец, аўсянка, люстра.

Варыянт II

Бабка, ласка, горка.

● Якія словы называюцца амонімамі?

**7.** Выпішыце словы абмежаванага ўжытку.

1. Пачалі сустракацца сыраежкі і праўдзівікі. 2. У садзе расцвіў куст тульпанаў. 3. Дровы хлопцы складалі ў сцірты. 4. У кузніцы чулася гудзенне агню ў горнах і стук малаткоў. 5. На блізкім двары асвер* заскрыпеў. 6. Камбайны выязджаюць сянні. 7. І ткаллі радасць: лётае ў аснове туды-сюды няўрымслівы чаўнок. 8. Ад парога да стала цягнуўся стоптаны ходнік*.

**8.** Растлумачце значэнне запазычаных слоў шляхам падбору спрадвечна беларускіх слоў і запішыце іх парамі.

Варыянт I

Альянс, аргумент, ваяж, кантракт, фантазія.

Варыянт II

Аналогія, бар'ер, дэкада, кантраст, вердыкт.

**9.** Якія фразеалагізмы меў на ўвазе вучань, малюючы такія ілюстрацыі? Складзіце з гэтымі фразеалагізмамі сказы.



**10.** Запішыце вядомыя вам прыказкі пра Радзіму (родны край), кнігу, навуку, працу.

# СКЛАД СЛОВА. СЛОВАЎТВАРЭННЕ І АРФАГРАФІЯ

## § 23. Змяненне і ўтварэнне слоў

**175.** Прачытайце словы. Вызначце, якімі часцінамі мовы яны з’яўляюцца. Выпішыце спачатку словы, якія скланяюцца, потым — якія спрагаюцца.

Вандраваць, пісьменнік, чароўны (гук), зайздросціць, абавязак, чырванець, блакітны (колер), бянтэжыцца.

**176.** Прачытайце. Выпішыце з тэксту формы слова *мама*. Ці змяняецца ў гэтых формах лексічнае значэнне слова? Назавіце лексічнае значэнне гэтага слова.

Ніхто нас так не шкадуе і не любіць, як мама. Для кожнай мамы яе дзеці — самыя лю́быя і дарагія. Люба́я наша дра́піна баліць маме нясцерпным болем, наша няўдача становіцца яе пакутай*. Трэба берагчы, шанаваць і любіць сваю маму, ганарыцца мамай, прыносіць ёй не гора, а толькі радасць і кветкі. Самыя светлыя нашы пачуцці, самыя лепшыя нашы думкі — аб маме *(Паводле С. Грахоўскага)*.

● Растлумачце лексічнае значэнне слоў *шкадаваць, пакута, шанаваць*.

● Назавіце аднародныя члены сказа.

**177.** Прачытайце верш «Іней». Выпішыце роднасныя (аднакаранёвыя) словы, якія маюць агульную значымую частку. Аднолькавае ці featured рознае значэнне маюць аднакаранёвыя словы? Складзіце сказы з аднакаранёвымі словамі, каб атрымаўся звязны тэкст на тэму «Зіма».

Белыя дрэвы і глеба,
Іней бялюткі ляжыць,
Нібы развесіла неба
Ноччу бялізну сушыць.
*С. Быкава.*

● Зрабіце вывад: што азначае *змяніць слова*? Што азначае *ўтварыць слова*?

Трэба адрозніваць тэрміны «змяненне слоў» і «ўтварэнне слоў».

Пры **змяненні** (пры скланенні назоўнікаў, прыметнікаў, займеннікаў, лічэбнікаў, пры спражэнні дзеясловаў) утвараюцца формы аднаго і таго слова: *цішыня — цішыні, цішынёй, у цішыні; вандраваць — вандрую, вандруеш, вандруе, вандруеце*. Пры змяненні па склонах, ліках, асобах, часах утвараюцца не новыя словы, а розныя граматычныя формы аднаго і таго ж слова. Лексічнае значэнне ў формах слова не змяняецца: *плысці — плыве́, плыла́, плылі́*.

Пры **ўтварэнні** з'яўляюцца аднакаранёвыя (роднасныя) словы, якія маюць агульную значымую частку. Лексічнае значэнне аднакаранёвых слоў рознае: *апавядаць* — 'расказваць', 'паведамляць', *апавядальнік* — 'той, хто апавядае'; *пчала* — 'насякомае, якое перапрацоўвае нектар на мёд', *пчаляр* — 'той, хто даглядае пчол'.

**178.** Запішыце спачатку роднасныя словы, потым — формы аднаго і таго слова.

1. Лес, лесу, лесам, у лес.
2. Лес, ляснік, лясісты, пералесак, лясны.
3. Горны (луг), горнага (лугу), горнаму (лугу), на горным (лузе).
4. Гара, узгорак, горац, гарысты, горны.
5. Госць, гасцініца, гасціць, гасцяваць, гасцінны (гаспадар).
6. Гасцюю, гасцюеш, гасцюе, гасцюем, гасцююць.

**179.** Карыстаючыся табліцай, раскажыце правіла «Змяненне і ўтварэнне слоў». Запішыце прыклады, якія вы скарыстаеце падчас адказу.

| Утварэнне слоў | Змяненне слоў |
|---|---|
| 1. Лексічнае значэнне слоў рознае | 1. Лексічнае значэнне слова не змяняецца |
| 2. Словы адносяцца да адной ці розных часцін мовы | 2. Словы з'яўляюцца адной часцінай мовы |
| 3. Словы адрозніваюцца суфіксамі, прыстаўкамі, якія надаюць рознае лексічнае значэнне | 3. Словы адрозніваюцца канчаткамі |

**180.** Прачытайце тэкст. Падбярыце і запішыце да выдзеленых слоў роднасныя.

Кожны з нас, відаць, памятае сваю першую школьную кніжку — буквар. Але, калі запытацца, хто **аўтар** гэтага падручніка, не ўсе, думаю, ад-

кажуць. Між тым у буквара ёсць аўтар. Гэта **пісьменнік** Анатоль Клышка. Першы свой буквар ён стварыў у 1963 годзе. З таго часу галоўны школьны падручнік вытрымаў больш за 30 перавыданняў!

Анатоль Канстанцінавіч сваё творчае **жыццё** прысвяціў дзецям[сн]. З такім цікавым чалавекам заўсёды хочацца пазнаёміцца бліжэй, зразумець вытокі* любові да роднага слова. А яны — у дзяцінстве, у **роднай** мове *(Я. Мальчэўская)*.

● Ці памятаеце вы буквар, па якім вучыліся ў першым класе? Якія былі вашы любімыя кніжкі ў дзяцінстве?

**181.** Вучань прапусціў урок па тэме «Змяненне і ўтварэнне слоў». Ці правільна ён выканаў дамашняе практыкаванне, у якім трэба было асобна выпісаць формы слова і аднакаранёвыя словы? Зрабіце гэта заданне без памылак.

| *Формы слова* | *Аднакаранёвыя словы* |
| --- | --- |
| белы (колер) | пабелка |
| белізна́ | золата |
| бялі́зна | пазалочаны |
| пабяліць | залацінка |
| пра белы (колер) | залатога (пярсцёнка) |
| пазалота | бялець |
| бялюткі | залаты (пярсцёнак) |
| беламу (колеру) | залаціць |
| у белым (колеры) | залатому (пярсцёнку) |
| бель | пра залаты (пярсцёнак) |
| з белым (колерам) | залацісты (колер) |

## § 24. Марфемная будова слова. Аснова і канчатак. Нулявы канчатак

Словы маюць свой састаў, будову. Будаўнічым матэрыялам для слова з'яўляюцца **марфемы** (*грэч.* «морфе» — форма). Марфема — значымая частка слова. Кожная марфема ў слове выконвае сваю ролю, мае сваё значэнне.

Слова можа складацца з наступных марфем (значымых частак): ⌐ — прыстаўка; ⌒ — корань; ∧ — суфікс; □ — канчатак; ⌐ — постфікс:

*вуч-ан-іц-*[*а*], *вуч-н-ёў-ск-*[*і*], *неда-вуч-ы-ць*, *вуч-ы-ц-ца*.

Напрыклад, у слове *носікі* кожная марфема мае значэнне. Корань ***нос-*** паказвае, што слова мае адносіны да 'часткі твару чалавека', суфікс ***-ік*** надае слову значэнне ласкальнасці. Канчатак -[***і***] паказвае, што назоўнік ужыты ў форме множнага ліку назоўнага або вінавальнага склону.

Такім чынам, кожная марфема ў слове мае сваё значэнне, з'яўляецца значымай часткай.

**182.** Выпішыце словы, марфемная будова якіх адпавядае структуры: ⌐ + ⌒ + ∧ + □.

Вожык, акрэплі, ападкі, асабовы, рассылка, перанеслі, пералётны, перакладчыкі, выраслі, паштоўка, пралескі.

У зменным слове выдзяляюцца аснова і канчатак: *зямл*-*я*, *прыгож*-*ы*, *прыйд*-*уць*.

**Аснова** — частка слова без канчатка, у якой заключаецца канкрэтнае лексічнае значэнне. Напрыклад: *Праз акн- мы бач- сумн- дзяўчынк-*. Нават без канчаткаў *(акн-о, бач-ым, сумн-ую, дзяўчынк-у)* мы пазнаём словы, іх лексічнае значэнне.

**183.** Разгледзьце запіс.

Р. — ***-ага***
Д. — ***-аму***
М. — *(у)* ***-ым***

## АДКАЖЫЦЕ НА ПЫТАННІ

1. Якія часціны мовы могуць мець такія канчаткі? Прывядзіце прыклады.
2. Ці можна вызначыць род гэтых слоў? А лік?
3. Пра што нам расказаў канчатак?

**184.** Прачытайце. Запішыце прыметнікі, з дапамогай якіх можна ахарактарызаваць герояў казкі. Выпішыце назоўнікі з апошніх двух сказаў, абазначце ў іх аснову і канчатак.

### ЧАМУ КОТ ПАСЛЯ ЯДЫ МЫЕЦЦА?

*Злавіў* кот мыш. Тая просіць, каб адпусціў яе на *волю*. А кот не пускае. Тады мыш пайшла на *хітрыкі*. «Каток, — кажа яна, — усе перад ядой мыюцца, а ты сёння яшчэ не мыўся. Памыйся, а тады і з'ясі мяне».

Кот давай лапамі мыцца, а мыш — скок, і даганяй яе.

З таго часу ўсе каты мыюцца пасля яды.

*(Казка)*

● Да выдзеленых слоў падбярыце аднакаранёвыя.

**Канчаткам** называецца зменная значымая частка слова, якая служыць для ўтварэння формаў слова, для сувязі слоў у словазлучэнні або ў сказе: *у цікав-*[*ай*] *кніз-*[*е*], *цікавіцца кні-г-*[*амі*]. *Наведвальнік*[ ] *распытваў*[ ] *у кнігар-н-*[*і*] *пра нов-*[*ыя*] *кніг-*[*і*].

Канчатак перадае граматычнае значэнне роду, ліку, склону, асобы. Каб правільна вызначыць канчатак, трэба праскланяць *(дарог-*[*а*], *дарог-*[*ай*], *(у) дароз-*[*е*]*)* або праспрагаць слова *(ід-*[*у*], *ідз-*[*еш*], *ідз-*[*ём*], *ідз-*[*яце*]*)*. Нязменныя словы і нязменныя формы слоў канчаткаў не маюць: *метро, кенгуру, ціха, несці.*

**185.** Прачытайце. Якое граматычнае значэнне перадаюць канчаткі ў наступных словах?

Узгоркі — узгорак, (на) небасхіле — небасхіл, гаманілі* — гаманіў, у змесце — змест, бачыла — бачыў, вішня — вішань, ляжалі — лёг, неслі — нёс, стол — на стале.

● Ці можна сказаць, што словы *ўзгорак, гаманіў, бачыў* не маюць канчаткаў? Чаму?

● Запішыце прыклады слоў, якія не маюць канчаткаў.

**Нулявым** называецца **канчатак**, не выражаны гукамі: *лес*□, *стаяў*□, *нос*□, *нёс*□, *чытаў*□.

Нулявы канчатак вызначаецца ў тым выпадку, калі ў іншых формах слова ёсць канчатак, выражаны гукамі: *спяваў*□ — *спявал-*[*а*], *спявал-*[*і*]; *снег*□ — *у снез-*[*е*]; *моладзь*□ — *моладдз-*[*ю*]; *песень*□ — *песн-*[*ямі*]; *пяць*□ — *пяц-*[*ю*].

**186.** Прачытайце. Пад якім нумарам запісаны словы з нулявым канчаткам, пад якім — нязменныя словы, што не маюць канчаткаў? Абгрунтуйце свой вывад.

1. Універсітэт, гусь, кніг, думак, верш, дванаццаць, паэт.
2. Кіно, адзінока, рассмяяцца, тут, плесці, трывожна, утульна.

**187.** Прачытайце тэкст. Да выдзеленых слоў падбярыце аднакаранёвыя.

КАМЯНІ ПАМЯЦІ

Віцебшчына. Край блакітных азёр, **маляўнічых** пагоркаў і задуменных бароў. Калісьці тут, у далёкі паганскі* час, на азёрных берагах нашы продкі **пакланяліся** прыродзе і яе ўсёмагутным багам.

Камяні-валуны* тут паўсюдна. Некалі іх пакінуў апошні ледавік. Цяпер яны неад'емныя ад мясцовага краявіду. Існуе **павер'е**, што камяні валодаюць магічнай сілаю. Таму людзі здаўна пакланяліся ім. Меркавалася, што сіла камянёў памагала трымаць **уладу** *(Я. Мальчэўская)*.

● Выпішыце словы, што маюць нулявы канчатак, і словы, што не маюць канчаткаў.

**188.** Прачытайце. Запішыце тэкст, дапоўніўшы сказы дадзенымі членамі. Абазначце аснову і канчатак у аднакаранёвых словах.

Спяваюць (я к? д з е? к а л і?) шпакі (я к і я?). Шпачаняты (я к і я?) таксама заводзяць (я к? д з е? к а л і?) песню (я к у ю?). Чаму ж не спяваць (я к? к а л і?). Шпакоўні (я к і я?) зроблены (я к? к і м?). Разносяцца (я к? д з е? к а л і?) песні (я к і я?).

## § 25. Корань слова (паўтарэнне). Аднакаранёвыя словы і формы аднаго і таго слова

**189.** Разгледзьце ўважліва «слоўнае дрэва», коранем якога з'яўляецца слова *лес*.



Запішыце прыклады слоў з гэтага дрэва, марфемны састаў якіх адпавядае наступным схемам:

⌒□, ⌒∧□, ¬⌒∧□, ⌒∧∧∧□.

● Ці можна корань лічыць нязменнай часткай слова? Дакажыце гэта на прыкладах.

● Намалюйце «слоўнае дрэва», коранем якога было б адно з прапанаваных слоў: *дарога, вада, дом, рака, стол, печ* (на выбар).

**Корань** — галоўная значымая частка роднасных (аднакаранёвых) слоў: *дум-а, дум-аць, дум-ка, за-дум-енны.*

У корані заключаецца агульнае лексічнае значэнне роднасных слоў: *мароз* — *мароз-ны, мароз-іць, мароз-на* (значэнне слоў звязана са словам *мароз*).

Каб вызначыць корань, трэба падабраць роднасныя словы:

*гора — гараваць, гаротны, гаротнік;*

*гара — гарысты, узгор’е, узгорак.*

**190.** Прачытайце тэкст. Адкажыце, чаму тэрміны роднасці і сваяцтва вельмі старажытныя?

Тэрміны роднасці і сваяцтва — надзвычай старажытная група лексікі. Большасць з іх дайшла да нас праз стагоддзі. Устойлівасць гэтых тэрмінаў тлумачыцца іх важным значэннем у жыцці грамадства.

Большасць слоў гэтай групы аб’ядноўваецца вакол двух старажытных каранёў са значэннем

роднасці і сваяцтва: *род- — радня, род, прырода, парода, родзічы, радзіна* (усе *родныя*); *свой — сваe, сваякі (сваяк, сваячка), сваты (сват, сваццця) (К. Панюціч).*

● Чаму важна ведаць і правільна ўжываць назвы сваяцкіх адносін?

● Выпішыце словы з падоўжанымі зычнымі, растлумачце іх правапіс.

**191.** Да наступных слоў падбярыце роднасныя. Абазначце ў словах корань.

Сіні, трава, ноч, хмара, вечар.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *вечаровы, хмарны, пераначавацьс*[с]*, утравець, падсініць, сінь, бясхмарны, вячэрні, сінеча, сінява́, адвячорак, хма́рыцца, вячэраць, вячэра, начаваць, начнік, траўка, сінець, начны, сінька, заначаваць, травяністы.*

● Складзіце сказы з аднакаранёвымі словамі.

**192.** Прачытайце тэкст. Растлумачце памылку, якую дапускаў вучань пры падборы аднакаранёвых слоў.

Адзін хлопчык на просьбу настаўніцы падабраць аднакаранёвыя словы прывёў наступныя, на яго думку, роднасныя: *косці — касцюм, кошка — кашмар.* Хлопчык сцвярджаў, што гэтыя словы маюць агульную частку *косц’ — касц’*, *кош — каш*... Ці так гэта? *(З часопіса).*

Як бачым, каб правільна знайсці марфемы ў слове, трэба ведаць сакрэты кораня.

## Сакрэты кораня

1. Падбіраючы роднасныя словы, трэба памятаць, што іх павінна аб'ядноўваць не толькі агульная частка. Гэта частка павінна перадаваць асноўнае значэнне аднакаранёвых слоў.

2. Аднакаранёвыя словы нельга блытаць з сінонімамі. Сінонімы блізкія па значэнні, але яны не маюць агульнай часткі, як роднасныя словы. Таму ***вучыць, выкладаць*** — сінонімы, але не роднасныя словы.

3. Каб правільна вызначыць корань, трэба падабраць як мага больш роднасных слоў з рознымі прыстаўкамі, суфіксамі і без іх:

*чуць — пачуць, адчуваць, недачуць, адчуванне;*

*спыніць — прыпынак, перапынак, перапыніць.*

4. Падбіраючы аднакаранёвыя словы, трэба памятаць пра чаргаванні галосных і зычных гукаў. Інакш можна не пазнаць корань, прыняць слова за чужое, няроднаснае:

*дзень — дня, дзённік;*

*вуха — вушанка, завушніцы;*

*свет — светла, светлячок, свечка, падсвечнік, асвяціць.*

**193.** Паразважайце, ці з'яўляюцца роднаснымі наступныя словы.

Горная (рака) і гора (бяда, няшчасце); ножка (дзіцячая) і нож (кухонны).

У з о р: *Носік і насільшчык.*

***Носік*** *— ласкальная або памяншальная назва да слова* ***нос****. Аднакаранёвыя словы:* ***насаты, насавы.***

***Насільшчык*** *— чалавек, які* ***носіць*** *грузы. Роднасныя словы:* ***насіць, насілкі.***

*Значыць, у словах* ***носік, насільшчык*** *лексічныя значэнні каранёў розныя. Роднаснымі гэтыя словы не з'яўляюцца.*

**194.** Прачытайце тэкст. Выпішыце аднакаранёвыя словы. Растлумачце і запішыце іх лексічнае значэнне.

Адкуль узнікла слова стол? Хутчэй за ўсё ад дзеяслова ставіць. У даўнія часы сям'я ўсаджвалася на траве ці долу ў хаце перад рассцеленым[с] абрусам, на які ставіліся розныя стравы[сн]. Месца, якое было прызначана, каб ставіць стравы, і называлася стол.

Пасля, каб было зручней, гэтае месца прыўзнялі на падпоркі (ножкі) і назвалі сталом. Члены сям'і ўсаджваліся каля яго на лаўках. Так утварылася застолле, месца для прыёму ежы, для частавання гасцей ці проста для бяседы[л], каб пасядзець ды пагаманіць. Засцілалі стол кавалкам палатна, які называлі настольнікам. Пад'еўшы і сабраўшы посуд са стала, на ім пакідалі толькі хлеб, які прыкрывалі тым жа настольнікам *(У. Юрэвіч)*.

● Дакажыце, што словы *настольнік* і *абрус* з'яўляюцца сінонімамі. Якое з гэтых слоў з'яўляецца *гаваркім*, г. зн. само «гаворыць», расказвае пра сябе?

● Якія «гаваркія» словы вы ведаеце?

● Запішыце прыклады гаваркіх слоў.

**195.** Знайдзіце «лішняе» слова ў кожным радку. Каб не памыліцца, перачытайце тэкст «Сакрэты кораня».

Смешны[ф], смяшыць, змяшаць.
Левы, леў, налева.
Вецер, віхор*, бязветраны[с].
Лес, лесвіца, лясны.
Сасна, дрэва, драўляны.
Шкадаваць, шкада, шкоднік*.
Грубы, грубка, грубізна.

● Дапоўніце рады аднакаранёвых слоў уласнымі прыкладамі. Складзіце і запішыце сказы са словамі *шкадаваць, шкада, шкоднік*.

## § 26. Прыстаўка як значымая частка слова

**196.** Разгледзьце табліцу. Утварыце і запішыце словы з дапамогай прыставак ***вы-, пры-, ад-, з-, пад-***. Дакажыце на аснове запісаных прыкладаў, што прыстаўка — значымая частка слова, якая служыць для ўтварэння слоў.

| | Слова | Значэнне |
|---|---|---|
| ***вы-*** | | |
| ***пры-*** | | |
| ***ад'-*** | *ехаць* | |
| ***з'-*** | | |
| ***пад'-*** | | |

С л о в ы  д л я  д а в е д к і:
*выехаць* — 'адправіцца куды-небудзь, за межы чаго-небудзь';

*прыехаць* — ‘перамяшчаючыся на чым-небудзь, апынуцца ў пэўным месцы’;
*ад’ехаць* — ‘аддаліцца на пэўную адлегласць’;
*з’ехаць* — ‘спусціцца адкуль-небудзь’;
*пад’ехаць* — ‘наблізіцца да каго-(чаго-)небудзь’.

**Прыстаўка** — значымая частка слова, якая стаіць перад коранем і служыць для ўтварэння новых слоў: *вучыць* — *вывучыць, недавучыць; парадак* — *беспарадак; націскны* — *ненаціскны*.

З дапамогай прыставак утвараюцца таксама формы слова: *лепшы* — *найлепшы, прыгажэй* — *найпрыгажэй*.

**197.** Прачытайце. Да выдзеленых слоў падбярыце аднакаранёвыя словы. Запішыце іх, абазначце прыстаўкі.

Брат — з камп’ютарам,
Я — з кніжкай,
А сястрыца[с] —
З лялькай, Мішкам.
Мама кажа:
— Проста гора. Сын «прыліп» да манітора.
Цэлы дзень **сядзець** гатовы,
**Пахудзеў**, такі нервовы.
Стаў няўважлівы да ўрокаў.
І **праблемы** ёсць[ф] са зрокам,
Не **чытае**, як раней.
Што рабіць, скажыце, мне?

*Н. Галіноўская.*

● Колькі часу вы праводзіце за камп’ютарам? А з кніжкаю? Як да гэтага ставяцца вашы родныя?

● Выпішыце словы, якія адпавядаюць правілу «Правапіс галосных ***е, ё, я***».

**198.** Утварыце прыметнікі з дапамогай прыставак ***без- (бяз-), бес- (бяс-)***. Падбярыце адпаведны назоўнік і запішыце словазлучэнні. Абазначце галоўнае і залежнае словы.

Працоўны (чалавек, дзень), сардэчны (прыступ, адносіны), зорны (паход, неба), адказны (сябар, заданне), месячны (адпачынак, ноч), зваротны (шлях, ноч), памылковае (рашэнне, жаданне).

- З двума словазлучэннямі складзіце і запішыце сказы.
- Растлумачце правапіс прыставак.

**199.** Да прапанаваных слоў падбярыце беларускія адпаведнікі. У беларускамоўных варыянтах абазначце прыстаўкі.

*внешкольный — пазашкольны*
внеплановый — ...

*соавтор — суаўтар*
собеседник — ...
совладелец — ...
совместный — ...
совместно — ...

**200.** Да прапанаваных слоў запішыце антонімы, далучаючы або змяняючы прыстаўку. Абазначце прыстаўкі ў словах.

Узор: *праўда — няпраўда, выехаць — прыехаць.*

**Доля**, шчасце, **здатны**, апетытны, выйсці, дасыпаць, прынесці, радасны, моцны, **дзейнасны**, тэрміновы, цікавы.

- З выдзеленымі словамі складзіце і запішыце сказы.

# § 27. Суфікс як значымая частка слова

**201.** Вызначце розніцу ў лексічным значэнні прапанаваных слоў. З дапамогай якіх суфіксаў утвораны словы?

кіраваць — кіраўнік
парушаць — парушальнік
гаспадар — гаспадарлівы
баскетбол — баскетбаліст
Алена — Аленін (падручнік)
Пятрусь — Петрусёў (бацька)

**Суфікс** — значымая частка слова, якая стаіць пасля кораня і служыць для ўтварэння новых слоў: *вясёлы — весяльчак, жарт — жартаваць — жартаўлівы, страх — страшыць.* З дапамогай суфіксаў утвараюцца таксама формы слоў: *лёгкі — лягчэйшы, рашаць — рашаў, рашала.*

Суфікс удакладняе, дапаўняе значэнне, заключанае ў корані слова. Напрыклад, корань ***чорн-*** мае значэнне — 'які мае колер вугалю, які адносіцца да самага цёмнага з усіх колераў': *чарн-е-ць* — 'станавіцца чорным'; *чар-н-іц-ы* — 'ягады чорна-сіняй афарбоўкі'; *чар-н-яв-ы* — 'які мае цёмныя (чорныя) валасы, смуглы твар'; *чарн-іч-н-ік* — 'кусты, на якіх растуць чарніцы'.

**Постфікс** (гэта значыць прымацаваны) — значымая частка, якая знаходзіцца пасля канчатка ці суфікса. Постфікс мае наступнае графічнае абазначэнне: *смяяліся, паспяшаўся, хавацца, мыецца, распраніся, чагосьці*. У словах з постфіксам аснова можа быць перарванай: *смяял-і-ся*.

**202.** Прачытайце словы. Абазначце ў іх суфіксы.

Грыбок, грыбнік, грыбны, грыбніца, грыбковы.

Растлумачце, якое значэнне надаюць суфіксы гэтым словам. Запішыце сказы з аднакаранёвымі словамі.

**203.** Выпішыце з загадак прыметнікі. Абазначце ў іх суфіксы. Якое значэнне надаюць яны словам?

1. Сінявокі, слаўны, чысты,
Галавасты, залацісты.
Дасць абноў[л] ён людзям шмат,
Будзе кожны яму рад.

2. Выраслі на градцы
Сакаўныя[л] братцы.[сн]
Доўгія, шурпатыя,
Вітамінаў шмат у іх.

3. Летам я — рагатая,
Восенню — хвастатая,
Хоць і горкая зусім,
Ды патрэбная ўсім.

4. Пад сасной шатрыстай
У загадкавым бары

Церам залацісты
Збудавалі жыхары.

● Праверце правільнасць вызначэння суфіксаў з дапамогай марфемнага слоўніка беларускай мовы.

**204.** Пазнаёмцеся з парадкам марфемнага разбору.

**Парадак марфемнага разбору слова**

1. Вызначыць часціну мовы.
2. Адзначыць, зменнае ці нязменнае слова.
3. Абазначыць канчатак, назваць яго граматычнае значэнне.
4. Назваць і абазначыць аснову слова.
5. Знайсці корань у слове, падабраўшы роднасныя.
6. Абазначыць суфікс і прыстаўку.

Прачытайце і прааналізуйце паслядоўнасць этапаў марфемнага разбору.

*Жыць (на)* ***Белай*** *(Русі).* Слова *Белай* — прыметнік, зменнае: *Белая Русь, Белай Руссю.* Канчатак ***-ай*** паказвае на жаночы род, адзіночны лік, месны склон: *сумую* (п а ч ы м?) *па Белай Русі.* Аснова *бел-* супадае з коранем. Роднасныя словы: *бель, белізна, бялець.* Графічнае абазначэнне: *Бел* *ай*.

*(Я)* ***люблю*** *Радзіму.* Слова *люблю* — дзеяслоў, зменнае: *любіш, любіць, любіце.* Канчатак ***-ю*** паказвае на 1-ю асобу, адзіночны лік, цяперашні час. Аснова *любл-* супадае з коранем. Роднасныя словы: *люба, любата, любімец, любоў.* Графічнае абазначэнне: *любл* *ю*.

***Радзіму.*** Назоўнік, зменнае слова: *Радзіме, Радзімы,* канчатак ***-у*** паказвае на адзіночны лік, жаночы род, вінавальны склон. Аснова слова *Радзім-*, корань *радз-,* роднасныя словы: *род, родны, нараджэнне.* Суфікс ***-ім-***. Графічнае абазначэнне: *Радзім* *у*.

***Пачарнеў.*** Дзеяслоў, зменнае слова, канчатак нулявы (параўн.: *пачарнела*), паказвае на мужчынскі род, адзіночны лік, прошлы час. Аснова: *пачарнеў,* корань *-чарн-*, роднасныя словы: *чорны, чарната.* Прыстаўка ***па-***, суфіксы ***-е-*** і ***-ў***. Суфікс ***-ў*** служыць для ўтварэння формы прошлага часу дзеяслова. Графічнае абазначэнне: *пачарнеў*.

**205.** Зрабіце марфемны разбор выдзеленых слоў.

**(У) палескім** (бары), (над) **вёскай, самотны** (бусел), (ты) **ляціш**, (у) **вырай.**

**206.** Прачытайце. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Выпішыце назоўнікі з суфіксамі. Якое адценне надаюць словам гэтыя суфіксы?

Дз..ўбанула варанятка
Носам літару:
— Кар, кар!
Мама, гэта ж не з..рнятка.
Ой, не сма..ны[Ф]
Твой буквар!
*М. Вайнілайціс.*

**207.** Вусна складзіце невялікі тэкст на тэму «Наша кошка» («Наш сабачка») або «Мая малодшая сястрычка» («Мой малодшы брацік»). Выкарыстайце словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі.

**208.** У адзін слупок выпішыце назвы асоб, у другі — назвы прадметаў. Параўнайце суфіксы. Якое значэнне яны надаюць словам?

Кветнік, ажыннік*, садоўнік, субяседнік, дапаможнік, жартаўнік, маліннік, алешнік, вартаўнік, градуснік, праваднік, ельнік, прадстаўнік.

## § 28. Чаргаванне зычных і галосных у аснове

У аснове слова можа адбывацца чаргаванне гукаў. **Чаргаванне** — гэта змена галосных або зычных гукаў у адной і той жа марфеме (у корані або ў суфіксе): [э]//[а]: *несці — **ня**су*, [о]//[а]: *вёска — **вя**сковы*, *сл**о**ва — сл**а**весны*, [г']//[ж]: *сня**г**і — сня**ж**ок*, [д]//[дз']: *ха**д**а — ха**дз**іць*, [о]//[і]: *зв**о**н — зв**і**нець*, [э]//[і], [ш]//[х]: *усм**еш**ка — усм**іх**ацца*.

У некаторых словах чаргуюцца спалучэнні ***ро, ло, ле*** з ***ры, лы, лі***: *к**ро**ў — к**ры**вавы*, *д**ро**вы — д**ры**вотня*, *г**ло**тка — г**лы**таць*, *б**ле**ск — б**лі**шчаць*.

Чаргаванне гукаў адбываецца ў аднакаранёвых словах: *са**до**ўнік — са**дз**іць*, *ц**э**гла — ц**аг**ляны*, *наву**к**а — ву**ч**ыць* або ў форме аднаго і таго ж слова: *са**дз**іць — са**дж**у*, *ра**к**а — ра**ц**э*, *ра**б**іць — ра**бл**ю*.

**209.** Прачытайце тэкст. Ці лічыце вы ўпрыгожанні абавязковымі ў знешнасці падлеткаў*? Падбярыце да слоў *пярсцёнак, завушніцы* аднакаранёвыя. З падабранымі аднакаранёвымі словамі складзіце і запішыце сказы.

**Штучныя** ўпрыгожанні вядомы даўно. Але толькі ў XX стагоддзі біжутэрыя* стала неад'емнай **часткай** вобраза сучаснага **чалавека**.

**Завушніцы** раней выкарыстоўваліся, каб **абазначыць** хлопчыка і **дзяўчынку**[сн]. Справа ў тым, што дзяцей да пэўнага ўзросту апраналі аднолькава. А ўпрыгожанні дазвалялі адрозніваць дзяцей. Так, дзяўчынкі насілі дзве завушніцы, хлопчыкі — адну, толькі ў левым вуху. У запарожскіх казакоў была наступная традыцыя: у левым **вуху** завушніцу **насіў** сын, якога выхоўвала адна маці. У правым — адзіны сын бацькоў.

З пярсцёнкамі звязана шмат паданняў і легенд. **Лічыцца**, што яны маюць цудоўную здольнасць вяртацца да сваіх уладальнікаў. У XV—XVIII стагоддзях пярсцёнкі часта выкарыстоўваліся ў якасці пячатак, служылі неабходнымі дэталямі ўбрання каралёў і чараўнікоў. **Акружнасць** пярсцёнка сімвалізуе не толькі шлюб, але і духоўныя абавязкі *(Я. Мальчэўская)*.

● Зрабіце марфемны і словаўтваральны разбор слоў *завушніцы, пярсцёнак, бясконцасць.*

● Да выдзеленых слоў падбярыце такія, у якіх адбываецца чаргаванне зычных або галосных гукаў.

**210.** Змяніце або ўтварыце словы так, каб у іх чаргаваліся зычныя гукі.

Узор: [л]//[ў]: *рабіла — рабіў.*

**[х]//[с’]:** гарох — ...
**[з’]//[ж]:** нізенькі — ...
**[к]//[ц]:** кружка — ...
**[к]//[ч]:** пяку — ...
**[л]//[ў]:** спявала — ...
**[в’]//[ў]:** човен — ...
**[г]//[з’]:** крыга — ...
**[г]//[ж]:** лягу — ...

**211.** Спішыце. Абазначце ў словах карані. Выдзеліце зычныя, якія чаргуюцца.

У з о р: *повен — поўны* — [в']//[ў].

лугі — на лузе
магу — можаш
вадзіць — ваджу
дошка — на дошцы
крык — крычаць
насіць — нашу
сухі — сушыць
кроў — крывёй
штука — штучны
кругі — кружыць

**212.** Змяніце або ўтварыце словы так, каб адбывалася чаргаванне галосных гукаў.

У з о р: [э]//[і]: *кветка — квітнець.*

[э]//[о]: несці — ...
[і]//[о]: збіраць — ...
[а]//[э]: грахі — ...
[а]//[о]: зара — ...
[о]//[ы]: кроўны — ...

**213.** Прачытайце тэкст. Да выдзеленых слоў падбярыце і запішыце словы, у якіх чаргаваліся б зычныя або галосныя гукі.

БЛАКІТНЫЯ ЖУРАЎЛІ

Зоя выйшла з **дому** радасная, **вясёлая**. **Учора вечарам** тата і мама **доўга сядзелі** ля яе ложка, расказвалі **казкі**[сн]. Развітваючыся, мама пацалавала дачку і сказала:

— Хай прысніцца табе яснае сонейка.

Зоі снілася сонейка — яснае, **цёплае.**

Сяргейка выйшаў з **хаты** бледны, сумны.

Учора тата і мама сварыліся. Мама **плакала.** Сяргейку доўга не спалася. Заснуўшы, бачыў матуліны **заплаканыя вочы.**

І вось **ідуць** у школу Зоя і Сяргейка. Раптам Зоя **крыкнула:**

— Паглядзі, **ляцяць**[ф] блакітныя жураўлі!

— Не блакітныя, а **шэрыя, — ціха вымавіў** Сяргейка.

У класе Зоя сказала настаўніку:

— У небе ляцелі блакітныя жураўлі. А Сяргейка **гаварыў:** «Жураўлі шэрыя...»

**Настаўнік уважліва** і ласкава паглядзеў у **вочы** хлопчыка:

— Не сумуй, Сяргейка, прыляцяць і твае блакітныя жураўлі *(Паводле В. Сухамлінскага).*

● Чаму жураўлі падаліся Зоі блакітнымі, а Сяргейку — шэрымі?

● Растлумачце знакі прыпынку ў сказах з простай мовай.

Пры змяненні некаторых слоў галосныя гукі [а], [о], [э] могуць чаргавацца з нулём гука, выпадаць: *пад**а**браць — падбяру, с**о**н — сну, п**е**нь — пня, кас**е**ц — касца.*

Галосныя гукі, якія выпадаюць пры змяненні слоў, называюцца **беглымі.** Галосныя гукі могуць выпадаць у корані і суфіксе, і тады літары ***а, о, е, ё,*** якія абазначаюць гэтыя гукі, не пішуцца: *ран**а**к — ранку, стаж**о**к — стажка, пян**ё**к — пянька, тыдз**е**нь — тыдня.*

⊙ **214.** Да прыведзеных слоў падбярыце і запішыце такія іх формы, у якіх адбываецца чаргаванне галосных з нулём гука.

Дзянёк[ф], рубель, вецер, дзень, касцёр, ле́жань[л], гарадок, кружок, сон, бабёр, беражок.

● Да аднаго слова (на выбар) падбярыце аднакаранёвыя. Складзіце і запішыце сказы з імі.

**215.** Прачытайце тэкст. Чаму слова ў назве тэксту ўзята ў двукоссе?

Якія беларускамоўныя часопісы і газеты вы ведаеце? А якія чытаеце? Якія матэрыялы ў гэтых выданнях вам падабаюцца?

«КАЛЮЧЫ» СЯБАР

**Асноўны** змест часопіса «Вожык» складаюць **мастацкія** творы: малюнкі, вершы, гумарэскі, байкі, апавяданні. **Лічаць** за гонар надрукавацца на старонках «Вожыка» і вядомыя празаікі, паэты, драматургі*, і тыя, хто робіць першыя **крокі** ў літаратуры.

У часопісе пастаянную прапіску атрымала дзіцячая старонка «Калючык». Тут друкуюцца **смешныя** малюнкі, гумарэскі, вершы, казкі, скорагаворкі, загадкі, крыжаванкі як прафесійных аўтараў, так і маленькіх **чытачоў** — хлопчыкаў і дзяўчынак *(М. Чарняўскі)*.

● Да выдзеленых слоў падбярыце такія аднакаранёвыя, каб у іх адбывалася чаргаванне зычных.

● Выпішыце 4—5 назоўнікаў, якія ў назоўным склоне маюць нулявы канчатак.

## § 29. Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на зычны (паўтарэнне)

**216.** Прачытайце. Назавіце прыстаўкі ў словах.

збегаць — **с**паліць
безгалосы — бе**с**характарны
бяздоказны — бе**с**турботны[л]
раздумаць — ра**с**тлумачыць
раззлавацца — ра**с**смяяцца
зжаць — **с**шыць

● Назавіце першыя гукі кораня ў парах слоў. Якія гэтыя гукі паводле звонкасці/глухасці?

● Зрабіце вывад, калі пішуцца прыстаўкі, якія заканчваюцца на ***з***, а калі — прыстаўкі, што заканчваюцца на ***с***.

Правапіс літар ***з*** і ***с*** у прыстаўках залежыць ад характару першага гука (звонкі/глухі) у корані. Перад звонкімі зычнымі вымаўляецца звонкі гук і пішацца літара ***з***: *бе**з**дарожжа, ра**з**знаёміцца, бе**з**густоўны*. Перад глухімі зычнымі вымаўляецца глухі гук і пішацца літара ***с***: *бе**с**карысны, бе**с**паспяховы, бя**с**цэнны*.

Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на ***б*** і ***д***, не залежыць ад вымаўлення. Яны заўсёды пішуцца нязменна: ***аб**бегчы, **ад**вячорак, **аб**касіць, **над**пісаць*.

Калі прыстаўка заканчваецца на ***з*** ці ***с***, а корань пачынаецца з іх, то адбываецца падваенне літар: *бя**зз**убы, ра**зз**лавацца, ра**сс**ыпацца, бя**с**-**с**трашны*.

В ы к л ю ч э н н і: *расада, расаднік, расол, расольнік, ростань*.

**217.** Перачытайце правіла. Перакажыце яго з дапамогай наступнай схемы.

**Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на зычны**

| | | | |
|---|---|---|---|
| з | з**м**еншыць<br>с**к**арыстаць | над | над**в**язаць<br>над**п**ілаваць |
| уз | уз**р**ушыць<br>ус**к**лікнуць | аб | аб**дз**яліць<br>аб**к**леіць |
| без | без**ж**урботны<br>бес**п**ерашкодны | ад | ад**в**есці<br>ад**к**ласці |
| раз | раз**дз**яліць<br>рас**п**аліць | пад | пад**б**егчы<br>пад**ш**ыць |

● Запішыце ўласныя прыклады на гэта правіла.

**218.** Апішыце характар свайго знаёмага, выкарыстаўшы патрэбныя словы з прыстаўкамі. Прыстаўкі ў словах абазначце, растлумачце іх правапіс.

Баязлівы, безадказны, безадмоўны, безгалосы, бясцэнны, безгаспадарлівы, безгустоўны[л], бездакорны[л], бездапаможны, беззмястоўны, бязгрэшны, бясколерны, бесклапотны, бясслаўны, бясспрэчны, бясстрашны.

**219.** Запішыце словы з патрэбнай прыстаўкай.

***З- (с-)*:** бянтэжыцца, клеіць, казаць, марозіць, кінуць, берагчы.

***Раз- (рас-)*:** квітнець, трывожыць, багацець, весяліцца, ведаць, чысціць, жаваць, званіць.

***Без-/бяз- (бес-/бяс-)*:** карысны, працоўны, дарожны, тактоўны, вольны, платны, сістэмны, шумны.

**220.** Спішыце. Устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс ***е***, ***я*** ў прыстаўках.

Б..звыніковы, б..злюдны, б..зрадасны, б..знадзейны, б..спарадак, б..спрытульны, б..скрыўдны, б..склапотны, б..счалавечны, б..схмар’е[ф], б..звольны, б..сконцы, б..сперашкодны, б..змоўны, б..злессе, б..здонны, б..згрэшны.

**221.** Назоўнікі з прыназоўнікамі замяніце прыметнікамі. Запішыце іх, выдзеліце прыстаўкі.

У з о р: *вораг* ***без*** *літасці — бязлітасны вораг.*

ноч **без** сну — ...
чалавек **без** волі — ...
матор **без** шуму — ...
прастор **без** межаў — ...
паводзіны **без** заган[л] — ...
сказ **без** дзейніка — ...
дарога **без** канца — ...
абвінавачванне **без** падставы — ...
неба **без** воблакаў — ...
слова **без** крыўды — ...

**222.** Растлумачце, чаму ў наступных словах трэба пісаць дзве літары ***з***, ***с***. Абазначце значымыя часткі ў 3—5 словах.

Беззваротны, бессаромны[с], бяссслаўе, бяззубы, рассмяшыць, раззбраенне, расступіцца, раззлавацца, бессардэчны[с], бясслёзны, бяссілле, бясструнны, бессюжэтны, бесступеньчаты.

● Складзіце і запішыце сказы з адным назоўнікам, прыметнікам, дзеясловам. Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах.

**223.** Разгледзьце малюнак «Воўк-грамацей». Знайдзіце памылкі ў сказе, які напісаў «грамацей». Якіх правілаў не ведае Воўк?




**224.** Прачытайце. Як вы разумееце сэнс прыказак? Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Растлумачце правапіс прыставак.

1. На дзень станеш — на два а..станеш. 2. Паганае зелле не ..рывай, а з коранем вырывай. 3. Не а..кладвай на заўтра тое, што можна ..рабіць сёння[ф]. 4. Хто без навукі, той як б..зрукі. 5. Ласка горы ра..біваe[сн]. 6. Сем разоў а..мерай, адзін раз а..рэж.

**225.** Утварыце і запішыце прыметнікі па схеме: *без радасці — бязрадасны*. Растлумачце правапіс утвораных слоў.

Без страху, без клопату, без сэнсу, без грошай, без снегу, без вады, без тэрміну, без прасвету, без краю, без крыўды.

## § 30. Правапіс *і*, *й*, *ы* пасля прыставак

**226.** Разгледзьце схему. Звярніце ўвагу, якім гукам — зычным ці галосным — заканчваюцца прыстаўкі.




Сфармулюйце правіла: у якіх выпадках пасля прыставак замест пачатковага каранёвага [і] пішацца літара *ы*, у якіх — літара *й*.

**Літара *ы* пішацца** пасля прыставак на зычны ў словах, корань якіх пачынаецца з *і*: *абы-граць, сысці, безыдэйны, падысці, дэзынфармацыя, субынспектар.*

**Літара *й* пішацца,** калі прыстаўка заканчваецца на галосны гук: *выйграць, перайграць, прыйсці, займенна, перайначыць**, *пераймаць.*

**Літара *і* пішацца** пасля прыставак ***між-*** (*міжінстытуцкі, міжімперыялістычны*), ***звыш-*** (*звышімклівы, звышініцыятыўны*), ***контр-*** (*контргра, контрідэя*), ***супер-*** (*суперінтэлект, суперігра*).

**Літара *і* захоўваецца,** калі каранёвы гук [і] ўтварае склад: *не-і-стотны, за-і-кацца, пера-і-грываць, за-і-нтрыгаваць.*

**Пры пераносе слова** каранёвыя літары *й, ы* ад прыстаўкі не аддзяляюцца: *пай-граць, абы-граць.*

**227.** Успомніце, якія выразы называюцца фразеалагізмамі. Устаўце літары ***й*** або ***ы*** ў прапанаваных фразеалагізмах. Растлумачце правапіс літар і значэнне фразеалагізмаў.

За..сці ў тупік, па..сці ўгору, вы..сці з-пад пяра, с..граць першую скрыпку, дарогі раз..шліся.

● З трыма фразеалагізмамі складзіце сказы.

**228.** Запішыце словы, раскрываючы дужкі і выбіраючы патрэбную літару. Растлумачце іх правапіс.

Звыш*(і/ы)*дэйны, аб*(і/ы)*лгаць, раз*(і/ы)*сціся, аб*(і/ы)*мшэлы, на*(і/й)*грываць, пера*(і/й)*граць, ня*(і/й)*начай, за*(і/й)*кацца, між*(і/ы)*нстытуцкі, пад*(і/ы)*сці, дэз*(і/ы)*нфармацыя, супер*(і/ы)*гра, ад*(і/ы)*менны, пры*(і/й)*дзе, звыш*(і/ы)*нтэлігентны, контр*(і/ы)*гра, за*(і/й)*скрыцца, раз*(і/ы)*сціся, пера*(і/й)*маць, па*(і/й)*менна.

⊙ **229.** Запішыце па-беларуску наступныя словазлучэнні і сказы.

1. Человек никогда не должен быть безынициативным. 2. Попробовали обойти город стороной, но из этого ничего не вышло. 3. Надеяться на выигрыш. 4. Найти выход из трудного положения. 5. Донимать насмешками. 6. Пойти за водой. 7. Придумать занимательный сюжет о поездке.

**230.** Запішыце словы. Растлумачце іх правапіс.

Вы..грываць, вы..грыш, вы..сце, за..нець, за..нелы, за..меннік, па..менны, пад..сці, аб..граць, аб..лгаць, ад..граць, раз..граць, пера..начыць, ня..начай.

## § 31. Утварэнне слоў. Утваральная аснова

Большасць слоў у беларускай мове **вытворныя**, утвораныя ад іншых слоў (асноў): *бяліць — пабяліць; пясок — пясчаны; слова — выслоўе; што, год — штогодні*.

Слова, якое не ўтворана ад іншых слоў, называецца **невытворным**: *вада, зямля*. У невытворных словах аснова супадае з коранем: *школ-а, зялён-ы*.

Аснова, ад якой утвараецца іншае слова, называецца **ўтваральнай**, а ўтворанае слова — **вытворным**, напрыклад: *дасканалы* → *недасканалы* — 'якія не з'яўляецца дасканалым'; *беларускі* → *беларусізм* — 'слова, запазычанае з беларускай мовы'; *ясны* → *праясні(ць)* — 'зрабіць ясным' (***-ць*** — паказчык пачатковай формы дзеяслова). Трэба дакладна вылучаць утваральную аснову, каб правільна вызначаць спосаб словаўтварэння.

**231.** Выпішыце вытворныя словы, назавіце ўтваральную аснову. Зрабіце марфемны разбор аднаго назоўніка, прыметніка, дзеяслова.

Рэч, загадка, пчала, **памірыць**, перакладчык, ружовы, сіні, неба, **клапатлівы**, напісаў, піць, хата, мова.

● Да выдзеленых слоў падбярыце аднакаранёвыя, запішыце сказы з імі.

**232.** Прачытайце народнае пада́нне[л]. Адкажыце на пытанне, заключанае ў назве тэксту. Вызначце ўтваральную аснову ў выдзеленых словах. Растлумачце значэнне слоў *му́зыка* і *музы́ка*.

Выпішыце з тэксту прыклады невытворных слоў. Утварыце ад іх вытворныя.

АДКУЛЬ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ?

Калісьці вельмі даўно жыў на нашай зямлі люты пан. Ад цямна да цямна **працавалі** на яго людзі, а яму ўсё было мала. Аднойчы ўлетку выбраўся ліхадзей паглядзець, ці хутка скончыцца жніво. Толькі мінуў лес, чуе — гучыць над полем песня. Ды такая **жаласлівая, сумная.** Спыніў каня ліхадзей, давай слухаць жнеек, якія, не разгінаючыся, **шчыравалі** з сярпочкамі над жытам. Захацеў пан адшукаць і пакараць таго, хто склаў такую сумную песню.

Паслугачы **падказалі** свайму **ўладару**, што дзесьці ў лесе жыве **дзіўны** хлапчук — музы́ка. Як зайграе на **дудачцы** вясёлую **«Лявоніху»** ці «Мікіту», дык на полі аж снапы, здаецца, скачуць. А як зайграе песню сумную, то на зямлі быццам туман сцелецца, а сонца за хмары хаваецца.

Загадаў пан злавіць маладога музы́ку. Тры дні і тры ночы шукалі хлапчука — нідзе няма яго. Нарэшце **здарожыліся,** прыселі адпачыць. Раптам чуюць — спявае хтосьці.

Шапнуў адзін панскі служка:

— Мусіць*, гэта непакорны музы́ка!

— Не, — запярэчыў другі, — гэта ж зямля спявае!

● Запішыце дыялог панскіх служкаў. Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**233.** Прачытайце тэкст. Запішыце радкі, якія перадаюць асноўную думку. Назавіце ўтваральную аснову ў выдзеленых словах. Да трох невытворных слоў з тэксту падбярыце і запішыце аднакаранёвыя, абазначце ў іх корань.

Мы едзем далёка да мора
Чужыя глядзець гарады,
Шукаем **скалістыя** горы,
Азёры **крыштальнай** вады.
І часта, так часта бывае,
Што мы ў сумятлівым жыцці
Мінаем, не **заўважаем**
Красу сваіх родных **мясцін.**

*М. Хведаровіч.*

- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў тэксце.
- Зрабіце марфемны разбор слоў *крыштальны, глядзець*.

**234.** Ад дадзеных слоў утварыце і запішыце вытворныя словы розных часцін мовы. Назавіце ўтваральныя асновы. З вытворнымі ад слова *мова* складзіце і запішыце невялікі тэкст.

Мова, колас, край, колер, дарога.

## § 32. Спосабы ўтварэння слоў: прыставачны, суфіксальны, прыставачна-суфіксальны; складанне слоў і асноў

**235.** Разгледзьце табліцу на форзацы вучэбнага дапаможніка. Пералічыце асноўныя спосабы ўтварэння слоў і дайце характарыстыку кожнаму з іх.

У залежнасці ад таго, пры дапамозе якой марфемы ўтворана слова, вызначаецца і **спосаб словаўтварэння:**

• прыставачны — далучэннем прыстаўкі (*мала — замала)*;

• суфіксальны — далучэннем суфікса (*бераг — берагавы)*;

• прыставачна-суфіксальны — далучэннем прыстаўкі і суфікса (*ахвота — заахвоціць)*;

• складанне слоў (*радыё, аматар — радыё-аматар)*, складанне асноў (*дров-ы, сек-чы — дрывасек)*.

**Прыставачны спосаб** характарызуецца далучэннем прыстаўкі да ўтваральнай асновы. Прыставачным спосабам могуць утварацца назоўнікі (*парадак — беспарадак, аўтар — суаўтар)*; прыметнікі (*шматлікі — нешматлікі, адказны — безадказны)*, дзеясловы (*кінуць — акінуць* (позіркам), *сыпаць — рассыпаць)*.

**236.** Вызначце, якое значэнне надае прыстаўка ***за-*** словам у кожным радку. Запішыце дзеясловы са значэннем ‘пачаць дзеянне’, ‘закончыць дзеянне’. Абазначце, як яны ўтварыліся.

Узор: *вучыць — завучыць (закончыць дзеянне).*

Зазвінець, заспяваць, засмяяцца.
Запрацавацца, захваліць, загаварыць.
Забегчы, зайсці, заглянуць.
Завязаць, засеяць, зацвярдзець[ф].
Загарадны, заморскі, замежны.
Замнога, занадта, загуста.

Словы для даведкі: *пачаць дзеянне; закончыць дзеянне; часовасць дзеяння; празмернасць дзе-*

*яння; той, які знаходзіцца за мяжой; перавышэнне пэўнай якасці.*

**237.** Выпішыце словы з прыстаўкай ***за-***. Зрабіце марфемны разбор нявыпісаных слоў.

Заахвоціць, зайка, забяліць, забываць, завітаць, заводскі, завушніца, завяшчаць, загадка, загад, зайздрасць, залежаць.

**238.** Запішыце прыказкі, утварыўшы патрэбныя словы прыставачным спосабам.

Язык да Кіева *(весці)*. *(Вядомая)* дарога на канцы языка. Ласкавае слоўца, як сонейка, *(грэць)*. Рана *(гаіцца)*, а злое слова ніколі. Слова не верабей: *(пускаць — не лавіць)*.

● Як прыказкі вучаць ставіцца да слова, мовы?

**239.** Прачытайце. Выпішыце з кожнага сказа аднакаранёвыя словы, абазначце ў іх галоўную значымую частку.

1. Дарога, якая праходзіць у гарах, называецца **горнай**. 2. Мясцовасць, дзе шмат лясоў, называецца **лясістай**, а дзе многа гор, — **гарыстай**. 3. Кветка, якая расце ў вадзе, называецца **вадзяной**, тая, што расце ў лесе, — **лясной**, а ў полі, — **палявой**.

● Падумайце, ад якіх слоў і з дапамогай якіх марфем утварыліся выдзеленыя словы.

Пры **суфіксальным спосабе** ўтварэння суфікс далучаецца да ўтваральнай асновы слова.

Суфіксальным спосабам могуць утварацца назоўнікі: *будаваць — будаўнік, рупны — руп-*

*насць, Украіна — украінец*; прыметнікі: *гаспадар — гаспадарлівы, шаўковы — шаўкавісты, барада — барадаты*; дзеясловы: *друк — друкаваць, вясёлы — весялець*.

Вытворныя словы, утвораныя з дапамогай суфікса, могуць адносіцца да той жа часціны мовы, што і слова, да якога далучаецца суфікс, а могуць пераходзіць у іншыя часціны мовы: *барабан* (ш т о?) — *барабаншчык* (х т о?), *смелы* (я к і?) — *смела* (я к?).

**240.** Прачытайце лічылку. Выпішыце прыметнікі, утвораныя суфіксальным спосабам.

У з о р: *лось → ласіны.*

Шустры Зай спытаў Данілку:
— Ты не хочаш мець лічылку?
Іх навалам у бары —
Колькі хочаш, набяры.
Камарыных, і зубрыных,
І лісіных, і ласіных
Назбіраеш[ф] поўны мех...
Ты лічы, а я пабег.[сн]

*П. Сушко.*

● Якія беларускія лічылкі вы ведаеце?

**Прыставачна-суфіксальны спосаб** характарызуецца адначасовым далучэннем да ўтваральнай асновы прыстаўкі і суфікса: *зіма — зазімак, дарога — прыдарожны, новы — паднавіць, права — бяспраўны.*

**241.** Прачытайце верш.

БЕЗБІЛЕТНЫ ЗАЙ

Зай **праехаў** у трамваі
Без білета неяк **летам.**
Імем Зая **называюць**
**Пасажыраў** безбілетных.
*А. Зэкаў.*

● Растлумачце, як утворана слова *безбілетны*.

● Падбярыце і запішыце да выдзеленых слоў аднакаранёвыя. Абазначце ў іх корань.

**242.** Выпішыце словы, што ўтвораны прыставачна-суфіксальным спосабам. Абазначце ў іх значымыя часткі. Запішыце слова, ад якога непасрэдна ўтворана новае.

У з о р: *прышкольны* ← *школа*.

Прадзед, прыморскі, настольны, перапісаць, школьны, выкладчык, бязмежны, пералесак, выгадаваць, прыбярэжны, зжаўцець, зрэдку.

● Праверце правільнасць выканання задання па словаўтваральным слоўніку беларускай мовы.

● З трыма словамі складзіце і запішыце сказы.

**243.** Пісьмова адкажыце на пытанне «Чаму беларускую мову называюць мілагучнай, прыгожай?». Пры адказе можна выбіраць патрэбныя словы з прыведзеных. Абазначце прыстаўкі ў выкарыстаных словах.

С л о в ы  д л я  д а в е д к і: *адшліфаваная, бясколерная, бяссэнсавая, апрацаваная, бездакорная, заблытаная, невыразная, незразумелая, напеўная, непаўторная, узвышаная, узнёслая, прыветная, аднастайная, рознакаляровая.*

**244.** Пазнаёмцеся з парадкам словаўтваральнага разбору.

## Парадак словаўтваральнага разбору

1. Вызначыць часціну мовы.
2. Калі слова зменнае, запісаць (назваць) пачатковую форму.
3. Акрэсліць лексічнае значэнне — праз аднакаранёвае слова, ад якога ўтворана новае слова (з дапамогай тлумачальнага слоўніка).
4. Назваць спосаб словаўтварэння.
5. Абазначыць утварэнне слова графічна.

## Узоры разбору

*Чужына.* Назоўнік. Лексічнае значэнне — ‘тое, што з’яўляецца чужым’. Словаўтваральная аснова — *чуж ы*. Слова ўтворана суфіксальным спосабам: *чужы* → *чужына*.

*Пачарнеў* — пачарнець. Дзеяслоў, лексічнае значэнне — ‘стаць чорным’. Словаўтваральная аснова — *чарне ць*. Слова ўтворана прыставачным спосабам: *чарне(ць)* → *пачарне(ць)*.

*Вечназялёны.* Прыметнік. Лексічнае значэнне — ‘які заўсёды зялёны’. Утвораны ад слоў *вечна* і *зялёны*. Слова ўтворана спосабам складання слоў: *вечна* + *зялёны* → *вечназялёны*.

*Прыморскі.* Назоўнік. Лексічнае значэнне — ‘каля берага мора’. Словаўтваральная аснова — *мор а*. Прыставачна-суфіксальны спосаб словаўтварэння: *мора* → *прыморскі*.

Пры словаўтваральным разборы важна адшукаць тое слова, якое раскрывае лексічнае значэнне ўтворанага.

Напрыклад, *пераплётчык* — ‘той, хто пераплятае’, таму *пераплятаць* → *пераплётчык*;

*пазашкольны* — ‘які адбываецца, праходзіць не ў школе’, таму *школа* → *пазашкольны*;

*пераход* — ‘месца для таго, каб пераходзіць вуліцу’, таму *пераходзіць* → *пераход*;

*падаконнік* — ‘дошка (пліта), якая знаходзіцца знізу, пад акном’, таму *акно* → *падаконнік*.

**245.** Прачытайце. Як вы думаеце, які падарунак быў для маці найдаражэйшым? Чаму? Сфармулюйце асноўную думку тэксту. Да якога стылю адносіцца тэкст? Запішыце тэкст па-беларуску.

ЧТО ДОРОЖЕ?

Собираясь в гости на день рождения, на новоселье, к больному, иной раз приходится думать о подарке. Многие ребята часто не знают, что подарить. Ты всегда легко это сделаешь, если вспомнишь старую сказку о двух сыновьях...

У одной матери было два сына. Оба её любили, но характеры у них были разные. И вот наступил день рождения матери.

Первый сын встал в этот день рано на рассвете. Поднялся высоко в горы и выкопал там небольшой кустик эдельвейсов. Он знал, что матери очень нравятся эти цветы. Проснулась она и увидела у себя на рабочем столике горшочек с цветами.

Второй сын только вечером вспомнил, что сегодня день рождения матери. Он быстро забежал по пути к садовнику, купил самый красивый букет роз и преподнёс его матери *(По А. Дорохову)*.

**246.** Запішыце тэкст (частку тэксту) на беларускай мове.

Тропинка обогнула куст орешника, и лес сразу раздался в стороны. Посреди поляны, в белых одеждах, огромный и величественный, как собор, стоял дуб. Казалось, деревья почтительно расступились, чтобы дать старшему товарищу развернуться во всей силе. Его нижние ветви шатром раскинулись над поляной. Снег набился в глубокие морщины коры. Толстый, в три обхвата, ствол казался прошитым серебряными нитями *(Ю. Нагибин)*.

## § 33. Утварэнне і правапіс складаных слоў (знаёмства)

**247.** Прачытайце. Выпішыце словы, утвораныя з двух і больш самастойных слоў або іх асноў. Ад якіх слоў утварыліся выпісаныя словы?

Вучань, генерал-палкоўнік, каравай, краязнаўства, агульнавядома, даўным-даўно, карабель, горад-герой, гарох, кінатэатр, дваццаціпяцітысячны, цёмна-цямнюсенька, гусі-лебедзі.

Словы, утвораныя пры аб’яднанні асноў або асобных слоў, называюцца **складанымі**: *горад-герой, краязнаўства, дваццаціпяцітысячны*. Асновы ў складаных словах аб’ядноўваюцца злучаль-

нымі галоснымі ***о(а), е(я)***: *ільн**о**валакно, адн**а**бокі, усходн**е**славянскі, жыцц**я**радасны*. Некаторыя складаныя словы ўтвараюцца без злучальных галосных: *шматразова, мімаволі, вечназялёны*.

Складаныя словы ўтвараюцца наступнымі **спосабамі:**

1) **складанне слоў** — утварэнне слоў у выніку аб'яднання двух самастойных у адно: *глыбокапаважаны, штораз, радыёперадача, рэдканаселены*;

2) **складанне асноў** — утварэнне слоў шляхам аб'яднання дзвюх ці болей асноў: *першадрукар, крыжападобны, светла-зялёны*.

**248.** Вызначце асновы ў складаных словах і скажыце, ад якіх слоў і якім спосабам яны ўтвораны.

Вадаспад, вадаплаўны, земнаводны, зернепагрузчык, зернеачышчальны, ільновалакно, Валгаград, лесаахова, легкакрылы, лінзападобны, лістапад, мышалоўка, узаемаразуменне.

Літара ***е*** ў першай частцы складанага слова захоўваецца незалежна ад месца націску ў другой частцы: *светапо́гляд, светаадчува́нне*.

Калі першай часткай складанага слова з'яўляецца аснова ***велік-//вялік-***, напісанне ***е*** або ***я*** залежыць ад месца націску ў другой частцы слова. Літара ***е*** пішацца, калі націск падае на першы склад другой часткі: *велікаду́шны, велікасве́цкі, вялікагало́вы, Вялікабрыта́нія*.

В ы к л ю ч э н н е: *Вялі́кдзень — велікóдны*.

**249.** Паўтарыце правіла на правапіс галосных ***о, э, а, е, ё, я***. Прымяніце гэта правіла пры напісанні наступных складаных слоў.

Водан..пранікальны, зерн..пагрузчык, пал..вод, земл..роб, земл..чарпалка, зерн..сушылка, ільн..завод, сам..кат, кан..вод, кон..гадоўля, зв..ралоў, з..мл..апісанне, з..мл..мерны, кан..ферма, в..лікарослы, в..лікадзяржаўны.

**250.** Прачытайце пары слоў. Вызначце, на які склад падае націск у другой частцы кожнага слова — на першы ці на другі. Адкажыце, у якім выпадку ў першай частцы складаных слоў пішацца ***о***, у якім — ***а***.

ч**а**рнавочка — ч**о**рнавалосы
д**а**ўгавечны — д**о**ўгачаканы
д**а**браякасны — д**о**брасуседскі
шыр**а**каплечы — шыр**о**кавядомы
бр**а**няносец — бр**о**неаўтамабіль
в**а**дасховішча — в**о**дапрыёмнік
з**а**латакосы — з**о**латавалосы
Н**а**ваполацк — Н**о**валукомль
п**а**ўнаважкі — п**о**ўнафарматны

Каб не памыліцца ў напісанні літар ***о, а*** ў складаных словах, патрэбна правільна вызначыць месца націску.

Калі націск падае на першы склад другой часткі, то ў першай частцы складанага слова пішацца ***а***: *н**а**васе́лле, р**а**ўнале́жны, в**а**дасхо́вішча, ск**а**рахо́д, с**а**лява́р*.

Калі ў другой частцы складанага слова націск падае не на першы склад, то ў першай частцы захоўваецца ***о***: *н**о**вабудо́ўля, р**о**ўнабако́вы, выс**о**каідэ́йны, д**о**бразычлі́вы, ч**о**рнавало́сы*.

У складаных словах часткі ***што-***, ***фота-***, ***радыё-***, ***свое-*** пішуцца нязменна: ***што****тыдневік*, ***фота****інфармацыя*, ***радыё****станцыя*, ***свое****асаблівы*. В ы к л ю ч э н н е: *фатограф*, *фатаграфія*.

У першай частцы складаных слоў літара ***э*** захоўваецца: *шэсцьсот*, *рэдказубы*, *шэравокі*, *крэдытаздольны*, а л е: *шасцісоты*, *шаснаццаць*.

Частка ***поў-*** пішацца пад націскам: ***по́ў****нач*, ***по́ў****дзень*. Частка ***паў-*** — не пад націскам: ***паў****во́страў*, ***паў****го́ддзе*, ***паў****рубля́*.

З уласнымі назоўнікамі ***паў-*** пішацца праз злучок: ***паў****-Брэста*, ***паў****-Еўропы*.

**251.** Ад наступных пар слоў утварыце складаныя. Растлумачце правапіс галосных.

Круглы і твар, чорны і рабочы, высокі і частотны, мароз і ўстойлівы, добры і душа, добры і сумленне, вада і забеспячэнне, многа і вугал, новы і Полацк, зямля і карыстанне, вада і ахоўваць, жыццё і любіць, свой і асаблівы, конь і гадаваць, левы і бераг, пяць і паверх, сярэдні і век.

● З трыма складанымі словамі складзіце і запішыце сказы.

## § 34. Складанаскарочаныя словы (знаёмства)

**252.** Прачытайце словы і растлумачце іх значэнне.

| | |
|---|---|
| лесанасаджэнне | лясгас |
| высокаадукаваны | дзяржцырк |
| дваццаціпавярховы | Белдзяржпраект |

● Словы якога слупка ўтвораны шляхам складання асноў двух і больш слоў, а якія — шляхам складання частак слоў, што ўтвараюць поўную назву?

● Чаму адны з прыведзеных слоў называюцца складанымі, а другія — складанаскарочанымі?

**Складанаскарочаныя словы** — гэта словы, утвораныя аб’яднаннем не поўных, а скарочаных асноў.

Складанаскарочаныя словы ўтвараюцца:

а) з частак слоў: *філфак* (філалагічны факультэт), *гарваенкамат* (гарадскі ваенны камісарыят), *Еўрабачанне* (Еўрапейскае тэлебачанне);

б) з часткі аднаго слова і поўнага другога: *спартклуб* (спартыўны клуб), *спецкурс* (спецыяльны курс);

в) з пачатковых літар або гукаў слоў: *РБ* (Рэспубліка Беларусь), *ЛіМ* (газета «Літаратура і мастацтва»);

г) з часткі слова і пачатковых гукаў поўных слоў: *ЭЛіМБел* (Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі), *БелТА* (Беларускае тэлеграфнае агенцтва).

Уменне правільна чытаць складанаскарочаныя словы — паказчык культуры маўлення. Адны складанаскарочаныя словы чытаюцца як простыя словы: *гарсавет, прафкам*; некаторыя чытаюцца па назвах літар: *ТБМ* (тэ-бэ-эм) — Таварыства беларускай мовы; *СП* (эс-пэ) — Саюз пісьменнікаў.

Род складанаскарочаных слоў вызначаецца па асноўным слове: *БДУ* (універсітэт) — м. р., *ВНУ* (установа) — ж. р., МАЗ (завод) — м. р.

**253.** На аснове словазлучэнняў запішыце складанаскарочаныя назвы з пачатковых літар. У дужках пазначце род складанаскарочанага слова.

У з о р: *Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт — ВДУ (м. р.).*

Аддзел тэхнічнага кантролю, Дом тэхнікі, Мінскі трактарны завод, Садружнасць Незалежных Дзяржаў, дарожна-эксплуатацыйны ўчастак, аўтаматычная тэлефонная станцыя, спецыяльнае канструктарскае бюро, Таварыства беларускай мовы, Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт, Арганізацыя Аб’яднаных Нацый.

**254.** Запішыце да кожнага пункта правіла (а, б, в, г) адпаведныя прыклады.

Біяфак, ЗША, УА, аўтастанцыя, НАН Беларусі, БелАЗ, СНД, медагляд, рыбгас, МВФ, ДАІ, АТС, ААН, ГУМ, АТН, прафбюро, БелТА, ЦУМ, журфак.

**255.** Прачытайце тэкст. Пісьмова адкажыце на пытанне «Якая роля складаных слоў у маўленні?».

Складаныя словы... Мы сустракаемся[с] з імі[ф] дома і ў школе, у паўсядзённым маўленні і пры чытанні мастацкага твора, у тэатры і кіно, слухаючы народную песню і выступленне папулярнай эстраднай спявачкі. Іншы раз і не задумваемся, што ўжытае намі слова — складанае... Авалодаць складаным словам — значыць правільна і ясна выражаць сваю думку, зразумець усю глыбіню, шчодрасць, багацце[ф] наймення *(М. Прыгодзіч)*.

**256.** Выпішыце спачатку складаныя, потым — складанаскарочаныя словы, растлумачце іх утварэнне. Што агульнае і што featured рознае паміж складанымі і складанаскарочанымі словамі?

РБ, дабрачыннасць, саракаsuccessfulножка, універмаг, лясгас, райцэнтр, кнігалюб, кнігагандаль, ветурач, ЗША, тэхкантроль, вадаспад, Цэнтрвыбаркам, ВКЛ, НДІ, Белкніга, НІА.

**257.** Расшыфруйце складанаскарочаныя словы, перакладзіце на беларускую мову, да беларускіх адпаведнікаў падбярыце прыметнікі і запішыце словазлучэнні.

Горздравотдел, сберкасса, ТЮЗ, ВДНХ, КВН, УО, Белгоспроект, БГУ, СНГ, ООО, СМИ, ООН.

З пяццю складанаскарочанымі словамі складзіце і запішыце сказы.

## КАНТРОЛЬНЫЯ ПЫТАННІ І ЗАДАННІ

**1.** Прачытайце тэкст. Якія значымыя часткі слова называюцца коранем, прыстаўкай, суфіксам, канчаткам, постфіксам? Зрабіце марфемны і словаўтваральны разбор выдзеленых слоў.

Яго імя ўспыхнула яркай зоркай на **музычным** небасхіле. Яго песні адразу **загучалі** па радыё, тэлебачанні, у канцэртных залах[сн]. Аднак самая высокая ўзнагарода для кампазітара — калі яго творы гучаць у маладзёжным гурце[л], за **бяседным** сталом. Так ста́лася[л] з песнямі «Даставай, Язэп, гармонік!», «А ў гасцях», напісанымі Зміцерам Яўтуховічам. А песня «Добрай ночы» загучала на ўсю рэспубліку, пад яе мелодыю[ф]

дзеці ідуць глядзець светлыя сны пасля **вечаровай радыёказкі** *(Паводле Л. Камінскай)*.

● Назавіце спосабы ўтварэння слоў. Прывядзіце прыклады.

● Як утвараюцца складаныя і складанаскарочаныя словы?

● Запішыце тэрміны, з якімі вы пазнаёміліся ў раздзеле «Склад слова. Словаўтварэнне і арфаграфія». Што яны абазначаюць?

● Якіх беларускіх кампазітараў вы ведаеце? А якія беларускія песні ўмееце спяваць?

**2.** Прачытайце тэкст. Якая з'ява называецца чаргаваннем гукаў? Выпішыце з тэксту выдзеленыя словы, падбярыце да іх аднакаранёвыя, у якіх адбываецца чаргаванне галосных або зычных гукаў.

Растлумачце правапіс прапушчаных літар.

Жаваранкі для мяне — свой хор. Я любіў, як яны **сп..ваюць** да **ўсходу**. Я чуў, нават бачыў, як перад зах..дам с..нца яны, нібы дамовіўшыся, **узл..таюць** высока-высока, адзін перад адным, сп..ваюць пяшчотныя песні і, як толькі агніста-пяшчотны шар **патоне**, **зма..каюць**, хаваюцца на спач..нак. Наўкол наступае **вяч..рняя ціш..ня**. Гэтую ціхую пару я добра ведаў *(Паводле І. Грамовіча)*.

● З якімі арфаграфічнымі правіламі вы пазнаёміліся ў раздзеле «Склад слова. Словаўтварэнне і арфаграфія»?

**3.** Прачытайце. Чым адрозніваюцца змяненне і ўтварэнне слоў? Запішыце формы слова і аднакаранёвыя словы да назоўніка *апавяданне*. Назавіце суфіксы ў выдзеленых словах.

На свеце сярод людзей жыве кароткае апавяданне.

Закаханы[с] юнак усё рабіў, што прасіла ці загадвала зрабіць яго каханая. Нарэшце юнак павінен быў прынесці ёй матчына сэрца. Яно ўжо ў сынавых руках. Несучы, ударыўся. І пачуў сын:

— Што, сынок? Баліць? Вельмі баліць?

За апошні год небагата дзянькоў, каб я не прыгадаў пераказанага. Прыгадваліся словы — *мама, мамка, мамачка; матуля, матулечка, матулька; мамуся, мамуська, мамусечка, мамусенька; матухна, мацейка, матачка... (Паводле Ф. Янкоўскага).*

● Сфармулюйце і запішыце асноўную думку тэксту.

**4.** У якіх выпадках пішуцца ***і, й, ы*** пасля прыставак? Запішыце 6—7 слоў, якія ілюструюць гэта правіла. Растлумачце іх правапіс.

**5.** Узнавіце правіла «Правапіс прыставак, якія заканчваюцца на зычны». Запішыце словы, устаўляючы прапушчаныя літары.

А..рываць, а..сыпаць, а..бегаць, ра..злавацца, у..хваляваць, бе..падстаўны, ро..шукі, абя..шкодзіць, ра..чахліць, бя..суфіксны, бе..праблемны, ра..таяць, а..тачыць, ра..няволіць, ра..сыпаць, па..бегчы, па..трымаць.

● Растлумачце правапіс ***е, я*** ў словах.

# ПАДАГУЛЬНЕННЕ І СІСТЭМАТЫЗАЦЫЯ ВЫВУЧАНАГА ЗА ГОД

**258.** Прачытайце. Вызначце стыль тэксту. Абгрунтуйце сваю думку.

ПЯВУЧАЯ І ЗВОНКАЯ

Шмат ворагаў было ў беларускага народа. І ўсе хацелі знішчыць тое, што дорага нашаму сэрцу. Стараліся навязаць нам сваю культуру і мову. Але перадавыя людзі нашага народа: Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч і многія іншыя — не далі знікнуць ні нашай цудоўнай мове, ні нашай самабытнай культуры... А мова наша пявучая, звонкая. Ёсць словы, якія не перакладзеш дакладна ні на якую іншую мову, не перадасі той прыгажосці, якая ў іх заключана. Ну вось, напрыклад, *калі ласка*. Тут і пачцівасць, і дабрыня, і душэўная шчодрасць, і давер, і прызнанне, і запрашэнне. Паспрабуй гэтыя словы сказаць груба, злосна або варожа. Не выйдзе. Таму што гэтыя словы з сэрца ідуць *(Э. Луканскі)*.

● Да слова *перадавыя* падбярыце блізкія па значэнні.

**259.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Дайце загаловак, які перадаваў бы тэму тэксту. Спішыце, расстаўляючы знакі прыпынку. Якімі правіламі вы кіраваліся?

Горача любіць беларус сваю Радзіму сваю зямлю якую ён багата паліў потам і крывёю. Гэта

зямля хоць і не славіцца ўраджайнасцю але шчодра ўзнагароджвае цяжкую працу народа і выхоўвае ў ім любоў да працы.

Багаты і разнастайны пейзаж Беларусі. Рукой геніяльнага мастака-пейзажыста разаслала прырода ззяючыя жывымі кветкамі дываны лугоў па далінах серабрыстых рэк Заходняй Дзвіны Дняпра Нёмана Буга. Неабдымныя **панарамы** ўзгоркаў і раўнін лясныя масівы тысячы азёр ручаёў і рэчак — вось тыповыя асаблівасці Беларусі. Зямля гэтая са старажытных часоў была зямлёю славян. Тут спрадвеку жыў і складваўся беларускі народ *(Я. Колас)*.

● Растлумачце сэнс выдзеленага слова.

**260.** Прачытайце выказванні. Якой тэмай іх можна аб'яднаць? Запішыце выказванні як сказы з простай мовай. У двух сказах словы аўтара пастаўце перад простай мовай, у двух — пасля простай мовы. Выкарыстайце сінонімы *пісаў, казаў, гаварыў, сцвярджаў*.

Узор. *Сястра пісала: «Віця, не прапускай заняткаў па музыцы».*

Той, хто не паважае родную мову, не паважае роднага народа *(І. Мележ)*.

Хто забыў сваіх продкаў — сябе губляе, хто забыў сваю мову — усё згубіў *(У. Караткевіч)*.

Глупствам з'яўляецца пагарджаць мовай адной краіны, а словы другой узносіць пад неба *(Сымон Будны)*.

Жыць з людзьмі, сустракаючыся з імі штодня, і не ведаць іх мовы — гэта значыла б прызнацца ў сваёй бяздарнасці *(У. Дубоўка)*.

**261.** Пры спісванні замест кропак устаўце прапушчаныя літары. Растлумачце іх напісанне.

ПЕРШЫЯ КАЛ..НДАРЫ

У XVII стагоддзі ў еўрапейскіх краінах багатыя людзі ўжо карысталіся кал..ндарамі, якія выраблялі з дрэва і вешалі ў парадных пакоях над камінамі.

Н..вялікія др..ўляныя кал..ндары мелі форму квадрата, на кожным баку яго пазначаўся трохмес..чны п..ры..д года. Нарэзкі, якія абазначалі дні, былі, за выключэннем н..дзелі, аднолькавай в..лічыні. Для н..дзелі рысачка была больш тоўстая і доўгая. Св..ты абазначаліся сп..цыяльнымі знакамі. Н..каторыя кал..ндары былі аздоблены багатымі ўпрыгожаннямі і каштавалі вельмі дорага *(«Пралеска»)*.

● Назавіце сродкі сувязі сказаў у другім абзацы тэксту.

**262.** Растлумачце, чаму ў адных з прыведзеных слоў ёсць прыстаўная ***в***, а ў другіх няма.

Аконны, вокны, вогненны, агонь, воблака, аблокі, вобласць, абласны, возера, азёры, вуха, Уша, ордэн, орган, арган.

**263.** Спішыце словы. Устаўце, дзе трэба, апостраф, мяккі знак або падоўжаныя зычныя.

Сузор..е, кап..ё, салаў..і, паштал..ён, уз..яднаць, кало..е, ц..мяны, зе..е, су..я, кар..ер, куп..істы, вярхоў..е, міл..ён.

**264.** Прачытайце. Падзяліце тэкст на сказы. Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Падкрэсліце граматычныя асновы ў сказах. Абазначце, чым выражаны галоўныя члены сказа.

Хораша цві..е ліпа падз..ме ветрык і за в..рсту пачуеш пах кве..ені н..бачная рака м..довага ..одару н..спынна л..ецца па яркім чэрвен..скім разнатраўі у ціхае надвор'е н..злічоная кол..касць пчол зл..таецца сюды на работу старое др..ва пасв..тлела ад цвету гуд..е шуміць пчоламі з аднае ліпы яны збіраюць мёду больш, чым з г..ктара грэчкі.

● Вызначце стыль і тып тэксту.

**265.** Вызначце розніцу ў значэнні слоў, аб'яднаных парамі.

Ве́траны — ветраны́, часо́вы — ча́савы, людско́е — лю́дскае, мя́ла — мяла́, ста́лы — сталы́, я́му — яму́, пла́чу — плачу́.

**266.** Прачытайце. Вызначце, на якой моўнай з'яве заснаваны рыфмы ў гэтых тэкстах.

1. Гаварыў дзед Полі,
Што Марынка ў полі
Разам з маці поле
Ільняное поле.

*У. Мацвеенка.*

2. Так мне лёгка і весела косіцца,
У руках я не чую касы.
Толькі неба хмурынкамі косіцца,
Абяцаючы дожджык касы.

*Ю. Свірка.*

**267.** Прачытайце і вызначце тэму тэксту. Выпішыце спачатку сінонімы, а потым — антонімы.

Песня заўсёды была спадарожніцай чалавека: у хвіліны скрухі, маркоты падтрымлівала, падбадзёрвала яго, у хвіліны радасці, весялосці рабіла гэтую радасць узнёслай. Праца і побыт людзей, іх думы і спадзяванні, радасць сустрэчы і горыч расставання — усё гэта знайшло адбітак у народных песнях, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне *(«Культура»)*.

**268.** Прачытайце тэкст. У якой сферы ён ужываецца? З якой мэтай напісаны? Якія яго асноўныя рысы? Абгрунтуйце сваю думку.

СЛЕДАВІКІ

Шмат тысяч гадоў назад л..давік прынёс на прасторы Б..ларусі абломкі скандынаўскіх гор — кам..ні-валуны. Па валунах г..олагі дакладна вызначаюць напрамак руху л..давіка. У мінулыя часы ў Полацкім княстве на гэтых валунах было выс..чана шмат розных знакаў сл..ды чалавека мядзведзя бабра і лася і іншыя. Ёсць м..ркаванне што яны былі або пагранічнымі вешкамі* паміж княствамі, або шляхавымі знакамі паказвалі шлях да брадоў ці валокаў. Беларусь з'яўляецца эталонным* рэгіёнам ва ўсім свеце па л..давіковых адкладаннях і валунах *(Г. Ланеўскі)*.

● Спішыце, падзяляючы тэкст на абзацы, устаўляючы літары ***е*** або ***я*** і прапушчаныя знакі прыпынку. Якімі правіламі вы карысталіся?

● Вызначце, як звязаны сказы ў тэксце: паслядоўна ці паралельна.

**269.** Прачытайце тэкст. Пра што ён? Назавіце прафесійныя словы. Ці зразумелі б вы тэкст, каб аўтар не патлумачыў словы, якія ўжываюць сплаўшчыкі? Якія словы засталіся незразумелымі? У якім слоўніку можна высветліць іх значэнне?

Вясной, калі рака ўваходзіць у берагі, сплаўшчыкі браліся вязаць плыты. Адзін канец доўгай бомы* замацоўваўся на беразе, другі — на сярэдзіне ракі, упоперак цячэння. Затым мужыкі пачыналі расцягваць бусакамі* бярвенне са шліхтаў*. Каб лягчэй было качаць з берага да вады, пад ніз падкладалі лягеры — тры-чатыры простыя жэрдкі. Цяпер звычайна вяжуць бярвенне ў лаўкі* дратамі. Але як помніць Зазыба, то яны з бацькам вязалі свае плыты лужбой — лазовымі вяроўкамі, якія іншы хто называў кардзялямі. Да канца такой лазовай вяроўкі мацаваўся кнэпень, альбо, прасцей, драўляны клін. Калі плыт нарэшце быў звязаны, ззаду на яго прыбівалі скрынку з валікам, на якім мацавалася доўгая шырага — завостранае знізу палена, каб можна было пры неабходнасці тармазіць альбо зусім спыняць плыт *(І. Чыгрынаў)*.

**270.** Прачытайце. Пра што гэты тэкст? Назавіце ўстарэлыя словы. Чаму яны сталі ўстарэлымі? Складзіце план і вусна перакажыце змест тэксту.

Спачатку людзі здабывалі агонь трэннем сухіх кавалачкаў дрэва. Пазней чалавек навучыўся высякаць агонь з дапамогай крэменю. Дастаткова было некалькі разоў красануць, каб іскры запалілі загадзя падрыхтаванае паліва. Звычайна гэта быў трут. Яго выраблялі з грыба-трутавіка, што расце на дрэвах у выглядзе губы.

Крэсіва, або грамух, насілі на паясах з левага боку ў магалейках — скураных капшуках. Магалейкі зашморгваліся скураным матузком*.

Але толькі запалка вырашыла праблему хуткага і лёгкага здабывання агню. Ад трэння галоўкі запалкі аб маську каробачкі ўспыхвае агонь. Хімія скараціла працягласць трэння *(С. Цярохін)*.

**271.** Падбярыце і запішыце асобнымі групамі сінонімы-фразеалагізмы са значэннем ‘вельмі хутка бегчы’, ‘уводзіць у зман’, ‘займацца бескарыснай справай’, ‘вельмі падобны на каго-небудзь’.

Без аглядкі, вадзіць за нос, ва ўсе лапаткі, замазваць вочы, з усіх ног, і крошачкі пабраў, муціць галаву, насіць ваду рэшатам, на ўвесь дух, пераліваць з пустога ў парожняе, таўчы ваду ў ступе, як дзве кроплі вады.

● З адным фразеалагізмам кожнай групы складзіце і запішыце сказы.

**272.** Спішыце, устаўляючы, дзе патрэбна, прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

Маленькая п..лянка ў гушчары[сл] а..гароджана старым парканам і над ёй уз..няўся в..лізны і стройны дуб. Гонкае і роўнае дрэва вы..ягнулася ў вышыню каб зял..най в..рхавінай[сл] зірнуць на аколіцу. Кара дуба такая то..стая што ў ёй можа схавацца пастаўленая рабром далонь.

Не менш як тром рослым мужчынам трэба ўзяцца за рукі, каб а..хапіць яго стан. Каля трыццаці метраў увысь цягнецца гонкі ствол без ад..інага сучка і дупла а потым ра..кідаецца пяццю доўгімі і моцнымі сукамі. Калі б узабрацца на

в..рхавіну, перад вачыма а..крылася б цудоўная панарама Палес..ся *(Паводле Т. Хадкевіча)*.

● Знайдзіце ў тэксце формы аднаго і таго ж слова і аднакаранёвыя словы.

● Выпішыце з тэксту прыклады слоў наступнага саставу:

⌒□, ⌒∧□.

**273.** Якімі часткамі адрозніваюцца словы, аб'яднаныя ў пары?

Конік — коннік, гутарковы — гутарлівы, падпісаць — надпісаць, збудаваць — забудаваць.

● Якую ролю ў мове адыгрываць прыстаўкі і суфіксы?

**274.** Спішыце, выбіраючы патрэбную літару (літары). Растлумачце свой выбар.

1. Лес наступаў і ра*(зс/сс)*тупаўся, лужком зялёным ра*(з/с)*рываўся *(Я. Колас)*. 2. Пушысты іней а*(б/п)*сыпаў кожную галінку *(Х. Жычка)*. 3. Мой сын, да бацькі пад*(ы/ый)*дзі, паслухай сказ аб Беларусі *(Я. Пушча)*. 4. А*(д/т)*гудзе завея, далеч ад*(ы/і)*мгліцца *(В. Шніп)*. 5. На градзе між дзвюх разор за*(і/й)*рдзеўся памідор *(В. Гардзей)*. 6. Луг адазваўся лесу працяжна, бор а*(д/т)*гукнуўся стары *(Я. Колас)*.

**275.** Спішыце сказы. Пазначце, ад якога слова і якім спосабам утвораны выдзеленыя словы.

1. Залатою **завушніцай** паківала мне вярба *(С. Басуматрава)*. 2. Будзіць промень зямелую сінь, зазвінеўшы **дрыготкай** струною *(Т. Мельчанка)*. 3. Там, дзе верасень пройдзе **ўрадлівы**, дзе **крынічны** заб'ецца выток, упадзе на зямлю **сіратлівы** адгарэлага лета лісток *(Р. Баравікова)*.

# Тлумачальны слоўнік

**Адзі́мак,** -мку, *м.* Веснавы замаразак.

**Ажы́ннік,** -у, *м.* Зараснік ажыны — расліны з чорнашызымі ягадамі.

**Арце́ль,** -і, *ж.* Аб'яднанне асоб для сумеснай працы; таварыства.

**Асве́р,** -а, мн. -ы, -аў, *м.* (разм.). Частка калодзежнага жураўля ў выглядзе доўгай жэрдкі, пры дапамозе якой дастаюць вядро з вадой.

**Біжутэ́рыя,** -і, *ж.* Упрыгожанні, зробленыя з некаштоўных камянёў і металаў.

**Бо́ма,** -ы, *ж.* Вялікі кол з зачэсаным плоскім канцом у плытагонаў; рычаг.

**Буса́к,** -а́, *м.* Доўгі шост з металічным вастрыём і крукам на канцы; багор.

**Валу́н,** -а́, *м.* Вялікі камень, абломак скалы, некалі прынесены ледніком.

**Вандрава́ць,** *-ру́ю, -ру́еш, -ру́е.* 1. Падарожнічаць, рабіць падарожжа. 2. Жыць, часта мяняючы месца жыхарства, пастаянна перамяшчацца.

**Ве́шка,** -і, *ж.* Шост, тычка, звычайна з пучком травы ці галінак на канцы, для абазначэння мяжы, напрамку руху.

**Віду́шчы,** -ая, -ае. Які мае зрок, бачыць або здольны бачыць.

**Віхо́р** і **ві́хар,** *ві́хру, м.* 1. Імклівая кругавая плынь ветру. 2. *перан.* Пра імклівае, бурнае праяўленне чаго-небудзь. *Віхар падзей.*

**Выто́к,** -у, *м.* 1. Месца, адкуль выцякае рака, ручай. 2. *перан.* звычайна мн. вытокі, -аў. Пачатак, першакрыніца чаго-небудзь. *Вытокі культуры.*

**Вярзя́,** -і́, *ж.* (разм.) Недарэчнасць, бязглуздзіца.

**Вярэ́нька,** -і, *ж.* (абл.). Сплецены з бяросты кошык з накрыўкай.

**Гамані́ць,** *гаманю́, гамо́ніш, гамо́ніць.* 1. Весці гаворку, размаўляць з кім-небудзь. 2. *перан.* Ствараць бязладныя гукі, шумець, гусці. *Гамоняць пад ветрам палі.*

**Ген**, -а, *мн.* ге́ны, -аў, *м.* Адзінка спадчыннага матэрыялу, якая перадае нашчадкам прыметы і ўласцівасці бацькоў.

**Дазі́метр**, -а, *м.* Прыбор для вымярэння доз іанізуючых выпрамяненняў.

**Дзірва́н**, -у́, *м.* Зямля, густа зарослая травой.

**Дзю́на**, -ы, *ж.* Узбярэжны пясчаны пагорак, навеяны ветрам.

**Дзярка́ч**, *дзеркача́, м.* Стары венік без лісця; галень.

**Драмату́рг**, -а, *м.* Пісьменнік, які піша драматычныя творы.

**Душагу́бка**, -і, *ж.* Вузкая няўстойлівая лодка.

**Ёдка**, *прысл.* Холадна і вільготна.

**Журба́**, -ы́, *ж.* Смутак, сум, туга.

**Ільі́нка**, -і, *ж.* Сорт грушы.

**Канферансье́**, *нескл., м.* Артыст, які аб'яўляе нумары праграмы на эстрадным прадстаўленні, канцэрце і займае гледачоў у перапынках паміж нумарамі.

**Ла́ўка**, -і, *ж.* Бярвенне, звязанае ў адзін рад для сплаву па вадзе.

**Ле́тка**, *прысл.* Апрануты па-летняму лёгка.

**Малізы́ннік**, -а, *м.* Ласун.

**Матузо́к**, -зка́, *м.* (разм.). Шнурочак для завязкі.

**Му́сіць**, *му́шу, му́сіш.* 1. Не мець магчымасці зрабіць інакш. 2. У значэнні пабочнага слова *мабыць, магчыма.*

**Но́сьбіт**, -а, *м.* Той, хто надзелены чым-небудзь, можа лічыцца прадстаўніком чаго-небудзь. *Народная інтэлігенцыя — носьбіт нацыянальнай культуры.*

**Павільён**, -а, *м.* 1. Невялікі лёгкі будынак у парках, садах. 2. Будынак для экспанатаў на выстаўцы.

**Пага́нскі**, -ая, -ае; (устар.). Нехрысціянскі, якой-небудзь іншай веры.

**Паджа́ры**, -ая, -ае. Рыжа-буры або бура-чорны (пра масць жывёл).

**Падле́так**, -тка, *м.* Хлопчык або дзяўчынка ў пераходным ад дзяцінства да юнацтва ўзросце (ад 12 да 16 гадоў).

**Пазе́мкі**, -ак; *адз.* паземка, -і, *ж.* Суніцы.

**Паку́та**, -ы, *ж.* Вялікая фізічная або душэўная мука.

**Парцье́ра**, -ы, *ж.* Занавеска з цяжкай тоўстай тканіны на дзвярах або вокнах.

**Перайна́чыць**, *-на́чу, -на́чыш, -на́чыць.* Перамяніць, перарабіць.

**П'едэста́л**, -а, *м.* 1. Узвышэнне пад помнік, калону, пастамент. 2. Узвышэнне, на якое ўзнімаюцца пераможцы ў спартыўных спаборніцтвах, конкурсах для атрымання ўзнагароды.

**По́льдэр**, -а, *м.* Адгароджаны дамбай, асушаны і апрацаваны нізінны ўчастак.

**По́сах**, -а, *м.* Доўгі кій, на які абапіраюцца пры хадзьбе.

**Саксау́л**, -а, *м.* Невысокае бязлістае дрэва, якое расце ў пустынях.

**Сука́ць**, *сучу́, су́чаш, су́ча.* (разм.) *перан.* Моцна месці, уздымаць і кружыць снег.

**Трысцё**, -я́, *н.* Зараслі вадзяных ці балотных раслін з раскідзістай мяцёлкай.

**Уверцю́ра**, -ы, *ж.* 1. Музычны ўступ да оперы, аперэты, балета. 2. Невялікі музычны твор, які складаецца з адной часткі.

**Хару́гва**, -ы, *ж.* (уст.). 1. У старажытнасці баявы вайскова сцяг. 2. Асобная вайсковая часць, якая мела свой уласны вайсковы сцяг.

**Хо́днік**, -а, *м.* (разм.). Вузкі доўгі дыванок, які рассцілаецца на падлозе.

**Цыба́ты**, -ая, -ае. Высокі, хударлявы.

**Шко́днік**, -а, *м.* 1. Жывёла, насякомае, якія прыносяць шкоду (пашкоджанне, урон, страту) у лясной, сельскай або хатняй гаспадарцы. 2. Чалавек, які прычыняе шкоду.

**Шлі́хта**, -ы, *ж.* Акуратна складзены рад бярвенняў.

**Эквілібры́ст**, -а, *м.* Артыст цырка, які выконвае практыкаванні пры няўстойлівым становішчы цела, напр. на канаце.

**Эксцэ́нтрык**, -а, *м.* Артыст цырка, які выконвае камічныя нумары.

**Этало́нны**, -ая, ае. Узорны.

**ЮНЕ́СКА**. Арганізацыя Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі, культуры.

# Руска-беларускі слоўнік

Бе́здна — ***бе́здань***
Бесе́да — ***гу́тарка, размо́ва***
Вселе́нная — ***Сусве́т***
Вспомина́ть — ***успаміна́ць***
Горшо́чек с цвета́ми — ***вазо́н***
Есте́ственный — ***звыча́йны***
Из ко́жи ле́зет — ***са ску́ры ле́зе***
Ишь — ***бач, бач ты***
Каза́лось — ***здава́лася***
Многообра́зный — ***разнаста́йны***
На рассве́те — ***на світа́нні, на до́світку, на зо́лку***
Нра́виться — ***падаба́цца***
Объедине́ние — ***аб’ядна́нне***
Обще́ние — ***зно́сіны***
Обще́ственный — ***грама́дскі***
Обы́чный — ***звыча́йны***
Одностилево́й — ***аднастылёвы***
Ожида́я — ***чака́ючы***
Подо́бно — ***ніб́ы***
Поме́ха — ***перашко́да***
По пути́ — ***па даро́зе***
Поссо́риться — ***пасвары́цца***
Преподнести́ — ***падарава́ць***
Прихо́дится — ***даво́дзіцца***
Развлече́ние — ***заба́ва, паце́ха***
Раста́лкивать — ***расшту́рхваць***
Речь — ***гаво́рка***
Смыслово́й — ***сэ́нсавы***
Совме́стный — ***суме́сны***
Сочета́ться — ***спалуча́цца***
Творе́ние — ***твар́энне, твор, ствар́энне***
Худо́жественный — ***маста́цкі***
Эдельве́йс — ***эдэльве́йс***

# Падказкі, адгадкі

Практ.

**2.** Хто не ідзе, той не спатыкаецца.

**61.** Аддана, развітанне, паддубовік.

**83.** Люты, санкі, карп (парк), Радзіма.

**86.**

Вёска

Трактар вясёлы
Бурчыць на дарозе.
Чырвоны снягір
Пяе на бярозе.

**132.** 1. Скрыпічным. 2. З вяршаванай. 3. Калодзежны. 4. Прыстасаванне ў выглядзе якара, якім дастаюць прадметы з вады (мае назву *кошка*). 5. Зараснік рабіны.

**133.** 1. а) Сталёвае кавадлачка для кляпання кос;
б) страва, прыгатаваная з дранай бульбы;
в) грыб.
2. а) Жывёліна, бык;
б) буякі;
в) начная балотная птушка сямейства чапляў, якая, апусціўшы дзюбу ў ваду, утварае гукі, падобныя да рову бугая.

**170.** Ракі зімуюць у норках, глыбокіх ямах на дне вадаёмаў.
Са скуры лезе (вылазіць) вуж, змяя.
Спіць з адкрытымі вачыма заяц.

**203.** 1. Лён. 2. Агуркі. 3. Цыбуля. 4. Мурашнік.

# ЗМЕСТ

## ФАНЕТЫКА І АРФАЭПІЯ. ГРАФІКА І АРФАГРАФІЯ



## ЛЕКСІКА. ФРАЗЕАЛОГІЯ

## СКЛАД СЛОВА. СЛОВАЎТВАРЭННЕ І АРФАГРАФІЯ

(Назва і нумар установы агульнай сярэдняй адукацыі)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |

Вучэбнае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч, **Лаўрэль** Яўген Мяфодзьевіч, **Васюковіч** Людміла Сяргееўна, **Несцяровіч** Віктар Іванавіч

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА**

Вучэбны дапаможнік для 5 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

У дзвюх частках

Частка 2

2-е выданне, перапрацаванае і дапоўненае

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*. Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*. Мастакі *М. У. Мароз, А. А. Красноўская*. Вокладка мастака *І. А. Усенкі*. Камп'ютарная вёрстка *А. М. Кісялёва*. Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік*

Падпісана ў друк 04.03.2014. Фармат 60×90/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,0. Ул.-выд. арк. 5,8.
Тыраж 128 000 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі» Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа». ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск